

**Багдан “Данчык” Андрусышын**

Выдатны беларуска-амэрыканскі
сьпявак і ведамы грамадзкі працаўнік
на культурнай беларускай ніве ў ЗША.


# БЕЛАРУСКІ СЬВЕТ

**BYELORUSSIAN WORLD**

№ 19 (48) — 1987

## ВЫ ШУМЕЦЕ, БЯРОЗЫ

Словы Н. ГІЛЕВІЧА — Музыка Э. ХАНКА

У ТЭМПЕ ВАЛЬСА

* Верхні голас выконваць толькі з 2-га куплета.

Вы шумеце, шумеце
Нада мною, бярозы,
Калышыце, люляйце
Свой напеў векавы.
А я лягу-прылягу
Край гасьцінца старога
На духмяным пракосе
Недасьпелай травы.

А я лягу-прылягу
Край гасьцінца старога.
Галавой на пагорак,
На высокі курган,
А стамлёныя рукі
Вольна ўшыркі раскіну,
А нагамі ў даліну —
Хай накрые туман...

Вы шумеце, шумеце
Нада мною, бярозы,
Асыпайце, мілуйце
Ціхай ласкай зямлю.
А я лягу-прылягу
Край гасьцінца старога:
Я здарожыўся трохі,
Я хвілінку пасплю.

Вы шумеце, шумеце
Нада мною, бярозы,
Асыпайце, мілуйце
Ціхай ласкай зямлю!..



## ДАНЧЫК

Гэтак беларуска-амэрыканскае грамадзтва назвала свайго ведамага сьпевака Багдана Андрусышына. Бадай ня будзе памылкай сказаць, што няма на захадзе ніводнае беларускае сям'і, якая ня чула-б песьняў у выкананьні Данчыка, або ня мела-б кружэлкі ці касэткі з Данчыкавымі песьнямі. Ведамы Данчык таксама й на Беласточчыне, дзе ён гасьцяваў, ды слухаюць песьні Данчыка гэтаксама на Беларусі.

Правільна назвалі беларускія журналісты Данчыка "беларускім фэнамэнам". Так, Данчык — фэнамэнальны сьпявак, фэнамэнальны папулярызатар і беларускай песьні й беларускай культуры. Ды ў Данчыкавым выпадку — гэта сямейнасьць, працяг традыцыі, — якую пачалі ягоныя пра-прадзеды, бо-ж Багдан Андрусышын-Данчык — гэта праўнук братоў Луцкевічаў. І выдатна Данчык вядзе далей традыцыю прадзядоў — услаўленьне й пашырэньне веды пра Беларусь.

Данчык нарадзіўся ў Нью Ёрку. Тут ён атрымаў пасьлядоўную адукацыю, уключна з вышэйшай. Як-жа лёгка ў такім асяродзьдзі згубіцца, забыцца пра сваю этнічнасьць, занядбаць мову бацькоў і стацца звычайным, шэрым чалавекам у нью ёрскім натоўпе.

Але Данчык — іншы! Ён адменны. Ён чалавек глыбокае душы й высокіх палётаў, — ён этнік.

Напоўніў ён сваё сэрца ідэяю змаганьня за праўду, і таксама любоўю да ўсяго ўзьнёслага ды прыгожага. Данчык у сіле веку. Усё яму пад сілу, асабліва выбівацца вышэй і вышэй . . .

Г. Няміга (ЗША.)

## ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГІМНАЗІЯ НА ЧУЖЫНЕ

Пра заснаваньне беларускае гімназіі газэта «Бацькаўшчына» 6-га студзеня 1945 году пісала:

«У 1945 годзе сярод беларускіх эмігрантаў, якія, у выніку вайны, апынуліся ў Рэгенсбургу (Баварыя) знайшліся патрыёты-энтузіясты, што побач із агульнаарганізацыйнай ды на той час ня вельмі бясьпечнай працай праняліся ідэяй утварэньня сярэдняй нацыянальна-беларускай школы на эміграцы.

Ідэя гэтая на той час была даволі сьмелай, бо беларусы былі раскіданы па ўсёй Нямеччыне па розных шматнацыянальных ДП лягерох і зь ведамых прычынаў часта нават баяліся прызнацца да сваёй нацыі. Сярод-жа тых, якія тады ў Рэгенсбургу адважыліся ня толькі выйсьці на сьвет Божы, але й тварыць першую нацыянальную беларускую групу й Камітэт у Нямеччыне, не хапала ні матэрыяльных сродкаў, ні адпаведнай колькасьці кантыгенту самых вучняў.

Аднак тагачасны Акругова Беларускі Камітэт у чэрвені 1945 г. разважыў правідлова. Нягледзячы ні на якія перашкоды пачынаць належны ход і кірунак працы.

Так яно й было ў запраўднасьці. Вестка аб заснаваньні гімназіі хутка разышлася па ўсёй Нямеччыне. Пачалі наплываць вучні, удалося сьцягнуць з розных куткоў высокакваліфікаваныя пэдагагічныя сілы й 22-га сьнежаня 1945 г. пачаць першы навучальны год».

Для гімназіі ў Рэгенсбурскім ДП лягеры было прызначана памешканьне ў мураваным будынку, дзе клясы былі прасторныя, сьветлыя, адпаведна ўмэбляваныя. Заняткі пачыналіся а 8-ай гадзіне рана. На дырэктара гімназіі быў запрошаны д-р Аляксандар Орса, ведамы пэдагог з бацькаўшчыны, а выкладчыцкі пэрсанал быў укамплектаваны прафэсыйнымі сіламі, пераважна з вышэйшай асьветай, у наступным складзе:

1. Яп. Апанас, а пазьней а. М. Лапіцкі — Рэлігія.
2. Антон Адамовіч — Гісторыя.
3. К. Бітус — Матэматыка.
4. Аўген Кахноўскі — Бел. мова й літаратура
5. Мікола Кругловіч — Рысаваньне.
6. Мікола Кунцэвіч — Лацінская мова.
7. Янка Муха — Матэматыка.
8. д-р А. Орса (дырэктар) — Геаграфія.
9. Натальля Орса — Беларуская мова.
10. Мікола Равенскі (кампазытар) — Сьпевы.
11. Мечыслаў Рагажэцкі — Матэматыка.
12. Іна Рытар — Нямецкая мова.
13. д-р Янка Станкевіч — Гісторыя Беларусі.
14. д-р Станіслаў Станкевіч — Беларуская літаратура
15. Зінаіда Станкевіч — Прыродаведа.
16. Парфіры Трысмак — Фізыка й хімія.

17. д-р мэд. А. Баргановіч — Анатомія.

Усе вучні й настаўнікі гімназіі былі на ўтрыманьні арганізацыі УНРРА. Для прыезджых вучняў была арганізаваная бурса. У той час навучалася ў гімназіі 86 вучняў. Усе яны належалі да згуртаваньня беларускіх скаўтаў.

«Дзякуючы самаахвярнай працы, — падавала далей газ. «Бацькаўшчына» — усяго калектыву й дырэкцыі на працягу першага году ўдалося ўлажыць навучальныя праграмы, падабраць адпаведныя навуковыя дапаможнікі й зрабіць першы выпуск матурыстых, якія падаліся ў вышэйшыя нямецкія школы».

27. 7. 1946 г. беларускі лягер ДП разам зь гімназіяй быў пераселены з Рэгенсбургу ў Міхельсдорф каля места Кам (Баварыя) на былое вайсковае лётнішча з дзесяткам драўляных баракаў побач зь вёскай таго-ж назову.

Адзін зь лепшых баракаў з шырокім калідорам і сьветлымі, прасторнымі пакоямі адміністрацыя ДП лягеру прызначыла гімназіі. Заняткі, як і раней, трывалі ад 8-ай гадзіны раньня да 2-ой гадзіны папоўдні.

1-га верасьня 1946 году пачаўся новы школьны год. Гімназія мела ўсе 8 клясаў і належала да тыпу рэальнай гімназіі з лацінай. Амэрыканскія акупацыйныя ўлады й УНРРА, што забясьпечвала матэрыяльны бок, ня ўмешваліся ў працу гімназіі, не патрабавалі на перагляд ці зацьверджаньне праграмаў.

У 1946/47 навучальным годзе ў гімназіі было 105 вучняў: у 1-ай клясе — 26, у 2-ой — 23, 3-ай — 13, 4-ай — 5, 5-ай — 9, 6-ай — 14, 7-ай — 6 і ў 8-ай — 7.

Першы выпуск матурыстых адбыўся 26-га верасьня 1946 году ў прысутнасьці настаўнікаў, усяе гімназіяльнае моладзі, іхных бацькоў, жыхароў лягеру й прадстаўнікоў УНРРА. Атэстаты сталасьці атрымалі: Вініцкі Яраслаў, Занковіч Анатоль, Заруцкая Аляксандра, Мілевіч Аляксандар і Трусэвіч Лявон.

Пасьля прывітаньня матурыстых сіламі мастацкіх гурткоў гімназіі, быў дадзены паказ самадзейнасьці — камэдыя Далецкіх «Міхалка», харавыя сьпевы, балет, спартовыя выступленьні й дэклямацыі.

22-га сьнежаня 1946 году гімназія ўрачыста адзначыла першыя ўгодкі свайго існаваньня. Пасьля афіцыйнае часткі, драматычны гурток гімназіі паставіў камэдыю Крапіўніцкага «Па рэвізіі». Усе аматары-акторы справіліся са сваімі ролямі ня горш за прафэсыйных актораў, а найлепш выказаліся вучні — Шчэцька Васіль і Куліковіч Натальля. Апрача тэатральнага паказу хор прасьпяваў колькі народных і патрыятычных песьняў, а дэкляматары выказвалі свае здольнасьці ў беларускай, нямецкай, ангельскай і лацінскай мовах.

19-га красавіка 1947 году адбыўся 2-гі выпуск матурыстых. У ўрачыстых абставінах атэстаты сьпеласьці атрымалі: Юзэфа Брэчка, Кастусь Вайцяхоўскі, Янка Жучка, Янка Запруднік, Натальля Куліковіч, Уладзімер Цьвірка й Васіль Шчэцька.

У працягу другога навучальнага году колькі асобаў здалі пры гімназіі матуральныя экзаміны экстэрнам.

28-га красавіка 1947 году была прынятая наступная пастанова:

«З мэтаю ўвекавечаньня памяці гэнія беларускага народу, клясыка беларускай літаратуры — Янкі Купалы, Пэдагагічная Рада Першае Беларускае Гімназіі ў Баварыі ў дзень 5-х угодкаў гібелі паэты ўрачыста пастанаўляе:

1. Прысвоіць гімназіі імя Янкі Купалы й менаваць яе адгэтуль Першая Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы ў Баварыі.
2. Стварыць пры гімназіі фонд імя Я. Купалы для прэміяваньня найлепшых вучняў.



3. Выдаць гімназіяй кніжку аб жыцьці й творчасьці Я. Купалы.

Ажыцьцявіць апошні пункт пастановы з розных прычынаў не ўдалося.

Гімназісты ў пазашкольным часе прыймалі актыўны ўдзел у спартовым, драматычным і літаратурным гуртка. Сябры літаратурнага гуртка пад кіраўніцтвам выкладчыка беларускае мовы й літаратуры Аўгена Каханоўскага на сваіх зборках паглыблялі веды з літаратуры, абмяркоўвалі спробы собскага творства ды ладзілі адзначэньні ўгодкаў беларускіх пісьменьнікаў. Гэтак 10-га лютага 1947 году адзначаліся 140-ыя ўгодкі ад дня нараджэньня аднаго з выдатнейшых беларускіх пісьменьнікаў 19-га стагодзьдзя — В. Дуніна-Марцінкевіча. Рэфэрат пра літаратурную творчасьць пісьменьніка чытаў сябра літаратурнага гуртка, вучань 8-ай клясы Уладзімер Цьвірка.

Літаратурны гурток у 1947 годзе выдаваў ратататарным спосабам свой часапіс «У вырай», дзе зьмяшчаліся кароткія апавяданьні й вершы сяброў гуртка, а таксама хроніка з жыцьця гімназіі ды літаратурны каляндар на 1947 год.

Драматычны гурток, пад кіраўніцтвам настаўніка гісторыі, даваў свае паказы на ўсіх сьвяткаваньнях свайго ДП лягеру ды нават выяжджаў з пастаноўкамі ў іншыя лягеры ДП.

Спартовай дзейнасьцю кіраваў настаўнік Янка Муха. Створаныя былі дзьве спартовыя групы ад 7-мі да 12 асобаў для хлапцоў і дзяўчат. На лягерных сьвяткаваньнях групы гэтыя пасьпяхова выступалі на сцэне з рознымі жывымі пірамідамі. На футбольным пляцы ў Міхельсдорфе футбольная дружына гімназістаў мела каля 15-ці спаборніцкіх спатканьняў зь нямецкімі школьнымі дружынамі.

Усе гімназісты належалі да беларускага скаўцкага згуртаваньня. 1-шы Сьцяг Скаўтаў імя К. Каліноўскага з пачаткам 1947 году пачаў выдаваць свой скаўцкі часапіс «Напагатове», у якім падавалася шмат вестак пра ладжаньне сяброўскіх вечароў, пра традыцыйныя абходы хатаў з Каляднай зоркай, спартовыя спаборніцтвы зь іншанацыянальнымі скаўтамі, скаўцкія вогнішчы, палявыя гульні, курсы ды скаўцкія зьлёты.

У Міхельсдорфе скаўты арганізавалі выдавецкую супалку «Крыніца», з мэтай выдаваньня для школаў неабходных падручнікаў. У 1947 годзе ратататарным друкам былі выданы: «Роднае слова», — чытанка для 2-ой клясы пачатковай школы, чытанкі для дзяцей 1-га году навучаньня й для 3-ай клясы. Для сярэдняй школы выдана: Верасень «Паэтычная стылістыка», А. Кавалеўскі «Шапка няўглядка», пьеска для дзяцей ды паэмы Я. Купалы «На Куцьцю» й «Магіла льва». Апрача гэтага былі выдадзены: «Скаўцкі спадарожнік», «Рэгулямін скаўцкіх спраўнасьцяў» ды часапіс літаратурнага гуртка гімназіі.

1947/48 навучальны год пачаўся 1-га верасьня. Пэрсанальны склад настаўнікаў быў той самы, што і ў папярэднім навучальным годзе за выняткам д-ра Янкі Станкевіча й К. Бітуса, якія ў Міхельсдорф не пераехалі. Затое прыбылі зь іншых лягероў ДП у лік выкладчыкаў гімназіі:

1. Аляксандар Аканові (памёр 30. 6. 1948 г.) — фізыка.
2. Гіпаліт Паланевіч — агульная гісторыя.
3. Аляксандар Смаль — матэматыка.

Асобы гэтыя мелі вышэйшую асьвету й шматгадовы стаж пэдагагічнай працы. Апрача іх былі прызначаны сп. Юрка Заруцкі на выкладаньне нямецкай мовы й сп. Сыцько на выкладаньне ангельскай мовы. Мелі яны сярэднюю асьвету й адпаведныя курсы мовы.

Гімназію на пачатку году наведвала 126 вучняў, зь якіх на працягу году выбыла ў іншыя лягеры або на эміграцыю 20 асобаў. У канцы навучальнага году пераведзена ў старэйшыя клясы, у сярэднім з добрымі адзнакамі, 74 вучні.

20-га сакавіка 1948 году адбыўся 3-ці выпуск матурыстых. Атэстаты сьпеласьці атрымалі: Ганчарэнка Галіна, Карась Леанід, Кіпель Вітаўт, Лебёдкін Віктар, Панаў Васіль, Савёнак Зора, Урбан Павал і Харытончык Вольга.

Як падавала газэта «Бацькаўшчына» ад 2. 5. 1948 году:

«17. IV. 1948 г. моладзь, настаўнікі й бацькі ўрачыста адзначылі выхад у сьвет гэтых новых сьпелых грамадзянаў 3-га выпуску. Пасьля набажэнства ў мясцовай лягернай царкве, а 16-ай гадзіне ў залі лягеру пачалося ўрачыста адчыненае пасяджэньне Пэдагагічнае Рады гімназіі, дзе была прачытана пастанова Рады й Экзамінацыйнай камісіі й выдадзены атэстаты сьпеласьці абсальвэнтам, зь якіх абітурыентка Ганчарэнка Галіна атрымала пахвальную грамату за выдатныя здабыткі ў навуцы. Матурыстых віталі: дырэктар гімназіі, клясны ўзгадавальнік, прадстаўнік Зоннага Дапамаговага Камітэту, які пры гэтым сказаў: «Мяне цешыць тое, што стараньні Дапамаговага Камітэту аб заснаваньні беларускае гімназіі не пайшлі на дарма, жывымі сьведкамі чаго — матурыстыя 3-га выпуску». Ад жыхароў лягеру вітаў камандант лягеру, апякун скаўцкага штандару «Баварыя» й прадстаўнік скаўтаў.

Складаючы падзяку Пэдагагічнай Радзе й нацыянальным арганізацыям за стварэньне абставінаў, пры якіх моладзь можа здабываць асьвету, а таксама усім прысутным за ўвагу, выступіў ад імя абітурыентаў Вітаўт Кіпель, запэўніўшы, што надзеі пакладаныя старэйшымі, выпускнікі апраўдаюць і ніколі ня сплямяць імя беларуса.

Пасьля ўрачыстай часткі адбыўся невялікі канцэрт, зладжаны самымі матурыстамі й старэйшымі вучнямі. А. Кавалеўскі й П. Мядзьвецкі напісалі адмыслова для матурыстых маленькія скэчы: «Госьці з Марока» й «Суд», якія былі выкананыя.

Пасьля канцэрту адбылася сяброўская гарбатка настаўнікаў, матурыстых і іхных бацькоў.

Сёлетні выпуск апынуўся ў шчасьлівейшых абставінах за папярэднія, бо ўжо 19. IV. 48 г. чатыром зь ягоных сяброў трэба ехаць у Тубінген, дзе яны ўжо залічаны на унівэрсытэт».

У працягу ўсяго навучальнага году дзеялі літаратурны, драматычны, спартовы гурткі й скаўтынг. Вучні гімназіі прыймалі актыўны ўдзел у адзначаньні мастацкай самадзейнасьцю гадавінаў нацыянальных сьвятаў ды розных школьных і лягерных урачыстасьцяў. Як падавала газ. «Бацькаўшчына» ў № 24 (27) ад 11. VII. 1948 г.:

«Сход бацькоў вучняў гімназіі ў канцы навучальнага году аднадушна выказаў сваю шчырую ўдзячнасьць дырэкцыі й пэдагагічнай радзе за іхную пазытыўную й цяжкую працу. Тут-жа на гэтым сходзе выявілася, што настаўніцтва наша ў даволі цяжкім матэрыяльным стане. Не заўсёды й ня ўвесь штат атрымвае нават мізэрныя IPA-ўскія харчовыя працоўныя дадаткі. Настаўнікі маюць куды менш, як звычайныя лягерныя службоўцы, бо вымушаныя дзяліць міжсобку гэтыя дадаткі. У будучыні канечна трэба як бацькам гэтак і лягернай адміністрацыі падумаць аб адпаведным падтрыманьні пэдагагічнага пэрсаналу».

Нягледзячы на ўсе цяжкасьці настаўніцкі склад гімназіі з гонарам выканаў заданьні ўзгадаваньня ў нацыянальным дусе беларускае моладзі ды ўзбраеньня яе дастатковымі практычнымі ведамі.



«Сьведчаць аб гэтым 3 выпускі матурыстых, бальшыня якіх студыюе ў розных нямецкіх вышэйшых школах ды курсах замежных моваў з выдатнымі адзнакамі. Сьведчыць аб гэтым высока пастаўленая праца сярод моладзі — скаўтынг зь ягонымі выданьнямі літаратуры для моладзі... Як толькі гімназія замацавалася й здабыла ўплыў на моладзь ды прыдбала славу паважнай нацыянальнай навучальнай установы, яна мусіла вытрымаць наступ дэструкцыйных сілаў, якія імкнуліся разбурыць і зганьбіць яе». («Бацькаўшчына» № 2 (46) ад 6. 1. 1946 г.).

Адзін з найбольш ганебных выпадаў супраць гімназіі здарыўся 6-га травеня 1948 году. У гэты дзень старым праваслаўным звычаем скаўты-вучні гімназіі абходзілі сьвята Сьв. Юр'я — апякуна міжнароднага скаўтынгу. Штогоду праграма сьвята пачыналася малітвай у царкве й канчалася скаўцкім вогнішчам, дзе ля высьвячаных скаўцкіх штандараў ад скаўтаў прыймалася прысяга на вернасьць Богу й Бацькаўшчыне. Як падавала газэта «Бацькаўшчына» № 16 (19) ад 16. 5. 1948 году:

«Урачыстасьць, згодна з праграмай, прынятай у паразуменьні з выкладчыкам рэлігіі гімназіі й настаяцелем царквы у Міхельсдорфе а. Койкам, мусіла пачацца а 10-ай гадзіне ўраньні набажэнствам у царкве, на якое скаўты ў ліку 150 асобаў павінны былі прыйсьці арганізаваным парадкам з сваімі штандарамі. І вось усе тры сьцягі ў скаўцкай уніформе ўрачыста выстраіліся ля царквы. Па адданьні адпаведных гонараў сваім сьвятым штандарам, яны, як заўсёды дагэтуль, у асысьце ганаровае варты ўрачыста ўносяцца ў царкву. Як толькі штандар дзявочага сьцягу, на абодвух баках якога напісана «Беларусь», апынуўся ў царкве, на скаўтаў адразу кінуліся царкоўны стараста М. Запольскі, Апанас Алехнік і М. Парэцкі. Яны зьдзерлі штандар з дрэўка, кінулі яго на падлогу й пачалі таптаць нагамі. У гэтым мамэнце ў царкву быў унесены штандар хлапцоўскага сьцягу... Гэтая-ж самая кампанія кінулася й на другі штандар, зьдзерла яго, кінула на падлогу й пад ботамі замігацелі бел-чырвона-белыя палосы зь літарамі нашага нацыянальнага імя... Скаўты падабраўшы з падлогі свае зьняважаныя штандары выйшлі з царквы. Яны адмаршыравалі на спартовы пляц, прымацавалі штандары да дрэўкаў і, аддаўшы ім належны гонар, адзін па адным падыходзілі да сваіх нацыянальных штандараў, ставалі на калені ды са сьлязамі на ваччу цалавалі іх... Гэты абуральны факт у лягеры Міхельсдорф ужо ня першы выпадак... выступленьняў супраць беларускіх інстытуцыяў, а галоўна супраць гімназіі, народнай школы й беларускіх скаўтаў... Беларуская гімназія ў знак пратэсту ў пятніцу 7-га травеня не займалася».

Усе нацыянальныя беларускія эміграцыйныя групы й арганізацыі, даведаўшыся пра гэты нячуваны выпадак, выказвалі ў сваіх рэзалюцыях абурэньне й пагарду адміністрацыі лягеру Міхельсдорф, якая культывавала ў сваім асяродзьдзі чарнасотніцкія, расейска-шавіністычныя элемэнты.

Нягледзячы на гэта, спробы разбурэньня беларускага школьніцтва ня спыняліся й таму ўрад Згуртаваньня Беларускіх Настаўнікаў на эміграцыі супольна з Школьным Інспэктарам Беларускага Нацыянальнага Камітэту на амэрыканскую зону Нямеччыны вымушаны быў выдаць наступнае асьветчаньне да ведама беларускага

грамадзтва:

«Як гімназія імя Янкі Купалы, так і пачатковая школа ў Міхельсдорфе зьяўляюцца арганізуючымі цэнтрамі нашага школьніцтва на эміграцыі. Адгэтуль выйшлі школьныя навучальныя праграмы, тут укладаюцца падручнікі для навучаньня для ўсіх нашых школаў. Тут-жа пры гімназіі ёсьць і цэнтр скаўтынгу, які на эміграцыі адыйграў ужо вельмі паважную нацыянальна-узгадавальную ролю сярод нашае моладзі. Таму гэтыя ўстановы й зьявіліся аб'ектам пагрому з боку ранейшае дывэрсыйнае «Міжлягернае Рады», а цяперашняга яе спадкаемцы, г. зв. «Беларускага Цэнтральнага Прадстаўніцтва».

Спробы разбурэньня пачаліся з пачатковай школы ў мінулым годзе. Гэтыя спробы не ўдаліся, дзякуючы цьвёрдай паставе бацькоў і заступніцтву ўладаў IPO. Далей ідзе цэлы шэраг правакацыяў і нападаў на скаўтынг аж да адданьня кіраўнікоў скаўтынгу ў Амэрыканскі суд, які іх апраўдаў, і аж да таптаньня скаўцкіх сьцягоў уключна.

Пагром Гімназіі быў плянаваны ад даўжэйшага часу, а генэральны напад быў прызначаны на 15. VII. 1948 г. Фікцыйны «Школьны Камітэт», які створаны лягернай адміністрацыяй — вернай служкай зарубежніцтва — паклікаючыся на сваю пастанову ад 18. 5. 1948 г. прыслаў звальненьне дырэктару гімназіі сп. др. А. Орсу з патрабаваньнем перадаць усе справы выкладчыку маляваньня ў гімназіі Кругловічу. Апошні ня мае ніякае пэдагагічнае асьветы, а толькі сярэдня-тэхнічную. Адміністрацыя лягеру, якая фактычна інсьпіравала ўсю справу, праз каманданта Галожына заявіла аб сваёй згодзе з пастановай гэтак званага «Школьнага Камітэту». Новы «дырэктар» адразу прыступіў да ўкамплектаваньня «пэдагагічнага складу» гімназіі, паклікаючы чатырох (з 13-ці) гімназіяльных настаўнікаў, якія ад такога «гонару» адмовіліся, а рэшту такіх самых неадпаведных людзей, як і сам... Натуральная рэч, што бацькі вучняў зьвярнуліся да адпаведных уладаў IPO з скаргай на ўчынкі адміністрацыі й з просьбай не дапусьціць да разгрому гімназіі. На просьбу бацькоў прадстаўнікі IPO ў Рэгенсбургу 23. 7. 1948 г. правялі ў лягеры Міхельсдорф рэфэрэндум у справе Гімназіі на якім пры тайным галасаваньні двума трэйцямі галасоў бацькоў было пастаноўлена захаваць Гімназію пры старым пэдагагічным складзе з дырэктарам др. Орсам на чале». (газэта «Бацькаўшчына» 5. IX. 1948 г. № 26/29).

Нападкі на Гімназію аднак не спыняліся. Пасьля ўспомненага рэфэрэндума г. зв. «Беларускае Прадстаўніцтва» выпусьціла чарговы пашквіль, у якім вініла гімназію ў «партыйнасьці» й «антырэлігійнам узгадаваньні». Гэтыя пашквільныя закіды ўспомненае вышэй асьветчаньне адкідала наступным:

«..усе настаўнікі пад паглядам рэлігійным, спэцыяльна-навучальным і асабіста маральным у поўнай беззаганнасьці, бо пры прыйме настаўнікаў бралася пад увагу не палітычнае перакананьне, а пэдагагічная падрыхтаванасьць. Ня было ніводнага выпадку, каб гімназія звольніла з працы настаўніка за яго палітычныя перакананьні. Для навучаньня рэлігіі ў Гімназіі прызначаны сьвятар а. Лапіцкі. Дзённыя заняткі пачынаюцца й канчаюцца малітвай... Гімназія выпускае сьпелых, добра падрыхтаваных навукова й нацыянальна-сьведамых грамадзян, якія самі змогуць даць ацэну й такім зьявішчам, як дзейнасьць зарубежніцтва. Вось гэта й ёсьць сольлю ў вочах зарубежнікаў, вось з гэтай прычыны яны й называюць гімназію партыйнай, замест таго, каб назваць нацыянальнай; таму яны й намагаюцца яе разбурыць».



У зьвязку з рэарганізацыяй ДП лягероў Міхельсдорф і Віндзішбэргэрдорф, гімназія з цэлым пэдагагічным складам і бальшынёю вучняў пераехала 6-га кастрычніка 1948 году ў лягер Віндзішбэргэрдорф, таксама недалёка места Кам. Атрымаўшы ў новым лягеры асобны будынак для клясаў і бурсы, гімназія адразу-ж пачала нармальныя заняткі. Вучняў у гімназіі было 61, а настаўнікамі працавалі:

1. Сьвятар а. Аляксандар Лічко — Рэлігія.
2. Дырэк. Др. А. Орса — Прыродаведа й Геаграфія.
3. КахаНоўскі Аўген — Бел. мова й літаратура.
4. Куліковіч Натальля — Ангельская мова.
5. Кушаль Натальля — Француская й нямецкая мовы.
6. Муха Янка — Матэматыка й фіз. узгад.
7. Орса Натальля — Беларуская мова.
8. Паланевіч Гіпаліт — Гісторыя й прапэдэўтыка філязофі.і
9. Рагажэцкі Мечыслаў — Матэматыка.
10. Рытар Інна — Нямецкая й ангельская мовы.
11. Трысмакоў Парфіры — Фізыка й хімія.
12. Целеш Мікола — Прыродаведа.
13. Якубовіч Ніна — Лацінская мова.

23-га кастрычніка 1948 году гімназістыя разам з вучнямі пачатковае школы зладзілі для жыхароў лягеру свой першы канцэрт мастацкае самадзейнасьці на новым мейсцы. Праграма канцэрту, уложаная пераважна з гумару й беларускае музыкі, была сустрэта зь вялікім адабрэньнем прысутных. Найбольшае ўражаньне выклікалі — камічная сцэна зь беларускае апэрэты «У выраі» (лібрэта Н. Арсеньнявай, музыка кам. М. Куліковіча-Шчаглова), беларускія народныя песьні ў выкананьні актэту гімназістак, камічная імправізацыя зь лягернага жыцьця, інсцэнізацыя казкі «Рэпка» й гумарыстычнае апавяданьне Ядвігіна Ш. «Важная фіга». Удалы канфэранс з дасьціпным гумарам дапоўніў прыгожы канцэрт.

У травені 1949 году адбыўся 4-ты выпуск матурыстых. На аснове вусных і пісьмовых экзамінаў атэстаты сталасьці атрымалі наступныя асобы: Бакуновіч Уладзімер, Калоша Кастусь, Кісель Сьцяпан, Мурог Леанід, Орса Галіна й Чарнецкая Гэртруда. У сувязі з чародным пераводам ДП лягеру ў новае мейсца, навучальны год у гімназіі закончыўся 4. 6. 1949 году.

У лягеры Віндзішбэргэрдорф беларусы пражылі да 15. 6. 1949 году, адкуль былі перавезены ў места Розэнгайм (ніжняя Баварыя). Сюды пераехалі беларусы з Остэргофану, Альтэнштату і Мітэнвальду.

Пяты 1949/50 навучальны год Беларуская Гімназія ймя Я. Купалы пачала на новым мейсцы, у ДП лягеры Розэнгайм, дзе ёй адміністрацыя прызначыла патрэбную колькасьць пакояў-клясаў у былых мураваных кашарах. Клясы ўмэбпявалі школьнымі лаўкамі, табліцамі, сталамі й крэсламі перавезенымі з папярэдняга месцазнаходжаньня гімназіі. Навучальны год пачаўся 1-га верасьня 1949 г. Заняткі па-ранейшаму трывалі ад 8-ай гадзіны раніцы да паловы другой папаўдні.

Пэдагагічная Рада гімназіі 9. 8. 1948 году пастанавіла, згодна з статутам ІМКА-ІВКА, забараніць вучням гімназіі да 15-ці гадовага веку наведваць лягерны клюб ІМКА-ІВКА. У сувязі з павялічэньнем эміграцыйнага руху ДП зь Нямеччыны ў іншыя краі была прынята пастанова пра павялічэньне гадзінаў працы дзеля хутчэйшага заканчэньня праграмы ў 7-ай і 8-ай клясах ды пачаць матуральныя

экзаміны.

Праграмны матэрыял 8-е клясы ў прысьпешаным тэмпе быў закончаны ў пачатку лістапада й да матуральных экзаменаў былі дапушчаны: Янка Раковіч і Кастусь Семянчук. Ім, экзамінацыйная камісія, на аснове вусных і пісьмовых экзамінаў, пастанавіла 12. 11. 1949 году выдаць атэстаты сьпеласьці.

Перад Калядным перапынкам 1949/50 навучальнага году вучні 7-ай клясы былі пераведзены ў 8-ю, зрэарганізаваную пазьней у матуральны курс, які закончылі, здалі экстэрнам экзаміны й атрымалі атэстаты сьпеласьці: Алег Дубяга й Валянтына Шэўчук.

У 1949/50 навучальным годзе ў гімназіі было 85 вучняў, а настаўнікамі працавалі:

1. Іераманах Уладзімер Тамашчык — Рэлігія.
2. Дырэктар Алесь Вініцкі — Геаграфія.
3. Антон Адамовіч — Беларуская мова.
4. Арсеньнева Натальля — Нямецкая й француская мовы.
5. Аўген Каханоўскі — Беларуская мова й літаратура.
6. Віталі Кажан — Нямецкая мова.
7. Мікола Кунцэвіч Ангельская мова й лаціна.
8. Янка Муха — Матэматыка й фіз. узгадав.
9. Паланевіч Гіпаліт — Гісторыя.
10. Рагажэцкі Мечыслаў — Матэматыка.
11. Камп. Мікола Равенскі — Сьпевы.
12. Савёнак Апалёнія — Беларуская мова.
13. Усевалад Фамін — Фізыка й хімія.
14. Часлаў Ханяўка — Прыродаведа.
15. Чайкоўскі Дзімітры — Рысаваньне.
16. Аляксандар Корбут — Прыродаведа.
17. Павал Яськевіч — Ангельская мова.

Вучні гімназіі, якія належалі да скаўтынгу, тварылі ў Розэнгайме 6-ты Сьцяг Згуртаваньня Беларускіх Скаўтаў. Апрача звычайных скаўцкіх заняткаў, мелі яны некалькі цікавых спаборніцтваў з камандамі іншых народаў. Найцікавейшымі спасярод іх былі 3 футбольныя мэчы, зь якіх 2 выйграных у сэрбскай каманды Розэнгайму. Валейбольны мэч з камандай сэрбаў закончыўся таксама перамогай беларусаў.

Для жыхароў лягеру была арганізавана скаўтамі бібліятэка, якая налічвала каля тысячы кніжак.

Навучальны 1949/50 год закончыўся 3-га чэрвеня 1950 году. У сувязі з эміграцыяй беларусаў у розныя краі сьвету Першая Беларуская Гімназія імя Янкі Купалы ў Баварыі, пасьля 4-х гадоў і 5-ці месяцаў, перастала існаваць.

Заснаваньне ды існаваньне Беларускае Гімназіі на чужыне ў 1945-50-х паваенных гадох было зьявай унікальнай. Тварылася яна й працавала ў непрактыкаваных нідзе дагэтуль абставінах, бо ў чужым акружэньні, але сярод сваіх, хоць і выбітых з нармальнай каляіны жыцьця вайной, але ўсё адно сваіх.

Унікальным было тое, што дарослыя, дзеці, моладзь — уся група людзей сямейных і самотных, разам з сваімі арганізацыямі, школай, царквой, апынулася ў адным месцы, дзе ўсе падзеі й жыцьцё адбываліся на віду ўсіх. Мела гэта свае плюсы й мінусы.



Дадатнім была лёгкасьць склікaньня, у меру патрэбы, сходаў ці зборак розных самадзейных групаў. Гімназія дапамагала захоўваць родную мову й звычаі праз сваіх гадунцоў і настаўнікаў, што былі складовай часткай цэлага калектыву жыхароў ДП лягеру. У пазашкольную дзейнасьць Гімназіі, побач з вучнёўскай моладзьдзю, уключаліся ўсе хто цікавіўся адпаведнай галіной дзейнасьці. Тварыліся супольныя спартовыя дружыны, харавыя ды мастацкай самадзейнасьці гурткі.

Гэтак, у апошні год існаваньня Гімназіі, пад кіраўніцтвам настаўніка гісторыі, рэжысэра гімназіяльнага драматычнага гуртка, працавала агульна-лягерная драматычная група, якая паставіла «Паўлінку», апрача гэтага, стварыла гумарыстычны вакальна-музычны г. зв. джас «Заткні вушы», які ўжываў у сваім выступленьні побач з акардэонам, скрыпкай яшчэ й музычныя эфэкты ад пазвоньваньня на падвешаных ды адпаведна напоўненых вадой флашках і «ігрой» на грабенчыках і піле. З рэпартуару джазу найбольшым посьпехам карысталася «Полька Янка».

Неабходна адцеміць, што за ўвесь час існаваньня Гімназіі вялікую ролю споўніла скаўцкая друкарска-выдавецкая група, якая, апрача ўспомненых вышэй выданьняў, забясьпечвала друкаванымі канспэктамі лекцыяў для вучняў старэйшых клясаў, бо падручнікаў ня было.

Настаўніцкі пэрсанал імкнуўся прывіць вучням старэйшых клясаў навык самастойнасьці ў вывучаньні прадмету, як неабходнай якасьці ў вышэйшых студыях. З гэтай мэтай вучні старэйшых клясаў апрацоўвалі рэфэраты зь гісторыі й літаратуры.

Зразумела, што дадатнім бокам жыцьця моладзі была, хоць і дарыўчая, сутычнасьць зь іншамоўным акружэньнем. Гэта давала магчымасьць пазнаваць іншую мову практычна.

За ўвесь час існаваньня Гімназіі 44 асобы (скончылі гімназію 32 асобы, здалі матуральныя экзаміны экстэрнам 12 асобаў) беларускай моладзі набылі права да студыяў у вышэйшых навучальных установах. Трэба зазначыць, што амаль усе яны выкарысталі гэтае права й цяпер працуюць у розных прафэсіях па цэлым сьвеце. Шмат гадунцоў Гімназіі закончылі сярэнюю асьвету ў розных краёх пасьля эміграцыі зь Нямеччыны ды таксама здабылі вышэйшую прафэсыйную асьвету. Некаторыя з гадунцоў гэтае Беларускае Гімназіі займаюць цяпер значныя пасады й цешацца заслужанаю пашанаю свайго й чужога грамадзтва.

Вітаўт КІПЕЛЬ (ЗША)

## Заўвагі аб Беларуска- -Амэрыканскай Літаратуры

За пачатак беларуска-амэрыканскае паэзіі трэба ўважаць вершы І. Дубровіка (З. Дубровіка), якія ён зь Нью Ёрку пасылаў у «Нашу Ніву» й якія газэта выдрукавала. Ніжэй іх перадрукоўваем:

### З ЧУЖЫНЫ

Не вясёла, другі,
У чужым жыць краю!
Маё сэрца рвецца
К свайму полю, гаю...

У думцэ, як жывая,
Стаіць родна хатка —
На бок пахілілась,
Як з бяды мы, братка.

І ў далёкім краю
Доля нас замучыць,
Адно толькі знаеш,
Што, як жыць, навучыць.

Вучыць свой куточэк
Шанаваць, любіці,
Сваім ветрам дыхаць,
Сваім хлебам жыці.

Нігдзе нас ня прымуць
З паздраўленьнем братнім,
Толькі ўсё з насьмешкай,
Як якіх астатніх...

Усюды мы забіты,
Голавы спусьцілі, —
Што і мы ёсьць людзі,
Здаецца, забылі.

Трэба схамянуцца,
Пачуцца свабодным
І стаць чалавекам,
Да жыцьця прыгодным.

Злучыцца ў грамаду
За лепшую долю,
За чужой ня бегаць
У далёкім полю...

**З. Дубровік,** гор. Нью Ёрк (у Амэрыцэ).
(«Наша Ніва», № 17, 1909. б. 225)



### К БРАТУ ПА НЯДОЛІ

(Пасьвячаю В. Усарову)

Доляй у чужыну закінут далёка
Ты цяжкае жыцьце вядзеш.
Нявольнік, жывеш меж чужых адзінока,
Вузенькаю сьцежкай ідзеш.
Ідзеш - замарыўся, кругом усё чужое,
Нет мейсца прысесьці, спачнуць,
Усе стараняцца, жыцьцё гаратное —
Тут сэрца людзкога ня чуць.
Тут брат ў паганбеньні, у цяжкай няволі
І целам, і духам забіт,
Закрыта дарога да шчасьця і долі,
І братней насьмешкай пакрыт.
Ніхто для памочы рукі не падставіць,
І сэрцэ, як камень маўчыць;
З сабою, як брата ніхто не пасадзіць,
Гатоў затаптаці, згубіць.
Сьмяецца над братам, бо сэрцам ня чуе;
Ня вырос людзей зразумець;
Бо ў сэрцы нявольнік, нядолю гадуе
Яму ў жыцьці братэрства ня мець.
Дарога іх цёмна, бяз сэрца, бяз волі,
Не бачаць, як людзі жывуць;
Шукаюць братэрства, ды братняй нядолі,
Дзе ціха, спакойна гніюць.
Дык далей, хоць цяжка, ад іх мы адойдзем,
Шукаймо дзе вера, дзе трохі сьвятлей, —
Мо з цяжкаго жыцьця да братэрства мы выйдзем,
Пойдзем, бо ад гнілі, да сьвету скарэй.

**І. Дубровік,** (Амэрыка, Нью Ёрк)
(«Наша Ніва, № 2, 1910. б. 28)

Гэткім парадкам беларуска-амэрыканская паэзія сягае на старонкі «Нашай Нівы». Ад часоў-жа «Нашай Нівы» беларуска-амэрыканская паэзія разьвіваецца далей.

У дваццатых-трыццатых гадох былі старыя беларускія эмігранты, якія пісалі вершы ў беларускай мове. Гэтыя вершы дэклямаваліся на ранішніках і культурных імпрэзах беларускіх грамадаў у Чыкага й Нью Ёрку, аднак у друку гэтых вершаў расшукаць, пакуль што, не ўдалося.

У сярэдзіне сраакавых гадоў беларуская газэта «Беларускія Навіны», якая друкавалася ў Францыі, у Парыжы, надрукавала верш Івана Шульгіна з Амэрыкі (старога эміграната) прысьвечанага «Матцы-беларусцы». Вось гэты верш:

На сьвеце многа матак добрых,
Што сьвет любоўю грэюць;

Нясуць цяжар малых, бясьсільных, —
Жыцьцё тварыць умеюць.
Найлепша Матка-Беларуска —
Яна фундамэнт краю,
Хоць доля цяжка, сьцежка вузка
Бяз птушкі-шчасьця з раю.
Усіх любоўю саграваець
І добрая ўсім маці;
Пры працы мучыцца, канаець,
Каб лепш жылося ў хаці.
Палюбім Маці-Беларуску!
Яе мы не забудзем!
Тварыць дабро, любоў ды ласку,
І мы заўсёды будзем!

**Іван Шульгін**, Чыкага, ЗША.
(«Беларускія Навіны», Парыж, 3 (8), 1947).

Ад канца саракавых гадоў беларуска-амэрыканская паэзія ў беларускай мове разьвілася ладна шырэй. Па другой сусьветнай вайне ў Злучаныя Штаты Амэрыкі прыехалі колькі беларускіх паэтаў, якія пачыналі пісаць і друкавацца на бацькаўшчыне, але паводле тэматыкі сваіх твораў, напісаных ужо ў Амэрыцы, іх, бясспрэчна, можна ўважаць таксама за паэтаў беларуска-амэрыканскіх. Гэта Натальля Арсеньнева, Уладзімер Клішэвіч, Масей Сяднёў, Рыгор Крушына, Янка Золак, Міхась Кавыль, Янка Юхнавец ды іншыя.

Друкаваліся гэтыя паэты пераважна ў розных амэрыканскіх-беларускіх газэтах і часапісах, колькі «амэрыканскіх вершаў было надрукавана ў альманаху беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў «Ля Чужых Берагоў» (Выдавецтва «Бацькаўшчына», Мюнхэн, 1955), у зборніках. У часе адзначэньня 200-годзьдзя ЗША ў 1976 годзе, шмат хто зь іх прысьвяціў ладна радкоў «новай бацькаўшчыне», як прыкладам, Міхась Кавыль у вершы — «Дзякую, Амэрыка».

З роднымі разлучаны,
Зь нядоляю заручаны,
І на сэрцы ляжаць цяжкіх думаў разоры.
Дзякую, Амэрыка,
Мая дарагая Случчына,
За ўтульны куток ды за белыя зоры!

Натальля Арсеньнева гэтаксама прысьвяціла верш 200-годзьдзю Амэрыкі:

### ЖЫВІ!

(У 200-я ўгодкі З. Ш. Амэрыкі)
Ты нарадзілася ў змаганьні,
ці мала праліла крыві.
За волю ўсіх стаіш Ты й сяньня,
як і калісь, Тваім сьвітаньнем, —
жыві-ж, Амэрыка, жыві!



Вядзі сыноў да праўды, шчасьця,
калосьсем залаці прасьцяг.
Няхай-жа моц Твая ня гасьне,
а чорны дым вайны ня засьціць
ані Твой шлях,
ні зорны сьцяг!

Гэты верш Н. Арсеньневай і верш М. Кавыля былі выдрукаваныя ў газэце «Беларус», 230/231, 1976 (ліпеньскі № газэты, які быў прысьвечаны 200-гадоваму юбілею ЗША).

У гэтым-жа часе было зроблена цімала перакладаў твораў амэрыканскае літаратуры ў ангельскай мове ў мову беларускую ўлучна з шырокаведамым санэтам Эмы Лазарус прысьвечаным Статуі Свабоды ў перакладзе Натальлі Арсеньневай.

### НОВЫ ВОЛАТ

Не як мядзяны волат грэцкай даўніны,
Што ўстаўшы над вадой быў вартаю краіны, —
На захад сонца, ў нас над акіянам сінім
Устала волат-жонка. У ейнай далані
Паходня, ўся ў маланкавым агні.
«Выгнаных Маці» ёй імя — ня зьгіне
Ніхто, каго яна ўзялася бараніць.
І сочыць ейны зрок сьцяг берагоў няспынна,

Дзе сьняць двайняты-месты, што паабапал, сны.
«Захоўвай, Сьвет Стары. лад пыхі і маны»,
Яна як быццам кажа. «Мне-ж аддай бяздольных,
Галодных, скрыўджаных, прыгнобленых бядой,
І дай ім уздыхнуць, нарэшце, вольна
Тут, дзе гарыць мой зьніч над Брамай Залатой».

(«Беларус», Нью Ёрк, № 329, 1986)

Калі пачаткі беларуска-амэрыканскай паэзіі ў беларускай мове цалкам зьвязаныя з агзэтай «Наша Ніва» ды беларуска-амэрыканская паэзія была пачатая аўтарам амэрыканцам (ці прынамсі аўтарам, які ў тым часе жыў у Амэрыцы), дык беларуска-амэрыканская проза ў беларускай мове гэтаксама зьвязаная з «Нашай Нівай» і пісьменьнікамі «нашаніўцамі», але не амэрыканцамі.

Вобраз беларуса-амэрыканца далі, і пры гэтым удала, пісьменьнікі не амэрыканцы. А. Новіч (сапраўднае прозьвішча Цехановіч, быў ён доктарам мэдыцыны) у большым апавяданьні «Амэрыканец», выдрукаваным у часапісе «Маладая Беларусь», Пецярбург, 1/2, 1912 г. ды таксама ў газэце «Наша Ніва» ў № 50-м за 1913 год. Кароткая рэцэнзія на гэтае апавяданьне падпісаная ініцыяламі «І. Л.» аўтарства, праўдападобна, Івана Луцэвіча (Янкі Купалы) зьявілася таксама ў 50-м № «Нашай Нівы» за 1913 год. У рэцэнзіі дадзеная гэткая ацэнка Новічавага твору:

«Новіч... бярэць чытача за сэрца прастатой і шчырасьцю свайго расказу. Няма ў ім ніякіх хітрых выдумак, а ўсё міла і спакойна. Умее нязначным спосабам падсунуць чытачу маральную навучку, паказаць добрую не завілую сьцежку к лепшаму жыцьцю і ўсё гэта так свойска, так родна і хочацца, зда-

ецца, дасказаць аўтара: амэрыканцаў на Беларусі так многа, а чаму-ж так мала такіх, якога вывеў у сваім апавяданьні А. Новіч».

Апавяданьне «Амэрыканец» было таксама выдрукаванае асобнай кніжкай выдавецтвам «Загляе сонца і ў наша ваконца» ў Пецярбургу ў 1913 годзе.

Іншы пісьменьнік, што закрануў вобраз амэрыканца-беларуса, быў Максім Гарэцкі. Адзначыў гэта й прааналізаваў беларуса-амэрыканца беларускі літаратурны крытык Антон Адамовіч (Узвышша, Менск, 5 (11), 1928. б. 161-162). Мімабегам закранутая тэма беларуса-амэрыканца яшчэ ў загалоўным апавяданьні першага зборніка Максіма Гарэцкага «Рунь», Вільня, Друкарня Марціна Кухты, 1914. б. 4: «Жыў і куець долю новага чалавека, беларуса, у далёкай Амэрыцы альбо ў Аўстраліі». Пазьней Максім Гарэцкі напісаў вялікае апавяданьне пад такім самым, як у А. Новіча, загалоўкам — «Амэрыканец», якое друкавалася ў часапісе «Вольная Беларусь», Менск, № 29, 1917 г. і болей дасюль нідзе не перадрукоўвалася.

Яшчэ адзін аўтар, які пачынаў беларуска-амэрыканскую прозу, быў пісьменьнік-нашанівец Мікола Аўрайцэвіч, які апрача колькіх кароткіх гумарыстычных апавяданьняў зь беларускага быту напісаў таксама апавяданьне «Першы даляр» (Зборнік «Колядная пісанка», Вільня, Друкарня Марціна Кухты, 1913 год). У гэтым апавяданьні перададзеныя перажываньні беларускага эмігранта-работніка ў Амэрыцы (апавяданьне гэтае было таксама передрукаванае ў кнізе «Родны Край» . . . чытанка, Вільня, 1921 г. б. 198-200).

Беларуска-амэрыканская проза значна пашырылася ў гадох дваццатых, калі некалькі твораў аб амэрыканскім жыцьці выдрукаваў Аляксандар Сянькевіч, былы іміґрант-амэрыканец, які вярнуўся з Амэрыкі ў Беларусь, а пазьней у трыццатых гадох быў рэпрэсаваны савецкай уладай. Дарэчы, аб уцёку Аляксандра Сянькевіча ў Амэрыку паведамляла «Наша Ніва», № 3, 1907 г. Быў ён адным зь першых беларускіх палітычных іміґрантаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі ў 20-ым стагодзьдзі.

У трыццатых, саракавых, пяцідзесятых і пазьнейшых гадох творы беларуска-амэрыканскай прозы ў беларускай мове стала павялічаюцца, зьяўляюцца апавяданьні, замалёўкі, успаміны. Адзін з большых твораў беларуска-амэрыканскае прозы — гэта кніжка айца Янкі Тарасэвіча «На Бацькаўшчыну», выдрукаваная ў Вільні ў 1936 годзе. Аўтар, беларускі царкоўны й грамадзкі дзеяч, пасьля даўгога пабыту ў ЗША, куды ён эміграваў на пачатку 20-х гадоў, едзе на візыту на Бацькаўшчыну ды дзеліцца сваімі ўражаньнямі.

У пазьнейшых часох друкуецца ў беларускай мове цімала сцэнічных твораў ды кніжак на тэмы беларуска-амэрыканскага жыцьця, якія вельмі добра адлюстроўваюць новую зьяву ў разьвіцьці беларускае нацыі. Друкаваліся гэтыя творы ў асноўным у часапісе «Конадні» Нью Ёрк, нумары 1-7, 1954-1963. Асобнымі кніжкамі выйшлі творы гэткіх беларускіх пісьменьнікаў: М. Целеша, У. Глыбіннага, Я. Шакуна, Ю. Віцьбіча, А. Саковіч і іншыя.

Абагульняючы, можна сьцьвердзіць, што як шмат якія пачынаньні беларускага руху, літаратуры, мовы, палітычных плыняў былі пачатыя газэтай «Наша Ніва», гэтаксама й пачаткі беларускамоўнае беларуска-амэрыканскае літаратуры, прозы й паэзіі, зьвязаныя з гэтай газэтай.

Гаворачы аб беларуска-амэрыканскай літаратуры, мы закранулі вышэй, кароценька, толькі творы, напісаныя ў беларускай мове. Аднак, ёсьць значная літаратура, якая датычыць беспасярэдня беларусаў-амэрыканцаў, іхных звычаяў, паглядаў,



пачуцьцяў ды іншых аспэктаў іх жыцьця, створаная, звычайна, беларусамі-амэрыканцамі, ці беларускімі эміґрантамі-іміґрантамі-рэ-іміґрантамі, або амэрыканцамі беларускага паходжаньня ў мове расейскай ды ангельскай.

Бадай ці не адным зь першых апісаў беларуса-амэрыканца ведамы расейскі пісьменьнік — В. Г. Караленка (Собрание сочинений в 10 т. Москва, 1954. т. 4, б. 490). Ад таго часу мастацкая літаратура ў расейскай мове пачала часта зварачацца да беларуска-амэрыканскае тэматыкі. Друкавалася вельмі шмат апавяданьняў беларуска-амэрыканскага зьместу ў расейскамоўных газэтах: «Вестник Америки», «Новое Русское Слово», «Новый Мир», «Русский Голос» ды шмат, шмат іншых. Друкаваліся творы на беларуска-амэрыканскую тэматыку ў расейскай мове нават і ў першай беларускай газэце Злучаных Штатаў — «Беларуская Трыбуна», якая друкавалася ў месьце Чыкага ад 1926 да 1932 году. Так, прыкладам у «Беларускай Трыбуне» быў надрукаваны цыкль апавяданьняў «Белорусские воспоминания», аўтар «Полочанин» жыў у трыццатых гадох у Чыкага («Беларуская Трыбуна», № 9, 1931; №№ 10, 12, 1932). У «Беларускай Трыбуне» былі таксама надрукаваныя ў расейскай мове беларускага патрыятычнага зьместу верш «Белоруссия» Івана Карася зь места Кліўлэнду (Бел Трыбуна, 9, 1931) ды верш Юрыя Вегава прысьвечаны Вільні (Бел. Трыбуна, 2, 1928). Дарэчы, Юрий Вегов — гэта псэўданім Язэпа Варонкі, пад якім ён шмат напісаў яшчэ будучы студэнтам у Пецярбургу перад першай Сусьветнай вайной і дзе ён таксама рэдагаваў газэту «Воскресная Вечерняя Газета», а таксама газэту «Столичные Новости» ды ўваходзіў у склад рэдкалегіі расейскага часапісу «Зритель», які таксама выходзіў перад першай вайною ў Пецярбургу.

Да беларуска-амэрыканскай літаратуры трэба таксама залічыць шмат твораў расейска-моўнага пісьменьніка, беларуса па паходжаньню, Рамуальда Карнасэвіча. Рамуальд Карнасэвіч нарадзіўся ў Горадні ў заможнай мяшчанскай сям'і ў 1884 годзе. Вучыўся ў Горадні й Пецярбургу. Даўгі час плаваў на параплавах мараком, а потым у 1912 годзе эміграваў у Амэрыку. У Злучаных Штатах працаваў у шмат якіх мясцох ды шмат пісаў. Супрацоўнічаў і сябраваў з Давідам Бурлюком і В. Варанцоўскім. Р. Карнасэвіч выдаў некалькі зборнікаў паэзіі й прозы. У гэтых кніжках Р. Карнасэвіч прысьвячае цімала вершаў і апавяданьняў Беларусі. Дарэчы, як кажа сам пісьменьнік у сваёй аўтабіяграфіі, ягоны першы верш быў прысьвечаны Нёману й беларускай прыродзе. Па сваёй творчасьці на беларускія тэмы Р. Карнасэвіч, бясспрэчна, належыць да «нашанівцаў». Вось колькі ягоных беларуска-тэмавых твораў з кніжкі «Вечерний Зов», Нью Ёрк, 1927: **Родина** . . . «Где воды прозрачны мчит Неман река . . . Вот там Белоруссия родная моя»; **Тоска** . . . «Вот мой город Гродно»; **Неман, Белоруссия** . . . «Там где Неман и Вилия . . . Там страна моя простая Белоруссия родная»; **Горькая доля Белоросса** . . . «Духом мощным от напасти защищай себя народ», ды іншыя.

Аб амэрыканскіх беларусах піша таксама беларус-эмігрант К. Стахоўскі, кніжка якога «Моль жирная и моль тощая» была выдрукаваная ў Вільні ў 1939 годзе.

Былі выдрукаваныя таксама ў расейскай мове й колькі кніжак і артыкулаў аўтарства Д. Гарбацэвіча (пісаў ён, дарэчы, пад рознымі псэўданімамі таксама), у якіх аўтар апісаў жыцьцё раньніх беларусаў-амэрыканцаў ды падзяліўся ўражаньнямі з колькіх наведваньняў Бацькаўшчыны (Д. Горбацевич, Что я видел в Советской России, 1935, 1937; Правда о Советской России, 1937; Два месяца в гостях у колхозников, 1967).

Ад гадоў 1960-х пачынаюць зьяўляцца ў беларуска-англамоўным друку Злуча-

ных Штатаў вершы й апавяданьні (апавяданьняў куды менш) пачынаючых пісьменьнікаў беларускага паходжаньня ў ангельскай мове. Гэтак, у пэрыядзе ад пачатку 60-х гадоў і да гадоў 80-х у двумоўным (ангельска-беларускім) часапісе «Беларуская Моладзь», які выдаваўся ў Нью Ёрку, друкаваліся вершы больш як дзесяцёх пачынаючых паэтаў беларускага паходжаньня.

Трэба таксама адзначыць, што пішуць паангельску ня толькі маладыя беларуска-амэрыканскія паэты. Піша ў ангельскай мове, прыкладам, таксама й беларуска-амэрыканскі паэт Сяргей Ясень, верш якога прысьвечаны 200-годзьдзю ЗША стаўся шырака ведамым у Амэрыцы.

Through ravages of clashing steel
and hate,
Shorn of our dreams and native
land,
We came, America, unto your gate
For Liberty's protecting hand.

( Беларус, 230-231, 1976)

Можна прыпушчаць, што ў ангельскай мове літаратура беларускага зьместу й значаньня будзе ўзрастаць.

Цімала напісана ў Амэрыцы літаратуры, цесна зьвязанай зь беларускай тэматыкай, і ў мове ідыш. Дарэчы, колькі клясыкаў літаратуры ў мове ідыш, якраз паходзілі зь Беларусі, ды апісалі, хоць і не заўсёды ў прывабных фарбах, як жыцьцё на Беларусі, гэтак і беларускіх эмігрантаў у Амэрыцы.

Канчаючы гэтыя нататкі хочацца спадзявацца, што ў будучыні беларуска-амэрыканская літаратура знойдзе сваіх дасьледнікаў, бо гэтая літаратура ўсё-ж адлюстроўвае значную эпоху ў культурным разьвіцьці беларускае нацыі. І будучыя дасьледнікі, пэўна-ж згодзяцца з намі, што газэта «Наша Ніва» і ў гэтай галіне беларусазнаўства адыграла значную ролю.

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

Васіль Сініца (ЗША.)

## МАЁ МЯСТЭЧКА

### ( УСПАМІНЫ )

**працяг**

Праз нейкіх 200 мэтраў ад Млынскай вуліцы на Жынгялёвай вулцы знайходзілася местачковая, дакладней кагальная бойня, у якой поўным начальнікам быў кашэрны (рытуальны) разьнік. Дзеля таго, што жыдам было дазволена законам Майсея спажываць толькі пярэднюю частку жывёлы, дык ён часткова абслугоўваў і хрысьціянаў, бо заднія часткі йшлі ў «яткі», пакупнікамі ў некаторых зь іх былі выключна хрысьціяне. Усё-ж мяса павінна было перад паступленьнем у яткі аглядацца вэтэрынарам. Але вось бяда, што мяса да якога даткнуўся «гой» лічылася ўжо трэфным. Таму для жыдоў рабілася палёгка, бо вэтэрынар ня ставіў на перадках пячаткі, а даваў на іх толькі адносную пасьведку.



У гэтым самым памешчаньні рэзаліся й кашэрныя птушкі, як гусі, качкі, індыкі й куры. Тут ужо ня было падзелу на перадок і задок, і жыды спажывалі іх цалком, адкінуўшы толькі некаторыя забароненыя законам унутраныя часткі. Таму што птушкі ня йшлі на продаж, а прыносіліся да разьніка самымі ўласьнікамі, дык яны іх і забіралі бяз ніякіх пасьведак вэтэрынара.

У першых гадох пасьля 1-ай Сусьветнай вайны, разьнік «усьмерчваў» птушак на сваім панадворку на Касьцельнай вуліцы. Таму што паводле рытуалу разьнік не павінен быў рабіць больш як аднаго пацягненьня нажом па горле забіванай жывёлы ці птушак, інакш яна рабілася-б «трафной», ён зрабіўшы гэтае кідаў ахвяры гэтых жорсткіх законаў у адумысловы катушок у кутку гародчыка пры самай вуліцы, дзе яны «даходзілі» часамі на працягу 15-20 мінут, падскакваючы на зьвязаных нагах і размахваючы чамусьці ніколі не зьвязанымі крыльлямі. Да гэтага крывавага відовішча нярэдка прыглядалася чародка малых суседзкіх хлапчукоў, падобных адзін на другога з той толькі адменай, што адны зь іх трымалі пальцы ў носе, а іншыя ў роце. Пасьля ў насьледку пратэстаў бацькоў гэтых бясплатных гледачоў, паліцыя разам з гміннай адміністрацыяй выдала загад для разьніка перанесьці яго майстэрню ў бойню. Гэта не падабалася ані разьніку, ані ягоным кліентам. Задаволеныя былі толькі бацькі гледачоў, таму што апошнія спрабавалі насьледваць разьнікову працэдуру й на ўласных курanятах.

У асобнай некашэрнай частцы бойні рэзаліся сьвіньні для мясцовых кілбасьнікаў. Местачкоўцы-ж з уласнымі сьвіньнямі спраўляліся на сваіх агародах зімовым часам лепш за Врублеўскага. У бойні была спэцыяльная печ у якую быў умураваны вялікі кацёл, зьмяшчаючы цэлага парсюка. Бо, як я ўжо ўспамінаў, усё мяса прызначанае на продаж павінна было аглядацца вэтэрынарам. У выпадку, калі той выкрыў у сьвіньні трыхіну, што нярэдка здаралася, то ўласьніку аддавалася толькі сала, а ўсё мяса пераварвалася ў гэтым катле пад наглядам вэтэрынара, а пазьней прадавалася па зьніжаных цэнах. Грошы выручаныя з гэтай прадажы пасьля адлічэньня выдаткаў зьвязаных з гэтай працэдурай, вярталіся ўласьніку сьвіньні. Ня трэба й дагадвацца, што пры гэтым даходзіла да злоўжываньняў з боку вэтэрынара ды яго памагатых.

У трэйцяй, ужо зусім адасобленай, частцы бойні жыў яе прыбіральнік і вартаўнік Гарасім Бурбель. Ведалі яго ўсе толькі зь імя й клічкі «камінар», бо апрача працы ў бойні, ён яшчэ меў хоць і невялікую, але аплачваную гмінай працу — чысьціў местачковыя коміны ў прымусовым для ўласьнікаў дамоў парадку, раз у год. Плацілі яму таксама не ў прымусовым парадку й уласьнікі дамоў, бо кожны хацеў запэўніць сабе добрую работу ў коміне.

У сувязі з сваім фахам, Гарасім меў заўсёды чорны твар, чарнату якога яшчэ павялічвала аграмнястая, лапатападобная барада. Ці гэта ад сажы, ці ад прыроднага колеру, ле яна была таксама чорная-чарнюсчая.

Гарасім быў удаўцом. Ягоная сям'я складалася зь дзьвюх дачок і сына Сымона, па клічцы «галубятнік». Гэта была таксама, як і ягонага бацькі клічка, так сказаць, «фаховая», бо больш дасьведчанага галубятніка ня было ў цэлай акрузе. Сымон ведаў на памяць, колькі й якіх галубоў маюць ягоныя канкурэнты ня толькі ў мястэчку, але і ў ваколічных вёсках. Сымон меў адну цікавую асаблівасьць. Даволі яму было толькі паглядзець на чужое падстрэшша, дзе гнязьдзіліся галубы й пахваліць аднаго зь іх, дык ужо назаўтра, або за некалькі дзён аблюбаваны ім голуб вурчаў і красаваўся перад галубкамі на Сымонавым падстрэшшы. Цікава

аднак зазначыць, што Сымон меў уладу толькі над галубамі мужчынскага роду, над самцамі, але ніколі над самкамі. Некаторыя казалі, што Сымон меў спэцыяльна вывучаную самку, якую выпускаў у чужое галубінае стада, а яна пазьней прыманьвала на сваё падстрэшша кавалераў. Гэта выглядае на праўдападобнасьць. Але йзноў-жа, скуль яна магла ведаць, якога галуба хоча мець Сымон?

Сымона за ягоную гэтую здольнасьць ненавідзелі й адначасова баяліся іншыя галубятнікі, хлапчукі падросткі, бо ён быў дужы й адважны ў бойках.

Я будучы яшчэ зусім малым хлапцом ды шмат маладзейшым за Сымона, моцна завідаваў яму, што датычыла галубоў, але разам з завісьцяй у маім сэрцы таілася пэўнае спачуцьцё да яго й ягоных сёстраў, таму што яны мелі такога страшнога бацьку. Ды мала таго, што страшнога! Трэба прызнацца, што я й усе мае равесьнікі, калі мы былі такога веку, што экскурсія ў Тамалёнкаву вулку лічылася дасягненьнем, цьвёрда верылі, што такі страшны чалавек, як Гарасім, напэўна мае штосьці супольнага зь пеклам і нячысьцікамі. Праўда, гэтую нашую дзіцячую апінію падмацоўвалі й дарослыя пагрозамі: «Паплач, мне больш... Вось вазьму ды аддам камінару, а ён цябе ў мяшок ды павалачэ ў пекла». На шчасьце гэтая нашая апінія аб Гарасіму адносна пекла й нячысьцікаў ня трывала вельмі доўга. У пэўным часе мы на свае вочы пераканаліся, што Гарасім зьяўляецца «запявалам» у аднэй з партыяў Валачобнікаў, і дзеля гэтага ўпэўніліся, што падазраваць Гарасіма ў сувязях з пеклам выглядае недарэчна. Больш разважлівыя з нас казалі: «Як-жа можна сябраваць з нячысьцікамі й адначасна ў Валачобных песьнях праслаўляць Бога?

Пішучы раней пра Антося — «неяк-жа будзе», мне зусім выпала з памяці, што ён таксама быў запявалам ў грамадзе валачобнікаў, якая канкуравала з Гарасімавай. Дзеля гэтага яны абое апавядалі аб сабе ўсялякія нябыліцы. Што праўда гэтыя нябыліцы былі даволі нявіннага характару, як напрыклад Антось цьвердзіў, што Гарасім сваё запяваньне прыдумаў сам, і ніякі іншы шануючы сябе запявала ня ўжываў-бы яго. А між іншым прыслухаўшыся добра, можна было заўважыць, што сьпевы абаіх былі да сябе падобныя як дзьве кроплі вады, толькі чамусьці парадак сьпяваных зваротак крыху мяняўся, дый то, толькі тады, калі яны абодва былі памучаныя.

Гарасім-жа ізноў са свайго боку не застаючыся ў даўгу божучыся даводзіў, што Антось калі падап'е, што сапраўды часта здаралася, дык тады ня сьпявае, як належыцца, а толькі выкрыквае — «цях, цях, цях, цях!» А Валачобнікі яму падпяваюць: «Хрыстос Уваскрос, Сын Божы!» Звычайна пасьля Вялікадня яны хутка забываліся пра свае фаховыя нязгоды ды ізноў былі добрымі сябрамі.

Характэрна, што пражываючыя ў нашых ваколіцах старавеcры, якіх у нас называлі маскалямі, пераняли ад беларусаў звычай валачобніцтва, бо ў этнаграфічнай Расеі, ён ня ведамы. Але старавеcры сьпявалі валачобную песьню зусім інакш. Яны расьцягвалі словы й пяялі зусім іншую мэлёдыю. Яны часта заходзілі й да беларусаў і былі вельмі задаволеныя, калі іх добра прыймалі. Але калі беларусы заходзілі да іх, дык гаспадар хаты звыкла ўжо загадзя стаяў на панадворку й нягледзячы на пагоду, бяз шапкі. У руках трымаў кошык з фарбаванымі яйкамі, спорым кавалкам каўбасы або яшчэ чаго й ветліва казаў: «Вы братушкі зьвініце меня грэшнава й акаянава супастата, но ваша песьня ведзь паганая й паляцкая й яну нікак нівазможна пець у маём праваслаўным памяшчэньні». Ведама, што больш ганаровыя валачобнікі крыўдзіліся, але моладзь часамі з рогатам прыймала



даволі багаты падарунак й пераходзіла ў наступны панадворак. Цікава й тое, што беларусаў старавеcры называлі таксама «палякамі, а мову «паляцкай». Паляцкай таксама была й вера беларусаў, але на праваслаўных расейцаў яны казалі «ерэцікі», а на іх веру «ерэсь».

Калі каталіцкі Вялікдзень выпадаў асобна, тады Антось з Гарасімам былі ня ў модзе. Тады па хатах і ў казармы КОП хадзілі ўспамінаныя мной «ствожэні». Іх валачобныя песьні былі іншыя, якія пачыналіся са слоў: «Встал пан Хрыстус з мартвых ныне, увэсэліл свуй люд міле. Аллелюя!» і гэтак далей. Паза звыклымі прадуктовымі падарункамі, гэтыя валачобнікі зьбіралі часам і досыць спорую суму грошай, бо ведама, што ў казармах афіцэры, а часамі й фарсістыя падафіцэры не маглі ім даваць яек ці іншай еміны, а за тое давалі залатоўку або й больш. Але бяда была ў тым, што на заканчэньне іх заклікаў да сябе ксёндз і забіраў пэўны й то здаецца ня зусім малы працэнт «на выкупене мужынкув». Дык, як бачым, Антось з Гарасімам ды іхныя валачобнікі былі нават у выйгрышы, бо так і так не пасьмелі-б ісьці са сваім «гаспадару слаўны пане» ў казармы, дый ніхто туды іх ня пусьціў-бы. Аднак гэта не перашкаджала ім наведваць прыватныя кватэры афіцэраў у мястэчку й падобна за малымі толькі выняткамі, усе былі задаволеныя з гэтых «кацапскіх сьпевув».

Бойняй, так сказаць, заканчалася адна частка Жынгялёвай вулкі, ці йнакш кажучы,Вейскай вуліцы. Далей больш-менш праз паўкілямэтра йшлі толькі гумны, дый ня толькі ўласьнікаў жывучых па суседзтву з вулкай, але й іншых местачкоўцаў. Мінуўшы гумны, вулка ізноў была забудована новымі дамамі. Тут яна павяртала крыху ўлева, на паўночны ўсход і перасекшы Касьцельную вуліцу ўпіралася ў невялікі пляцык на якім быў касьцёл. Бо трэба ведаць, што касьцёл знайходзіўся не на самай Касьцельнай вуліцы, але на гэтым пляцыку паложаным паміж Дзісьненскай і Касьцельнай вуліцамі. З гэтага пляцыку пакінуўшы касьцёл на левым боку, яна (вулка) павяртала ізноў на паўднёвы ўсход, каб за нейкіх мэтраў 300 уперціся ізноў у Касьцельную вуліцу. І тут яна канчалася. Вось у гэтым месцы, дзе вулка перасякала Касьцельную вуліцу йдучы ад бойні да касьцёлу, была ў апошніх гадох перад II-ой сусьветнай вайной пабудавала хату й наша сям'я. Аднак жыць нам у гэтай хаце ня прыйшлося, бо ўжо ў 1938 годзе я й мая старэйшая сястра атрымалі працу ў Язьне — мястэчку паложаным за 27 км ад Лужак у бок Дзісны. Праз год пачалася вайна й жыцьцё пайшло іншым шляхам.

Ад нашай хаты па другім баку Касьцельнай вуліцы знайходзілася каапэратыўная малачарня. Вялікіх поступаў яна не рабіла, ня ў прыклад такім малачарням, як у Язьне, Дзісьне а тымбольш у Плісе. Прычынай гэтаму было тое, што ў Лужэцкай гміне амаль усе вёскі былі малазямельнымі, мелі цераспалосіцу (ня былі скамасаванымі на хутары) ды знайходзіліся воддаль ад мястэчка. Трудна было вымагаць ад селяніна, каб ён на 3-4-х гэктарах патрапіў трымаць больш, як адну карову. З аднэй каровы не надоіш столькі малака, каб хапіла й для сям'і, і на продаж. Праўда, у названых вышэй гмінах сяляне трымалі больш за адну карову й на такіх кавалках зямлі, але яна была ў адным месцы й кожны гаспадар быў даслоўна яе гаспадаром. Аддаленасьць ад мястэчка была з тэй прычыны, што агромныя графскія маёнткі амаль з трох бакоў аблягалі мястэчка, а вясковая бедната жыла дзесьці, як кажуць маскалі «ў чорта на кулічках». Местачковыя й большая частка вясковых сенажацяў была памяшаная з панскімі лясамі ў такі заблытаны спосаб, што часта нні ўласьнікі-сяляне, ані сам пан-грабя толкам ня ведалі, дзе канчаецца

ўласнасьць аднаго й пачынаецца другога. Урад некалькі разоў памыкаўся правесьці камасацыю, але ў гэтых выпадках самі сяляне пратэставалі супраць яе. Прычына была ў тым, што хадзілі зусім праўдападобныя чуткі аб тым, што граф робіць з урадам нейкія каншахты, каб замяніць больш-менш загаспадараваныя сялянскія сенажаці на некалькі большую плошчу няўжыткаў «Жада», дзе расла толькі вострая як брытва асака, багун ды журавіны й чорныя, падобныя да амэрыканскіх «блюбэрыс» ягады, званыя «п'яніцамі». А дабрацца туды зь мястэчка, трэба было праехаць км. 15 графскага лесу.

На Жынгялёвай вулцы, апрача Гарасіма «камінара» й ягонага сына Сымона «галубятніка», ня жыло больш нікога, хто-б чым небудзь розьніўся ад іншых. Праўда, пад канец вулкі, перад самым другім яе выхадам на Касьцельную вуліцу, жыў каваль Дашкевіч, па клічцы «Вакула». Ня ведаю, хто даў яму такую клічку, але няма сумліву, што гэта быў чалавек трошкі азнаёмлены зь літаратурай, як і сам «Вакула», які, у адрозьненьні ад іншых, ганарыўся сваёй клічкай ды казаў усім, каго гэта цікавіла: «Ну паглядзеце-ж, ці з аблічча я не падобны на Гогалеўскага каваля Вакулу з «Ночы перад Калядамі»? Таму што большасьць ягоных размоўцаў ніколі нават і ня чула аб Гогалю, а тымбольш аб ягоным кавалю Вакулу, а тыя, што чулі, ніколі ня бачылі Вакулавага партрэту, дык размова на гэтым і канчалася. На гэтым і я закончу апісаньне Жынгялёвай вулкі й перайду да Тумалёнкавай.

Вулка называлася Тумалёнкавай таксама ня зусім ведама зь якіх прычынаў. Праўда, яна пачыналася ад Гарманаўскай вуліцы паміж хатай Тумалёнка й хатай старой Ігнатоўскай. Магчымае апраўданьне яе назову магло быць у наступным: Хата Тумалёнка, як і Ігнатоўскай стаяла на Гарманаўскай вуліцы, але вулка праходзіла якіх мэтраў з 250 ўздоўж паўночнай мяжы Тумалёнкавага агароду. Ігнатоўскай хата стаяла ўжо на папярэчных палетках, ці дакладней палетку, які цягнуўся з поўдня на поўнач. З гэтага выглядае, што Тумалёнак меў даўжэйшую граніцу з вулкай, і таму большае права да назову.

Фактычна вулку няма што й апісваць, бо на ёй апрача некалькіх гумнаў, стаяла толькі адна хата сям'і Маўчуноў. Не падумайце, калі ласка, што Маўчун, гэта нейкая клічка. Не. Гэта самае найпраўдзівейшае прозьвішча, хоць і беднай, але даволі паважнай сям'і.

У сярэдзіне 30-х гадоў яны купілі ад Тумалёнка частку ягонага гароду й збудавалі сабе добрую хату. Хутка пасьля сьмерці бацькі, тры браты Маўчуны, якія жылі ў дружбе, цэлую вясну й аж да пачатку пільніцы вазілі зь Вісельніцкага магільніка жвір і засыпалі дрыгву, якая вякамі была пры выезьдзе ці выхадзе на Гарманаўскую вуліцу. І тады выгляд вулкі зьмяніўся. Ад гэтага часу навекі адыйшла забава дзяцей ў «афіцэрскія боты».

Тумалёнак, гэта толькі клічка, бо праўдзівае яго прозьвішча было Парафіяновіч, меў вялікую сям'ю, бо аж васьмёра дзяцей. І хоць ён меў ладны шмат зямлі, бо поўны ўчастак, які налічваў каля 14-ці гэктараў, па прычыне вось гэтай «шматдзетнасьці» жыў беднавата. У дадатку быў ён даволі камічным чалавекам. Паводле ягонай тэорыі, яго дзеці былі найразумнейшымі ў мястэчку, а жонка Тэкля вогненна-рыжая цётка так пад кіляграмаў больш за сто, найпрыгажэйшай жанчынай. У яго на гэтыя цьверджаньні былі свае «неабвержаныя» доказы. Напрыклад, нехта раз у спрэчцы назваў яго дурнем. Тумалёнак адразу-ж зарэагаваў «неабвержным» аргумэнтам: «Глядзеце людзі, ён кажа, што я дурны! Дык чаму-ж тады мой Міколка такі разумны, га?» Міколкаў-жа розум выяўляўся хіба ў тым, што ён заўсёды трымаў у карэлым кулаку скручаную паясьніцу зрэбных портак, бо інакш нягледзячы на такую-ж зрэбную шлейку, яны штохвіліны гразілі апынуцца на пятках. На маніпуляваньне гэтай шлейкай у яго не хапала ані спрыту, ані цярплівасьці. На ягонае апраўданьне можна толькі сказаць, што другі кулак меў таксама сталы занятак зь ягоным вечна смаркатым носам, а перакінуць гэтую праклятую шлейку праз скудлачаную Міколкаву васьмігадовую галаву нехапала аднэй рукі. Што датычыць прыгажосьці Тэклі, дык ведаючы, што кожная жанчына ня любіць, каб ёй казалі ўсю праўду, дык і я лепш аб гэтым прамаўчу.

У І-ю сусьветную вайну Тумалёнак быў у нямецкім палоне, а калі вярнуўся зь яго дамоў, дык у яго чамусьці зьявілася ўява, што ён разумее нямецкую мову. Фактычныя-ж веды гэтае мовы заключаліся ў тым, што ён ад раньня й часамі да вечара крычаў на нейкага са свае сям'і: «Фарфлюктэр, доннэрвэттэр, нох аін маль», незалежна ад таго, ці гэта мела быць пахвалай, ці ён хацеў на некага насварыцца. Адно толькі было пэўным, што ў яго ня было розьніцы, бо ўсёроўна выходзіла: «Фафлюхта, данавэта, магамаль».

Калі Тумалёнак трошкі падгадаваў дзяцей, дык , як гэта кажуць, пачаў патрохі абжывацца. Асабліва гэта можна было заўважыць пасьля таго, калі ён прадаў Маўчуном пляц пад будову іх дому. Вось якраз у гэтую пару ён купіў досыць добрае радыё «Філіпса». Ад гэтага часу Тумалёнак пачаў жыць культурна.

Культурнае жыцьцё Тумалёнкавай сям'і заключалася ў тым, што стары ў пэўныя гадзіны дня, а часамі й начы, злавіўшы наўгад нейкую замежную радыёхвалю (расейскія й чэскія выключаліся), моцным голасам абвяшчаў: «Ціха мне, ані мру, мру! Каб я чуў, як муха пралятае! А ты, Тэкля, — зьвяртаўся ён да жонкі, — марш да суседак плёткі плясьці, бо праз цябе ўвесь гармідар у хаце! Фафлюта, данавэта, магамоль!» Далей многазначна й урачыста зьніжаючы голас і падымаючы палец угару, абвяшчаў: «Бэрлін, будзе гаварыць!» І якая-б даўгая перадача ня была, ён не дазваляў зьмяніць яе на іншую. Калі-ж нарэшце яна канчалася, ласкава дазваляў: «Ну, а цяпер слухайце, што вы сабе хочаце, данвэта магамоль!» Калі ў яго пыталі аб чым гаварыў той Бэрлін, дык ён злосна адказваў: «Што дурням казаць, вы ўсёроўна нічога не зразумееце, магамоль!»

Надыйшла вайна 1939 году. Пасьля вызваленьня ад паноў і капіталістых, Тумалёнка таксама вызвалілі ад радыё апарата. Па чарзе наступалі вызваленьні ад іншых рэчаў, але Тумалёнкавы сыны адразу пайшлі ў людзі. Міколка цяпер ужо перамяніўшыся ў Мікалая Антонавіча займаў нейкую высокую пасаду ў саўгасе, былым маёнтку Плятэра; маладзейшы за яго Ванёк, інакш Іван Антонавіч зрабіўся начальнікам міліцыі, а старэйшы Антон быў нейкай шышкай у сельпо. Адным словам, розум дапамог ім выйсьці ў людзі. Старому-ж яны адразу забаранілі выяжджаць са сваім «магамолем», дык ён маўчаў, як вады ў рот набраўшы.

Хутка першых вызвольнікаў у гімнасьцёрках і з чырвонымі зоркамі на шапках, замянілі іншыя — са свастыкамі й закасанымі рукавамі. Калі немцы прыйшлі ў Лужкі, тут заснавалася мяйсцовая «Ортскамэндантура». У гэту камэндантуру, як мухі на мёд палящелі дзяўчаты-полькі за перакладчыц. Тады хтосьці падказаў каманданту, які трохі разумеў па-расейску, што Тумалёнак таксама разумее нямецкую мову й можа быць перакладчыкам. Нашыя людзі пачалі разважаць у наступны спосаб: «Ну няхай сабе й Тумалёнак, няхай і ня вельмі вялікага розуму, але-ж хіба трошкі паважнейшы за гэтых маладых «патаскушак». А нашых-жа людзей

ня клікаюць і ня прыводзяць у камандантуру на штось добрае, дык можа ён каму-кольвечы й дапаможа». У хуткім часе да Тумалёнка зьявілася адна з гэтых расфуфыраных перакладчыц у таварыстве мардастага фэльдфэбэля са стрэльбай. Яны загадалі Тумалёнку йсьці зь імі ў камандантуру Калі-ж там справа выясьнілася чаго й пашто яго паклікалі, бедны Тумалёнак заліўся сьлязамі як малое дзіцё прысягаючы, што ён ведае толькі некалькі слоў па-нямецку, як напрыклад «біттэ», й «данкэ шээн, ну й у дадатку свае «магамолі». Выясьнілася таксама, што час свайго палоненьня ён прабыў у нейкага баўэра на Усходніх Прусах. Як гэты баўэр, так і ўся яго сям'я дасканала гаварылі па-польску, так што ён хоць і з горам папалам мог зь імі дагаварыцца. Камандант быў у самай справе чалавекам не благім, сьпярша не хацеў верыць у тое, што казаў Тумалёнак, тымбольш, што перакладчыца ўвесь час чаўпла яму аб тым, што сыны Тумалёнка працавалі для камуністых, а цяпер дзесьці паўцякалі. Камандант у канцы відавочна парушаны сьлязамі старога чалавека, некалькі хвілін нешта думаў, падпёршы галаву рукамі. Нарэшце ўстаў і хіба для прыкладу адвесіў яму даволі замашыстую аплявуху, пры гэтым крыкнуўшы: «Сабатаж!» Тут стары Тумалёнак загаварыў: «Паночку, я ня зношу сабак! У мяне свайго ніколі й на панадворку ня было, хіба што чужыя забягалі...» «Раўсс!» — зароў немец. Тумалёнак адразу дасканала зразумеў кароткі й выразны, хоць ня зусім ветлівы загад і не чакаючы хуценька вынесься за дзьверы.

Справа Тумалёнка зь яго ведамі нямецкай мовы скончылася шчасьліва, але таму, што гэты ня страціўшы яшчэ зусім людзкога сумленьня афіцэр не працаваў у камандантуры адзін, а меў памагатых, дый яшчэ й якіх, іншым людзям часамі пабыт у камандантуры прыпамінаўся на даўгія часы. Наагул-жа, у першых месяцах вайны, калі ўлада на заваёванай тэрыторыі яшчэ была ў руках старэйшых векам і ў сваёй большасьці беспартыйных афіцэраў, дык яшчэ можна было вытрымаць. Страшнейшае прыйшло пазьней, калі ўладу пераняли розныя гаўляйтэры й баннфюрэры з гэстапо ды СС.

Але ўсё на сьвеце мае свой канец. Гэтых акупантаў ізноў замянілі папярэнія. Усемагутны аднак быў ласкавы для мяне, і я ўжо ня бачыў іх, бо апынуўся на Захадзе.

Тымчасам мае ўспаміны хачу закончыць. Увесь зьмест іх ёсьць несфальшаванай праўдай, як і праўдзівымі ёсьць таксама прозьвішчы й клічкі ўспамінаных асобаў.

Дзеля таго, што некаторыя зь іх яшчэ жывуць і мае ўспаміны мажліва выглядалі-б для іх, як пэўная абраза, я шчыра прашу іх прабачэньня, бо я стараўся апісаць толькі шчырую праўду. Яны-ж усе, бяз розьніцы нацыянальнасьцяў ці веравызнаньня будуць мне дарагімі да канца майго жыцьця. Бо сярод іх прайшлі мае найпрыгажэйшыя, хоць часамі й нялёгкія гады...

### Пасьляслоўе

Сёньня мястэчка Лужкі ўжо больш фактычна ня існуе. Воляй акупанта яго за апошнія сорак год называлі па рознаму: сьпярша папросту Лужкамі, пазьней, — насельным пунктам Лужкі, а сёньня надалі абразьлівую клічку «деревня Лужкі».

І ня дзіва, што Лужкі сёньня папросту вёска, бо й што-ж зь іх ўзапрады засталося? Касьцёл быў зруйнаваны ў 1944 годзе. Царква яшчэ паводле афіцыйнага лексыкону яшчэ «работает», але будынак царквы дажыўся да жалюгоднасьці. Казармы спалілі партызаны. Гарманаўская вуліца й палова Маставой выгарэлі ў часе



пажару, яшчэ перад вайной. Парабіліся зьмены адносна Народнага Дому, Мураванкі, трох Жыдоўскіх Сынагогаў, школы й банку, якія сёньня ўжо ня існуюць. Але найбольшыя зьмены-перагрупаваньні адбыліся з адвечнымі жыхарамі мястэчка.

Пасьля верасьня 1939 году некаторыя апынуліся на паўночнай Сібіры, некаторыя перайшлі мяжу ў Гэнэральную губэрню. Пасьля вайны ў часе вольнага пераезду ў Польшчу, людзі, якім ніколі й ня сьнілася нейкая сувязь з Польшчай, хапаючыся за апошнюю дошку ратунку кінуліся й туды, абы толькі быць як найдалей ад Масквы. На іх месца прывозіліся прадстаўнікі народаў, якія часта аб Беларусі бадай што й ня чулі. Такім чынам, сёньня «деревня Лужкі» мае насельніцтва амаль што ў большасьці паходзячае з-паза межаў Беларусі.

Сёньня стоячы ўжо на сьхілку жыцьця, я ўсё-ж хачу верыць ў адну з адвечных праўдаў, што ўсё на сьвеце мяняецца й мае свой канец. Згодна гэтай праўды, хоць ужо ня я, але маладзейшае пакаленьне напэўна дачакаецца лепшай будучыні для нашага Народу, а гэтым самым і для Майго Мястэчка.

Васіль Сініца.



Ніна Тарас

## ЗЯМЛЯЧКАМ НА ЧУЖЫНЕ

Дзе вы, прыгажуні, жанчыны з-над Нёмна,
Куды вас ваенная бурай загнала?
Тут вам сенажаці шумелі напеўна,
Тут песьні калісьці складаў вам Купала.
Кружыла вас віхрам, бы лісьцік сарваны,
Нясло ўдалячынь, бы пушыначку вецер, —
І вас занясло за чужыя курганы,
Раскідала дзесьці па ўсім белым сьвеце.
Я знаю, што часта ў душу закрадзецца
Туга па Радзіме, што меры ня мае,
І ные начамі бяссоннымі сэрца,
І сьняцца вам вобразы роднага краю.
Вам сьняцца палеткаў родных загоны,
Дзе звоняць жаўронкамі жніўнымі ранкі,
Дзе колісь пад шолах і ліпаў, і клёнаў
Вам пелі матулі свае калыханкі,
Бялілі вясной ручнікі каля рэчкі,
Для вас вышывалі квяцістыя ўзоры,
Дзе пчолкамі звоняць мядовыя грэчкі,
І месяц, бы човен, плыве у азёрах.
Ну што-ж, калі часам зажаліцца сэрца —
Любоў да Радзімы заўсёды сьвятая, —
Хай сьняцца вам вобразы роднага краю,
А сэрцу надзея няхай застанецца.

В. СТОМА (ЗША)

# РАЗЬДЗЕЛ I

# АБРАДЫ Й ЗВЫЧАІ ДЗІСЬНЕНШЧЫНЫ ЗЬВЯЗАНЫЯ З РЭЛІГІЙНЫМІ СЬВЯТАМІ

(працяг)

## Вялікі Пост.

У панядзелак на пачатку Вялікага Посту ў праваслаўных, а ў чацьвер у каталікоў, усё прыймала іншы выгляд. Старэйшыя жанчыны й нават частка маладзіц ды дзяўчат апраналі цёмную (чорную, або шэрую) вопратку. Хоць і вельмі рэдка, але й мужчыны апраналіся ў чорнае. На вячорках ужо ня можна было пачуць вясёлых сьпеваў, а тымбольш музыкі. Хіба што ў некаторых хатах асабліва ў каталіцкіх, па вечарох уся сям'я й бліжэйшыя суседзі сьпявалі пабожныя песьні. У некаторых сем'ях пост дапільноўваўся вельмі сьцісла й скаромная ежа, не гаворачы ўжо пра мяса, але малако, яйкі й масла давалі толькі малым дзецям або паважна хворым. Для іншых-жа гэтыя прадукты часткава дазваляліся толькі на сьвята Дабравешчаньня (Благавешчаньня, па-славянску).

## Саракі.

У першых тыднях Вялікага Посту ў праваслаўных прыпадала сьвята Саракі (40 Мучаньнікаў, 9-га сакавіка). З гэтым сьвятам было таксама зьвязана некалькі звычаяў. На гэтае сьвята гаспадыні пяклі зь белай мукі сорак піражкоў у выглядзе малых птушачак, якімі пазьней абдзельвалі сваіх і суседзкіх дзяцей. А суседкі так і казалі дзецям: «Схадзі да цёткі Агаты ці іншай Парaскі, яна дасьць табе жаваранка». Аднак ня можна было даваць больш чым два піражкі аднаму дзіцяці. Вечарам-жа палічыўшы пазасталыя піражкі, гаспадыні варажылі колькі тыдняў яшчэ азставалася да запраўднай вясны.

Апрача гэтага быў звычай гатаваць 40 вялізных клёцак званых «шалтаносамі». Гэтыя клёцкі начыняліся салоджаным і тоўчаным макам, тоўчанымі каноплямі з цыбуляй, рыбай або хоць кавалачкамі селядца. Кажу кавалачкамі дзеля таго, што селядцы былі «крамным» ды ня зусім танным прадуктам. Гэтых клёцак мог есьці кожны сябра сям'і колькі хацеў, аднак з умовай, каб не застаўляў аб'едкаў, якімі пазьней магла-б карміцца чараўніца-зіма й сядзець тут за надта доўга. На Саракі таксама быў звычай пасыланьня дзяцей «па чырвоныя чаравічкі». Дзеля гэтага дзецям казалі, што хто зь іх абяжыць у гумне тры разы кругом пярэплатаў (высокія слупы пастаўленыя ўрад з набітымі на іх папярэчнымі жэрдкамі, накшталт плоту. што ўжывалася для прасушкі снапоў), той абавязкава пабачыць чырвоныя чаравічкі на гэтых пярэплатах. Ня трэба й выясьняць, што гэта папросту былі жарты, бо ніхто не адважыўся-б пасылаць сваё ці чужое дзіця босым на мароз. Для большай яснасьці трэба дадаць, што ў сялянскіх сем'ях дзеці ўсю зіму сядзелі ў хаце босыя, а калі ім прыходзілася выходзіць па пільнай патрэбе вонкі, дык яны абувалі абутак кагосьці са старэйшых.



На Саракі людзі перасьцерагалі іншых: «На Саракі ўцякай з-за ракі». Гэта азначала, што хоць яшчэ й стаіць сьцюдзёнае надвор'е, але ўжо надыходзіць прадвесьне й з дня на дзень можна спадзявацца ледаходу ў часе якога бывае, што няма магчымасьці перабрацца на другі бераг.

## Дабравешчаньне.

Дабравешчаньне, ці як у нас казалі паславянску Благавешчаньне, прыпадала таксама пад канец Вялікага Посту (25 сакавіка). Гэтае сьвята лічылася вялікім, як у праваслаўных, так і ў каталікоў, і аб ім нават казалі: «На Благавешчаньне нават птушка гнязда ня ўе». Яно адрозьнівалася ад іншых сьвятаў прыпадаючых на Вялікі Пост яшчэ й тым, што на яго ў некаторых выпадках дазвалялася есьці малочнае. Цікава будзе адцеміць, што дакладна ў гэты дзень на Дзісьненшчыну прылятали буслы. А жаваранкі, якіх ужо можна было заўважыць некалькі дзён раней, падніmaліся ў высь і завісшы нярухова званілі ў так мілыя для сялянскага вуха званочкі.

# ВЯЛІКОДНЫЯ СЬВЯТЫ

## Вербніца.

Вялікодныя Сьвяты фактычна пачыналіся Вербніцай. Ужо ў сыботу перад Вербнай нядзеляй пасьля заканчэньня Вячэрні, а дакладней пры цалаваньні Крыжа, усім цалуючым Яго раздаваліся галінкі вярбы. Прынёсшы іх дамоў, людзі затыкалі іх за абразы, на месца леташніх, а леташнія паліліся ў печы. Назаўтра, у нядзелю, усе хто йшоў у царкву, несьлі з сабою ўжо даволі вялікія пукі вярбы, часамі ўпрыгожанай галінкамі зь зялёнымі маладымі лісткамі й папяровымі кветкамі. Каб мець вярбу зь лісткамі, яе стаўлялі ў вядры з вадой у цёплым месцы, напр. блізка печы. Рабілі гэта ўжо на пачатку Вялікага Посту. Да Вербніцы галінкі пакрываліся зялёнымі лісткамі, або нават спэцыяльныя гатункі чырвонай вярбы выпускалі прыгожыя суквецьці, «каткі». Гэтыя пукі вярбы пасьвячаліся на канцы Богаслужбы. Памятаю, калі я быў яшчэ малым, любіў вельмі на Вербніцу ў царкве стаяць на харах і зьверху пазіраць на цэлы лес вербаў. На Вербніцу ў царкве ня было ні аднаго чалавека, які-б ня трымаў яе ў руках. Гэтая пасьвячаная вярба, як і грамнічныя сьвечкі, мела ў жыцьці сялян-земляробаў вельмі шырокае прымяненьне. Яе затыкалі на Радаўніцу на магілках памерлых сваякоў, зь ёю выганялі першы раз жывёлу ў поле, прычым стараліся зьлёгка сьцёбнуць кожную карову галінкай вярбы. Але найшырэй яна ўжывалася на Юр'я, калі людзі йшлі «пад жыта».

У панядзелак пасьля Вербніцы пачыналіся сьпешныя прыгатаваньні да сьвяткаваньня Вялікадня, бо вялікодныя сьвяткі фактычна пачыналіся ўжо ў Вялікі, ці інакш — Чысты Чацьвер.

## Вялікі (Чысты) Чацьвер.

У сувязі з пэўнымі абрадамі й звычаямі, Вялікі, ці як яго ў нас называлі Чысты Чацьвер, быў напалавіну сьвяточным днём.

Існаваў звычай, што ў гэты дзень, калі хто хварэў, аднак яшчэ мог уставаць з пасьцелі, павінен быў яшчэ перад усходам сонца памыцца ў рачцы, возеры ці нават ручаі. У гэты рахунак не ўвайходзілі студні, бо падобна памагала толькі

«жывая» вада. Не памагала таксама й вада з розных штучных каналаў, стаўкоў і т. п. Мыцьцё ў жывой вадзе датычыла таксама й хворай жывёлы, якую некаторыя прабавалі ня толькі мыць, але нават і купаць, што часамі трагічна канчалася. Памятаю, як мой сусед прабаваў купаць хворага на каросту каня. Бедная жывёліна сілком змушаная ўвайсьці ў ледзяную ваду, выбрацца назад на бераг ужо не змагла сваімі сіламі. Прыбегшыя на дапамогу людзі, выцягнулі на бераг ужо няжывога каня. Лічылася таксама памоцным, што калі маладая дзяўчына памыецца ў жывой вадзе, і то не абавязкава на месцы, але нават і ў прынесенай дадому, але напэўна зачэрпнутай да ўсходу сонца. Падобна, што яшчэ лепшыя рэзультаты давала гэтая вада, калі ў яе пакласьці пафарбаваныя ўжо вялікодныя яйкі. Твар тэй дзяўчыны ў далейшым будзе выглядаць гладзенькім і румяным, як вялікоднае яечка. Вось таму гэтай раніцай можна было спаткаць старэйшых жанчын сьпяшаўшых зь вёдрамі, збанкамі ды іншым судзьдзём у бок ракі ці возера. І гэта нягледзячы на перадсьвяточную сьпешку. Але чаго толькі не пашкадуе любячая маці для свае дачушкі?

У гэты дзень таксама як і перад Калядамі, падмяталася, мылася й скраблося ўсё ў хаце й каля хаты. З хаты таксама выносіліся ў пуню ці пад паветку ўсе тыя прылады й рэчы, якія не даваліся адмыць ці адскрабсьці, але без якіх можна было часова абыйсьціся. Каля печы, у качарэжніку застаўляліся толькі неабходныя вілкі, чапяла ды качарга. Выносіліся-ж усе старыя мётлы, лапаты, памёлы, а галоўнае брудныя шматы-«адымалкі» (шматы патрэбныя да зьніманьня гаршкоў з прыпечку). Адным словам, Чысты Чацьвер павінен быў заставіць пасьля сябе ў хаце толькі ўсё чыстае.

Вечарам у цэрквах адбывалася ўрачыстая Богаслужба з чытаньнем Дванаццаці Евангельляў. У часе іх чытаньня ўсе прысутныя, выключаючы хворых і калекаў, стаялі на каленах з запаленымі сьвечкамі ў руках. Пасьля Богаслужбы, калі на гэта дазваляла пагода, усе нясьлі гэтыя запаленыя сьвечкі дадому, каб адну зь іх паставіць перад абразамі. Гэтая сьвечка павінна была гарэць аж да Вялікоднага ранку — да Уваскрасеньня Ісуса Хрыста.

Цяпер жывучы ў гарадох, сярод мора розных сьветлаў мы не маглі-б гэтага заўважыць, але тады на Бацькаўшчыне гэта было цудоўнае відовішча, калі сярод начной цемры, пачынаючы ад царквы ў розныя бакі разыходзіліся ручайкі агеньчыкаў — людзей ідучых адзін за другім з запаленымі сьвечкамі. Прыйшоўшы з царквы, людзі садзіліся да вячэры, якая была сымбалям Апошняй Вячэры Хрыста з вучнямі перад Укрыжаваньнем. Асаблівых страваў на гэтую вячэру не прыгатаўлялася, але яна павінна была мець хоць адну страву з рыбы ці селядцоў і ў дадатку быць шчодрай. На вячэры павінны былі прысутнічаць усе сябры сям'і, адсутнічаць мог толькі той, хто меў для гэтага вельві паважныя прычыны. Бо на Апошняй Вячэры адсутнічаў толькі здраднік Юда.

Некаторыя старэйшыя людзі пасьля гэтае вячэры ня елі нічога, «суха пасьцілі», праз цэлы дзень у пятніцу, сыботу й аж да сьнеданьня-разгаўленьня ў нядзелю раніцай. За маёй памяці гэты звычай выконвала мая бабка Крыстына.

### Вялікая Пятніца.

У Вялікую Пятніцу ў цэрквах ня было ніякіх Богаслужбаў аж да 3-й гадзіны папаўдні, калі адбываўся вынас Плашчаніцы. Пры гэтым адпраўлялася не даўгая, але вельмі ўрачыстая Богаслужба з Хрэсным ходам навакол царквы.



У Вялікую Пятніцу не званілі ў званы й гэта прадаўжалася аж да самай Усяночнай. Таксама ў гэты час не хавалі памерлых, калі ў каго здараліся хаўтуры.

У часе вынасу Плашчаніцы й Хрэснага ходу навакол царквы, некаторыя людзі ставалі на калены прынікшы галавою да зямлі на зложаныя рукі, Плашчаніцу-ж праносілі панад імі. Вярнуўшыся назад у царкву, Плашчаніцу складалі на спэцыяльным падвышэньні пасярод царквы, а на ёй клалі крыж і Евангельле. Кожны-ж з прысутных лічыў сваім абавязкам прылажыцца да Плашчаніцы — стаўшы на калены пакланіцца да зямлі, пазьней пацалаваць крыж, Евангельле й самую Плашчаніцу. Гэта парой трывала доўга, бо людзей у гэты дзень зьбіралася часамі ладне. Калі ўсе людзі выходзілі вонкі, у царкве заставалася некалькі старэйшых жанчын на памятку евангельскіх Жанок Міраносіцаў, і там іх замыкалі на цяжкі замок. Яны маліліся там праз усю ноч і ня мелі права выходзіць аж да ўсходу сонца. Навонкі іх вартавалі царкоўныя прыслужнікі, якія мелі пры сабе ключ ад царкоўных дзьвярэй. Рабілася гэта дзеля таго, каб пазьбегнуць няшчасьця ў разе пажару ці нечага падобнага. Трэба дадаць, што аднэй з умоваў браць удзел у гэтым абрадзе было тое, што ўсе ўдзельніцы яго павінны былі выконваць «сухі пост» пачаты ў чацьвер вечарам. Звычай замыканьня царкоўных дзьвярэй пачаўся ад таго, што пасьля злажэньня Хрыста ў гробе-пячоры, уваход у яго быў таксама замкнуты — завалены цяжкім каменем.

Я добра памятаю, як мая бабка Крыстына адбыўшы «сухі пост» і адмаліўшыся цэлую ноч у царкве, як ні ў чым ня бывала йшла на Усяночную й назаўтра сьвяткавала належна з усімі Вялікдзень.

### Вялікая Сыбота.

У Вялікую Сыботу праводзіліся апошнія прыгатаваньні перад найвялікшым хрысьціянскім сьвятам — Вялікаднем, якое асабліва паважалася беларускімі вернікамі абодвух веравызнаньняў. У гэты дзень моцна занятымі былі гаспадыні.. Трэба-ж было нафарбаваць 2 капы (капа — 60 штук) а то й больш яек, пры гэтым стараючыся, каб яны ня былі менш прыгожымі чым у суседак. Трэба пры гэтым адцеміць, што некаторыя з нашых гаспадыняў, бяручы пад увагу даволі прымітыўныя матэрыялы, як шалухі ад цыбулі, засушаная зялёная жытняя рунь, воск і розныя «крамныя» шматкі, выказвалі не абы якое мастацтва.

Можа каму паказацца дзіўным такая колькасьць фарбаваных яек. Але яны патрэбныя былі для пасьвячаньня, для разгаўленьня па адным кля кожнага ў сям'і, для дзяцей сваякоў, суседзяў, валачобнікаў, на магільнік для памерлых дый мала яшчэ каму. Так што часамі 2 капы й не хапала. Тады прыходзілася пазычаць іх ад суседак, якія прыгатавалі іх больш.

Далей гаспадыні павінны былі сьпячы апошнія «бабкі», якія доўга стоячы маглі зачарсьцьвець.

Ужо пасьля паўдня грамадкі хлапчукоў, дзяўчатак а часамі й старэйшых з кошыкамі ў руках пехатой ці конна, сьпяшалі ў бок царквы, каб пасьвяціць «сьвянцонку». Прыбыўшы на месца яны раскладалі ў радок адзін за адным вакол царквы на падсьцеленых на зямлі ручніках і сурвэтках, усё што было ў іх кошыках, лубках ці ў вузялках. Сьвянцонка складалася пераважна з фарбаваных яек, кілбасы, «бабкі» й абавязкава солі ў сальнічцы.

Праз пэўны час з царквы выходзіў сьвятар з крыжам і крапідлам у руках, а за ім дзяк з збанком сьвянцонай вады. З-заду іх ішоў хтосьці з царкоўных пры-

служнікаў з кошыкам і зьбіраў аплату за пасьвячаньне. Заплатай гэтай былі — яйкі. Сьвятар ідучы зь дзяком сьпявалі Вялікодны трапар, і ў гэтым-жа часе сьвятар увесь час махаў крапідлам пырскаючы вадой на сьвянцонкі. Калі яны крыху аддаляліся, падыходзіў той з кошыкам і пытаў: «Колькі сям'і?» Атрымаўшы адказ, лічыў яйкі на ручніку ды забіраў сабе лішнія. Гэтае пасьвячаньне, у меру як набіралася людзей, паўтаралася некалькі разоў, аж да вечара.

Некаторыя сем'і, асабліва больш заможныя, што жылі недалёка царквы, прыбіралі Вялікодны стол, стаўляючы на ім усю падгатаваную на сьвята ежу й упрыгожваючы яго дзеразой, галінкамі брусьнічніку й наагул зелянінай. Звыкла пасярэдзіне стала стаўлялася міска з фарбаванымі яйкамі а побач яе копчаны кумпяк, далей печанае парасё, кілбасы ды розныя іншыя мясныя прысмакі. Канцы-ж стала займалі ўсялякія бабкі, пернікі, мазуркі, сыр, масла ды хто там усё пералічыць. Пазьней запрашалі сьвятара, які наведваў іх зь дзяком ды пасьвячаў цэлы стол. За гэта ім плацілі, але ўжо ня яйкамі, а грашыма й дадаткова запрашалі назаўтра «адведаць сьвянцонкі». Для пасьвячаньня не стаўлялася на стол гарэлка, на стале зьяўлялася яна толькі назаўтра.

**Вялікдзень (сьвяткаваўся тры дні).**

Вялікодная Богаслужба, як і тут на эміграцыі, пачыналася яшчэ перад поўначай. Роўна-ж у поўнач з царквы вырушаў Хрэсны ход. У маім радзімым мястэчку, калі сьвятар затрымліваўся перад зачыненымі дзьвярыма царквы й пачынаў сьпяваць «Хрыстос Уваскрос», а хор паўтараў за ім, дык пры першых акордах хору раздаваўся аглушаючы выстрал з «мажджэру» (самаробная гармата для ганаровых выстралаў) і ў неба ляцелі align рознакаляровыя ракеты. Калі Хрэсны ход уваходзіў назад у царкву, навонкі яе пачыналася «хрыстосаваньне», — людзі віншавалі адзін аднаго з Уваскрасеньнем Хрыста й пры гэтым замянялі трыразовыя пацалункі. На гэты мамэнт вельмі ахвоча чакалі маладыя хлапцы ды вольна зь яго карысталі, а дзяўчаты, як-бы й не наўмысна стаялі грамадкамі ў менш асьветленых месцах на «сьвінтары». Пры «хрыстосаваньні» яны звычайна крыху бараніліся, але не зашмат.

Калі Богаслужба канчалася, а трывала яна зазвычай больш за дзьве гадзіны, людзі сьпяшаліся дамоў, каб хутчэй разгавецца. У адрозьненьні ад Калядаў, цяпер ужо амаль ніхто ня ехаў, а ўсе йшлі пехатой, выключаючы хіба вельмі старых і хворых. Таму што вярталіся ўсе з царквы перад усходам сонца, дык некаторыя, асабліва моладзь затрымоўваліся на ўзгорках, каб пабачыць, як «гуляе» ўзыходзячы сонца. Бо сярод людзей існавала павер'е, што адзін раз у год, а пайменна на Вялікдзень, сонца ўзыходзячы гуляе, гэта значыць рассыпаецца на дробныя часткі пераліваючыся вясёлкавымі колерамі, і хто гэтага ня бачыў, той напэўна насіў на душы вялікі грэх. Вось дзеля гэтага гуляньне сонца «бачылі» без выключэньня ўсе.

Разговіны, гэта першы скаромны пасілак пасьля сямітыднёвага посту, елі ўсе зь вялікай ахвотай, захоўваючы пры гэтым пэўны рытуал. Сьпярша маці стаўляла на стол усё, што было прыгатована на сьвята. Тут трэба зазначыць, што там дзе стол пасьвячаўся яшчэ ў Вялікую сыботу гэтая чыннасьць сама сабой адпадала. Наступна яна раздавала ўсім прысутным па адным асьвячаным яйку, а тыя аблупліваллі іх вельмі асьцярожна, каб, барані Божа, шалупіньне зь іх не звалілася на падлогу. Пазьней яно зьбіралася й закопвалася ў зямлю дзесьці ў кутку агароду,



там дзе ня ходзіць жывёла, ні людзі, каб не таптаць нагамі пасьвячанай рэчы. Пасьля гэтага бацька, ці хтосьці з старэйшых, памаліўшыся пачынаў зь вялікаю павагай есьці гэтае яйцо. Скончыўшы, наліваў і выпіваў чарку. Пасьля яго, захоўваючы парадак старшынства, рабілі гэта йншыя сябры сям'і, штопраўда дзецям чаркі не давалі, хіба толькі падросткам-хлапцам бацька наліваў паўжартам на дно крышачку гарэлкі. Тады ўжо пачыналі есьці ўсе, што хто хацеў і колькі хацеў.

Сьнеданьне аднак доўга не зацягвалася. Яшчэ раз памаліўшыся ўсё выходзілі з-за стала. У гэты час каля дзьвярэй ўжо раздаваліся галаскі тых, якія прыйшлі «па яйка». Пры гэтым яны віншавалі гаспадароў толькі двума словамі: «Хрыстос Уваскрос!» і за гэта атрымоўвалі па яйку кожнаму.

Старэйшыя хлапцы й мужчыны сьпяшылі на ведамае ўжо ўсім месца, дзе з году ў год адбывалася гульня «ў біткі». Гэтая гульня выглядала наступна: Адзін са спаборнікаў выклікаў іншага, і калі той гадзіўся, дык выклікаючы павінен быў трымаць сваё яйцо моцна ў кулаку вайстрэйшым канцом (носам) угару, а выкліканы мусеў зьлягка стукаць у яго сваім, таксама носам. Чыё яйцо пабілася, той паварочваў яго тупым канцом (пухой), і ізноў паўтаралася тое самае, што й за першым разам. Пераможцам лічыўся той чыё яйцо заставалася цэлым хоць толькі з аднаго канца. Ён забіраў яйцо пераможанага ды йшоў шукаць шчасьця далей. Некаторыя старэйшыя мужчыны ўмелі выбіраць вельмі моцныя яйкі, бо ўмелі іх «мацаваць». Мацаваньне палягала на тым, што гэты ўмелец браў яйцо лёгенька ў тры пальцы й вельмі асьцярожна стукаў ім па сваіх зубах. Гук, які выдавала яйцо, сьцьвярджаў ці яно моцнае, ці не. Але тых, хто меў такія яйкі добра ведалі ўжо іншыя, і перасьцерагалі адзін аднаго, што той ці іншы мае «мацуна». Іншыя, хоць і рэдка рабілі штучна моцныя яйкі, але бяда таму, каму здолелі давесьці падобнае ашуканства. Яго ня толькі праганялі з пляцу гульні, а часамі «расквашвалі» нос, і слава аб ім ішла на ўсю ваколіцу.

(далей будзе.)

---

Васіль Жуковіч

*

Люблю цябе, дарога палявая,
калі над жытам жаўранак сьпявае,
калі з табой гамоняць каласы,
калі змаўкаюць птушак галасы.
Люблю цябе, дарога палявая,
калі самотна ў небе праплывае
ў далёкі вырай жураўліны клін,
калі шугае полымя калін.
Люблю цябе, дарога палявая,
як над табою хмар гурма сівая
праносіцца, прыносіць халады
і замятае сьвежыя сьляды.
Тут размаўляю моўчкі з родным краем,
тут маіх дум нішто не разбурае;
дарога сьветлая, на мілую зямлю
вядзеш,
таму заўжды цябе люблю.

## ЖМЕНЬКА ЎСПАМІНАЎ пра Аляксандра КАЛОДКУ

**Кароткія біяграфічныя весткі:**



Аляксандар Калодка нарадзіўся 14 сьнежня 1911 г. у вёсцы Церабосьцін, Стаўпецкага павету (Наваградчына), дзе бацькі яго Андрэй і Юстына мелі невялікую гаспадарку. Абое былі няпісьменныя. Бацька памёр у 1921 г. ад ранаў, якія атрымаў будучы возьнікам у польска-бальшавіцкай вайне 1920 году. Пачатковую асьвету атрымаў А. Калодка ў сваёй роднай вёсцы, пасьля чаго паступіў у гарадзкое вучылішча ў Ярэмічах, якое скончыў у 1926 г. У тым-жа годзе выехаў у Вільню. Год вучыўся ў Віленскай Беларускай Гімназіі, а пасьля працаваў у газэтах — «Беларускі Дзень», «Сялянская Ніва» ды інш. У 1928 г. злажыў экстэрнам экзамін у польскую дзяржаўную гуманістычную гімназію імя А. Міцкевіча ў Вільні, якую скончыў у 1932 годзе. У тым-жа годзе пакліканы ў Цэнтральную Школу Пяхоты (афіцэраў рэзэрвы), якую скончыў у 1933 г. атрымаўшы ступень плютуновага-падхарунжага. У 1934 г. паступіў на юрыдычны факультэт унівэрсытэту Сьцяпана Баторага ў Вільні. Пасьля атрыманьня дыплёму магістра права ў 1938 годзе, працаваў у юрыдычным аддзеле Грамадзкага Убясьпячэньня. У 1940/41 гг. працаваў настаўнікам 3-й сярэдняй літоўскай школы ў Вільні. Ад верасьня 1941-га году працуе, як надзвычайны ўпаўнаважаны Гебітскамісара ў Вялейцы з галоўным заданьнем правесьці беларусізацыю ў агульнай адміністрацыі й паліцыі. З прычыны пратэстаў у С. Д. (Гэстапо) супраць зьдзекаў і расстрэлаў нявінных беларусаў на дамаганьні І. К-а. і С-а ў сакавіку 1943 г. арыштоўваецца тым-жа вялейскім гэстапо. Трымаецца вязьнем у Вялейцы, Менску (лягер пры вуліцы Шырокай), а ад чэрвеня 1943 г. у канцэнтрацыйных лягерох Асьвянцім, Біркенаў, Бухэнвальд і інш. Пасьля заканчэньня вайны актыўна працуе ў Беларускім Нацыянальным Камітэце, беларускай прэсе, арганізацыі былых вязьняў нямецкіх канцэнтрацыйных лягероў. Ад 1948 году ў Аўстраліі, дзе бярэ актыўны ўдзел у беларускім грамадзкім жыцьці. Сябра Рады БНР ад пачатку аднаўленьня.

На бацькаўшчыне пакінуў двух братоў і дзьве сястры. Турэмныя й лягерныя перажываньні вельмі ад'емна адбіліся на здароўі А. Калодкі. Ад 1979 году на інвалідзкай пэнсіі.

А. К.

Аляксандар Калодка, ці Алесь Калодка, як ён сам сябе называў, быў



адзіным з маіх самых блізкіх прыяцеляў на працягу амаль што ўсяго майго жыцьця. Перадусім ён быў маім блізкім земляком, суседам з бацькаўшчыны, бо-ж ягоная вёска Церабосьцін, Стаўпецкага павету ляжала на граніцы гэтага павету, прыблізна 10 кілямэтраў адлеглая ад мае вёскі Агароднікі, Карэліцкай воласьці, якая ўжо належала да Наваградзкага павету. Рэчка Сэрвіч, разьдзяляла гэтыя два паветы.

Прыблізна ў адзін час, у 30-х гадох, мы былі разам у Вільні студэнтамі Віленскага ўнівэрсытэту імя Сьцяпана Баторага, аж да самай вайны й прыходу немцаў на Беларусь.

Падчас вайны, хутка пасьля таго, як пачалася нямецкая акупацыя, А. Калодка прыняў становішча «надзвычайнага ўпаўнаважанага», фактычна — беларускага дарадніка пры нямецкім «Гэбітскамісары» ў Вялейцы, для ўсяго беларускага абшару, які складаўся ня толькі зь Вялейскай, але й іншых сумежных беларускіх акругаў.

На гэтым становішчы, А. Калодка выканаў запраўды гістарычную беларускую місію. Пратэстуючы супраць усіх незаслужаных жорсткасьцяў, тэрору, зьдзеку й расстрэлаў нявінных людзей, А. Калодка дапамог, а часта й выратаваў жыцьцё тысячам беларусаў. Асабліва было цяжка беларускаму насельніцтву, калі ў першых часох нямецкай акупацыі ўсе адміністрацыйныя становішчы былі захоплены польскімі рэнэгатамі, з тэй толькі прычыны, што яны часьцей ведалі нямецкую мову. Гэтыя палякі на становішчах начальнікаў раёнаў, нямецкіх перакладчыкаў і г. д., фальшыва інфармавалі немцаў, з мэтай зьдзеку й тэрору над беларусамі, што прыводзіла да зьнішчэньня беларускага інтэлігэнцкага актыву.

І ў гэтую, такую цяжкую й небясьпечную пару, прыйшоў на помач беларусам А. Калодка, ратуючы тысячы нявінных людзей. За гэта А. Калодку належыцца вялікая падзяка, за ўсё тое, што ён зрабіў для беларусаў у такі трывожны час на Беларусі.

Па сваёй службе А. Калодка часта мусіў адбываць інспэкцыйныя падарожжы па беларускай тэрыторыі. Праяжджаючы праз мястэчка Лебядзева, каля Маладэчна, ён ніколі не праміную нагоды адведаць мяне ў Лебядзеве, дзе я ў той час пражываў і працаваў настаўнікам у мясцовай народнай школе. Часта за вячэрай ён мне апавядаў аб усіх жахах, якія яму прыходзілася бачыць, ці перажыць. Аднойчы, ён мне разказаў, як ён толькі-што выратаваў жыцьцё мясцоваму школьнаму інспэктару сп. Н. Мядзейку. Справа была ў тым, што пры інспэкцыі Маладэчанскага павету, А. Калодка заўважыў, што на сьпіску людзей, якія могуць быць расстраляныя, і які быў прыгатаваны для нямецкага гэстапа польскім рэнэгатам — начальнікам Маладэчанскага раёну Уневічам, стаіць таксама прозьвішча Мядзейкі. А. Калодка адразу пазваніў яму й парадзіў уцякаць, што той і зрабіў. Такім чынам ён застаўся жывым. А. Калодка зрабіў так для вельмі многіх, якія засталіся жывымі.

А. Калодка неўзабаве быў сам арыштаваны й амаль што зьнішчаны ў нямецкіх канцлягерох, бо ён не служыў нямецкім уладам, а служыў выключна беларускаму народу.

Прычыну яго ўпадку й цярпеньняў я бачу перадусім у тым, што немцы былі тады гітлероўцамі й выпаўнялі толькі нацысткую філязофію — як найбольшае зьнішчэньне «унтэрмэншаў».

А. Калодка быў адным з найбольш адважных і адданых справе, гарачых беларускіх патрыётаў, якія нягледзячы на вялікую небясьпеку стараліся памагчы нашаму шмат пакутнаму беларускаму народу.

Апошні раз я спаткаў А. Калодку пасьля вайны ў Мюнхэне — Нямеччына. Гэта было радаснае спатканьне пасьля ўсіх турботаў ваенных часоў. У 1945/48 гадох, перад ягонай эміграцыяй у Аўстралію, А. Калодка быў вельмі актыўным у беларускім грамадзкім жыцьці ў Нямеччыне. Ён арганізаваў беларускі студэнцкі саюз у Мюнхэне пры міжнародным унівэрсытэце «УНРРА» й быў першым яго старшынёй. Я бачыўся з А. Калодкам амаль штодзень і мы былі неразлучнымі прыяцелямі. Тады хутка прыйшла й мая чарга эміграваць у ЗША й я яго больш ня бачыў у жыцьці. Праўда, мы часта перапісваліся, асабліва перад ягонай сьмерцю.

Вось гэта кароценькі ўспамін аб нашым дарагім А. Калодку.

д-р Барыс КІТ

Пасьля акупацыі Беларусі немцамі, вайсковая акупацыйная ўлада паклікала на працу ў адміністрацыю й службу аховы парадку былых польскіх урадаўцаў. Як ведама, былі гэта палякі або апалячаныя беларусы. Такім чынам, уся ўлада ў Ільянскім раёне апынулася ў польскіх руках. Паколькі сярод іх было некалькі «фольксдойчаў» ведаючых нямецкую мову, яны хутка здабылі давер нямецкіх уладаў і пачалі зьдзеквацца над сялянамі, а інтэлігенцыю прадстаўляць немцам, як камуністых. А. Калодка, даведаўшыся аб жорсткасьці польскай адміністрацыі, паінфармаваў аб гэтым шэфа нямецкай жандармэрыі й папрасіў дазволу замяніць палякаў беларусамі. Шэф жандармэрыі, нехта Новак, крыху разумеў польскую мову й таму сам, відаць, бачыў, як і што там дзеіцца. Ён згадзіўся на прапанову А. Калодкі з умовай, што ўсе становішчы палякаў будуць занятыя беларусамі здольнымі выконваць абавязкі даных становішчаў. А. Калодка прыехаў у Ільлю й пры дапамозе мясцовых беларусаў склікаў актыў ды паінфармаваў яго аб дагаворанасьці з шэфам жандармэрыі. Пры гэтым ён сказаў: «Бярыце ўладу ў свае рукі, каб спыніць зьдзек над сялянамі ды ня быць самым зьліквідаванымі, фальшыва прадстаўленымі немцам, як камуністы й шкоднікі». Актыў прыйшоў да высцаву аб неабходнасьці ажыцьцяўленьня парады А. Калодкі.

Тут-жа, у прысутнасьці Калодкі было пастаноўлена, што ніхто з прысутных ня мае маральнага права адмовіцца прыняць прапанаванае актывам становішча. Зараз-жа былі выбраныя: начальнік раёну, раённы начальнік службы аховы парадку (паліцыі) й школьны інспэктар. Абавязкам гэтых трох асобаў было падабраць сабе адпаведны пэрсанал, звольніць непажаданых і на іх месца назначыць іншых. Былі выпадкі адмовы немцамі зацьвярджэньня нованазначаных асобаў, і тады ізноў памагаў А. Калодка.

Беларусізацыі адміністрацыі Ільлянскага раёну, ды й усяе Вялейскае акругі спрыяла тое, што шэф жандармэрыі Новак спачуваў беларусам, як і заступнік «гэбітскамісара», які казаў, што ягоны прадзед быў беларусам. Называўся ён, здаецца, Нарутовіч ці нешта падобнае, я ўжо гэтага не памятаю.

Неўзабаве, у ўстановах і службе аховы парадку, асталіся на працы толькі тыя палякі, якія ляяльна адносіліся да беларусізацыі ўстаноў, — шкоднікі былі звольненыя й замененыя беларускімі патрыётамі. У правядзеньні гэтых зьменаў — вялікая заслуга А. Калодкі.

Прыпамінаю выпадак, аб якім шмат гаварылі. Аднойчы немцы арыштавалі двух жыдоў і загадалі двум беларускім паліцыянтам завесьці іх у лес і застрэліць. Службоўцы адмовіліся, матывуючы гэта тым, што яны ёсьць службоўцамі аховы парадку, а не экзэрутары. Жандармэрыя іх арыштавала й назначыла на расстрэл. Інтэрвэнцыя Калодкі ў шэфа Новака не давала пазытыўных рэзультатаў. Тады А. Калодка сказаў: «страляйце й мяне, бо я адабраю паступак службоўцаў». Службоўцаў не расстралялі, але выслалі на працу ў Нямеччыну.

Дзякуючы ахвярнай працы А. Калодкі для дабра свайго беларускага народу, спорыліся яго ворагі з польскага шавіністычнага асяродзьдзя, да якіх часам далучаліся й свае безадказныя адзінкі.

Ахвярнасьць і адвага А. Калодкі ў працы для свайго беларускага народу ведамая шматлікім. За гэта ён перанёс зьдзек у нямецкіх канцэнтрацыйных лягерох, адкуль яго, ужо інваліда, вызваліла амэрыканская армія.

Мікола СКАБЕЙ.

Першы раз пабачыў я А. Калодку ў 1951 годзе ў порце Мэльборн, калі ён з М. Скабеем прыйшоў спаткаць нас на мораплаве, прыплыўшым з Англіі.

Працаваў ён тады рабочым у порце. І працаваў ім да ягонае пэнсіі. Цяжкая гэта была праца, але ён ніколі не наракаў. Казаў, што пасьля перажытых гадоў вайны й нямецкіх канцэнтрацыйных лягероў, вырашыў працаваць фізычна, хоць маючы вышэйшую асьвету й ведаючы параўнаўча добра ангельскую мову, мог-бы мець працу шмат лягчэйшую.

Прыехаўшы ў Аўстралію, А. Калодка адпрацаваў кантракт (амаль 2 годы) на плянтацыях цукровага трасьніку ў Куінслэнд, адкуль пазьней пераехаў у Мэльбурн. Адсюль ён ужо нікуды не выяжджаў, бо тут адразу ўключыўся ў беларускую грамадзкую працу.

Тут мы пасябравалі, бо ў нас было шмат чаго супольнага. Яднала нас грамадзкая праца ды пражытая мінуласьць. Ён перайшоў нямецкія канц. лягеры, а я Варкуту.

Алесь не займаў важных грамадзкіх «становішчаў». Адмаўляўся ад іх. Але быў адданым і вельмі карысным грамадзкім працаўніком. Будучы праўнікам, і ведаючы найлепей з нас беларускую мову, ён быў добрым дараднікам, карэктарам ды аўтарам шматлікіх артыкулаў у беларускую прэсу. Ён таксама многа дапамагаў беларускім радыё перадачам у Сыднэі, Мэльбурне й Пэрце, ды трымаў цесны кантакт зь беларускімі дзеячамі на эміграцыі. Быў ён таксама сябрам БІНіМ'у й даўгі час радным БНР.

Па ягонай сьмерці засталося шмат беларускіх і іншых вартасных кніжак, якія жонка А. Калодкі передала М. Скабею й мне.

Алесь Калодка заставіў жонку — Брыгіту, шмат родных на бацькаўшчыне, зь якімі трымаў цесную лучнасьць, ды шматлікіх сяброў на эміграцыі.

Спачывае А. Калодка на беларускай частцы магільніка ў Фоўкнэр — побач помніка Ведамых і Няведамых Змагароў за Беларусь.

Мікола НІКАН.



Уладзімер Глыбінны (ЗША)

## ВЯЛІКІЯ ДАРОГІ

(раман)

працяг

— Няхай сабе будзе й горш, аднак давядзеце мне, калі, дзе і як я займаўся контррэвалюцыяй. Я ўвесь час трымаўся вельмі ляяльна й нічым не парушыў абавязкі савецкага грамадзяніна. Іншая справа, што цяпер, у гэтакі час, вы ўважаеце мяне небясьпечным і я падлягаю паводле ўказу быць ізаляваным. І якая гэта ня была-б памылка з вашага боку адносна мяне, — гэта я магу зразумець. Але вы гэтак і скажыце.

— Мы вас узялі за палітычныя злачынствы, зробленыя вамі, а не за падазрэньне. Ваш абавязак цяпер разброіцца й дапамагчы нам выкрыць усіх злачынцаў, што ў змове разам з вамі. Гэта палепшыць і ваш лёс.

— Таварыш сьледчы... пачаў мову звыклым у саветах словам Кастусь, але ў момант быў абрэзаны сьледчым, які скарыстаў нагоду, каб паказаць сапраўднае мейсца арыштованага.

— Я вам не таварыш, вы арыштаваны злачынец — я вам не магу быць таварышам, хіба толькі грамадзянінам...

— Грамадзянін сьледчы... — пачаў зноў Кастусь, зусім не зьбянтэжаны моцным націскам сьледчага, бо на сваім веку бачыў і ня гэткіх напорыстых, — я паўтараю, што ніякіх злачынстваў я не рабіў і ні ў якія змовы ні зь кім ня ўступаў, таму й падпісаць гэткі недарэчны й недатычны мяне абвінаваўчы акт не магу й не падпішу.

Цяпер у ім загаварыла зноў тая адпорнасьць і чалавечая годнасьць, якая ўжо калісьці выявілася ў стойкім трыманьні перад сьледчымі ў 1933 годзе, калі ён ні сябе, ні нікога іншага не запэцкаў у сваіх паказаньнях, як гэтага не вымагалі розныя на зьмену сьледчыя. І гэта ў той час, калі на яго аж колькі слабых духам маладых людзей нахлусілі аб нейкім уяўным удзеле ў нейкіх уяўных, толькі ў мазгох сьледчых існуючых арганізацыях, што нібыта ставілі за мэту скінуць савецкую ўладу на Беларусі. І далі-ж гэтыя паказаньні якраз хлопцы, якіх ён хіба толькі здалёку ведаў, а часьцей дык і зусім ня ведаў.

Не, нездарма ў ягоных жылах, відаць, цякла кроў продкаў, калісьці знаных у сьвеце асілкаў-люцічаў. Нездарма ён пераняў ад свае маці нязломны, цьвёрды й адпорны характар, а ад бацькі ясны розум, што асьвятляў ня толькі ягоную душу, але высьпельваў прыгожы, чысты, пасьлядоўны й неадступны ад мэты характар ды рабіў яго загартаваным духова да ўсіх перагасаў лёсу, пры якім, паводле словаў паэты, —

...У перашкодах дух расьце...

Як дарэмнымі былі калісьці ўсе натугі сьледчых выцягнуць ад яго якія-небудзь прызнаньні ці вымусіць подпіс пад загадзя складзенымі



імі матэрыяламі, гэтак дарма й цяпер стараўся сьледчы дамагчыся патрэбнага яму для хуткага афармленьня матэрыялу прызнаньня ці подпісу пад абвінаваўчым актам.

— Не! Не! — наадрэз адмаўляўся Кастусь.

— Падумайце, вы-ж маладыя яшчэ, нашто вам псаваць вашую будучыню, — ліслівa падсядаў сьледчы, прапануючы сыгарэтку.

— Дзякуй, не куру... — адмовіўся Кастусь і гэтае "не" прагучэла разам з тым катэгарычным запярэчаньнем усіх намераў сьледчага.

Нарэшце сьледчы страціў надзею вырваць адразу патрэбныя прызнаньні й распачаў запаўняць чарговы фармуляр, голасна чытаючы пытаньні й запісваючы адказы Кастуся.

Калі дайшло да пытаньня, ці быў ужо суджаны ці арыштованы ў мінулым, Кастусь не палічыў патрэбным хавацца, бо ўсё адно даznающца пазьней, калі пачнуць зьлічаць весткі аб ім. Ды ён думаў, што яно ўжо й цяпер вядома, хоць сьледчы нічым гэтага не выяўляў дагэтуль.

— Так, быў асуджаны "асобай нарадай" пры Калегіі ГПУ СССР у Маскве ў 1933 годзе на тры гады працоўна-выхаваўчых лягероў і адбыў пакараньне у гадох 1933-1935 у сібірскім лягеры, а пазьней у Байкалаамурскім.

— А за што? — як-бы зьдзіўлена й неспадзявана запытаў сьледчы. — Паводле якіх артыкулаў крымінальнага Кодэксу?

— 58, пункты 10 і 11, гэта значыць 72 і 76 паводле крымінальнага Кодэксу БССР, — спакойна адказаў Кастусь, шкадуючы за прызнаньне, бо вычуў, што наразе сьледчаму гэта яшчэ ня было вядома.

А яшчэ больш шкадаваў-бы Кастусь, каб ведаў, што за пару дзён пасьля гэтага допыту, ужо й самога будынку НКВД у Менску ня будзе, што ў агні пажару пагараць усе аграмадныя архівы НКВД, а сама армія апрычнікаў разбяжыцца на ўсе бакі. Ім ужо й цяпер не да зьбіраньня даведак пра кожную асобу. Ім толькі залежыла хутчэй апрацаваць заведзеную даўно форму допытаў і далей даць справе ход, каго растраляць, а каго дэпартаваць, калі дазволіць час, у глыб Савецкага Саюзу, дзе прымусовае працы хопіць кожнаму.

Аднак гэта стане вядомым Кастусю колькімі днямі пазьней. Цяпержа, ня вызвалены яшчэ ад страху й сьведамасьці, што НКВД усё ведае й усё бачыць, ён палічыў небясьпечным таіцца. Ён выклаў перад, разгубленымі ад нечаканасьці, сьледчымі ўсё сваё мінулае, якое ўжо колькі год гэтак удала ўтайваў ад службоўцаў і ўстановаў ды стандартных апытальнікаў.

Вось чаму сьледчы асабліва старанна стараўся не прамінуць найменшае дэталі й вельмі рупліва запісваў гэтую споведзь. Цяпер ужо ён меў усе падставы разглядаць яго, як асабліва шкоднага злачынца з контррэвалюцыйным мінулым.

— Вось яно што, дык вы ўжо контрык са стажам, — з асаблівым націскам прагаварыў урэшце сьледчы, кончыўшы пісаць, і адчуўшы сябе пераможцам.

— Цяпер нам зразумела вашае нежаданьне разброіцца й дапагчы

Матурысты й настаўнікі Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе, Нямеччына ў 1948-м годзе.



Вучні Беларускае Гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе перад будынкам гімназіі ў 1948 годзе. Нямеччына - Баварыя.

савецкай уладзе выкрыць чарговую антысавецкую акцыю. Вы заадно зь імі, але мы ўсё ведаем і своечасова папярэдзілі вашую агідную дывэрсыйную работу. Майце на ўвазе, што ўсе вашы аднадумцы й супрацоўнікі ўжо абясшкоджаныя нашымі органамі й разам з вамі будуць справядліва пакараныя.

— Ні вам, ні ім цяпер не ўхіліцца ад адказнасьці перад органамі справядлівасьці...

— Яшчэ раз прапаную вам раскрыцца перад намі й зьмякчыць свой лёс. А інача... вас чакае... Думаю вы самі ведаеце што... Час не такі, каб з вамі цацкацца. Ад вашага раскаяньня залежыць... Выбірайце... — закончыў сваю завучаную тыраду сьледчы, і ў ягоных вачох бліснуў нядобры аганёк.

— Я выбіраю праўду, — сказаў даволі рэзка, ледзь памятаючы сябе, Кастусь, — і толькі дзеля праўды я не магу, чуеце, не магу напісаць вам няпраўды. Гэтым я нанёс-бы сабе большую рану, чым вы можаце прычыніць мне зьняволеньнем.

— Ні тады, у 1933 годзе, ні цяпер я ня быў удзельнікам ніякае арганізацыі, і як і тады я ня ўзяў на сябе няпраўдзівых паказаньняў, так і цяпер я не магу іх узяць на сябе. Зразумейце, маё сумленьне не дазваляе гэтага.

— Падумаеш, сумленьне! Гнілая інтэлігенцыя! Нічога, пасядзіш, сыйдзе зь цябе гэтая буржуазная гнілота, — загаварыў сьледчы, упяршыню ўжыўшы "ты" да Кастуся.

— Вядзі, — загадаў ён малодшаму, што сядзеў наводдалі не сказаўшы ні слова, і пачаў згортваць разложаныя на стале паперы, відаць, зьбіраўся йсьці за новай ахвярай.

Канваер вывеў Кастуся ў другі пакой. Там яго забралі два іншыя чалавекі, якія адразу прапанавалі Кастусю рашпіліць усе гузікі й скінуць зь сябе вопратку. Голы, ён стаяў спакойна, гледзячы, як яны вельмі спрактыкаванымі рухамі адным махам паадразалі з нагавіцаў і марынаркі, паліто й кашулі, нават споднік усе гузікі й кручкі. Адзін зь іх загадаў перагнуцца, каб зазірнуць ва ўсе магчымыя ў целе чалавека сховішчы. Пасьля гэтае нядоўгае працэдуры зьняволены атрымаў сваю вопратку. Нагавіцы трэба было ўвесь час трымаць рукою, каб не зваліліся.

Канваер павёў яго вузкім калідорам на сходы, адтуль на пляцоўку паміж двума жалезнымі брамамі. Забразгалі вялікія ключы аб жалеза й вялікія дзьверы адчынілі ўваход на турэмны двор.

Ужо зусім сьвітала. Дваровая пляцоўка выдалася Кастусю шырокім прасторам, і ён нават усьцешыўся ад думкі, што можа калі-небудзь давядзецца скарыстаць з гэтага прастору ў часе турэмных прагулак вязьняў.

Мінуўшы двор, яны апынуліся зноў перад жалезнай брамай, на гэты раз меншай, якая вяла ў будынак турмы НКВД.

Гэтая другая брама ўразіла Кастуся. Калісьці ў 1933 годзе праз гэтую браму можна было вольна выходзіць усім вязьням, якія ўжо адбылі пэрыяд папярэдняга сьледзтва й пасьля абвяшчэньня прыгавораў былі перасяляныя ў звычайную турму на ніжнім паверсе, дзе перабывалі да часу скіраваньня этапам у далёкае выгнаньне.



Тады й Кастусь скарыстаў з гэтага ніжняга паверху й вольна ўдзень выходзіў на панадворак, чакаючы этапу колькі тыдняў да верасьня.

Цяпер, відаць, ужо ўсе паверхі турмы былі прызначаныя для зьняволеных пад сьледзтвам. Ня відаць, каб яны й пасьля заканчэньня сьледзтва хадзілі на прагулкі. "Рэжым, бачна, пасуравеў, ад часоў "былога лібэралізму" не засталося й сьледу", — думаў Кастусь, падымаючыся ўсьлед за праважатым уверх па шырокіх сходах і адчуваючы за сабою крок у крок канваера.

На другім паверсе, вузкі нізкі калідор з шэрагам дзьвярэй ад камэраў па баках, уразіў Кастуся сваёй перабудовай. Калісьці гэта быў шырокі, з каменнай падлогай калідор з вокнамі ў абодвых канцох. Пазьней, відаць, НКВД перабудавала ўсе паверхі для сваіх патрэбаў, парабіла сэктары ў калідорах і замест колькіх агульных вялікіх камэраў нарабіла шмат маленькіх, можа, каб было менш сувязяў паміж зьняволенымі.

Дзяжурны, узброены вартаўнік, утаропіў халодныя вочы ў Кастуся. Ранейшы канваер перадаў яму нейкія паперкі й той узяўшы іх нешта хутка ўпісаў у аднэй, падпісаў другую ды вярнуў яе канваеру.

— Камэра 35в! — сказаў ён суха да другога канваера, што нейк раптоўна апынуўся каля яго й ,ураз пераняў вязьня.

Зноў дражлівы бразгат ключоў, і... Кастусь апынуўся ў камэры. Дзьверы за ім зачыніліся, але ня чуваць было крокаў, каб вартавы адыйшоў. "Мусіць стаіць ды ў сачок дзівіцца, што раблю..." — падумаў Кастусь. Глядзі, хоць вочы свае вылупі, нічога ты ня ўбачыш. Людзкая душа — гэта глыбока студня, у якой не табе дадзена штосьці бачыць. А ў сачок толькі ўбачыш верхнія бярвеньні ды мохам парослы зруб студні. Не для твайго зроку падземныя струмені крынічна-празрыстых водаў, што амываюць высокія палёты душы, думак і сэрца. О, беднае падабенства чалавека, ці-ж табе апусьціцца на дно гэтае студні, або ўзьняцца ў празрыстыя прасторы чыстага паветра? І ці-ж табе праняцца імпэтам вольнага птаха, што рэжа шыр нябёсаў і з пагардай адкідае тваё зямное поўзаньне на жываце ў пакоры перад тваім хлебадаўцам.

Але не да высокіх думак было зьняволенаму за цяжкімі дзьвярыма зачыненай камэры. Яны толькі бліснулі на момант, каб пагаснуць быццам тыя цені ў шэрым змроку пахмурых скляпеньняў.

## 6. ТРЫЗЬНЕНЬНІ ПЕРШАЕ НАЧЫ

Чалавек стаяў пасярэдзіне камэры. Быў ён невялікі ростам, у гарнітуры з шэрага шэвёту. Ягоныя хітраватыя вочы зьбянтэжана бегалі па Кастусёвай фігуры, як-бы зьдзіўляючыся і, разам з тым, радуючыся, што ён ужо не адзін тут, сярод гэтых цьмяна-шэрых каменных сьценаў, на два жалезных ложкі, прыкручаных да сьцяны.

Была ноч і абодвы ложкі былі паднятыя. Паміж імі быў зусім вузкі праход, як аднаму праціснуцца.

Чалавек стаяў у гэтым прамежку, маўчаў і толькі, як здалося Кастусю, хітравата бегаў вачыма. У першую хвіліну ён выдаўся за нейкага крыміналістага й не спадабаўся. Адылі, пазьней, разгаварыўшыся, ён пераканаўся, што той гэткая-ж ахвяра НКВД, як і ён сам.

І яго забралі ў першы дзень вайны ў Менску разам з многімі іншымі артыстамі Беластоцкага польскага тэатру, што прыехаў колькі дзён перад тым на гастролі ў Менск. Жыд з паходжаньня, паляк паводле свае культуры, трапіў пад пільнае вока НКВД, як носьбіт заходняе культуры. Як і бальшыня артыстых гэтага тэатру, у першы дзень вайны пачалі арыштоўвацца, быццам небясьпечны элемэнт.

Ён ня ведаў прычыны свайго арышту, як і кожны іншы ў гэтай палітычнай вязьніцы. Нічога ня мог прыгадаць, што магло-б зьявіцца парушэньнем савецкіх законаў і прычынай такога сумнага канца іхных гастроляў.

— Мы-ж ставілі толькі ўладай дазволеныя п'есы й нічога нідзе ад сябе не дадавалі. А чаму арыштавалі? — ніяк ня мог ён зразумець свайго становішча.

— Справа ня ў п'есах. Вы — людзі іншае псыхалёгіі, — паясьніў яму Кастусь.

Сам Кастусь спачатку ўсё неяк яшчэ пабойваўся яго, бо дапушчаў, што можа ён тут падасланы адмыслова, каб даведвацца пра настроі й думкі зьняволеных. Таму Кастусь ня ўступаў надта ўжо ў размовы зь ім.

Ён абраў сабе мейсца ў кутку, бліжэй да ваконца, што ўгары ледзьледзь сябе выяўляла, бо ў камэры было цьмяна-мутнае сьвятло ад невялічкае лямпы на століi, а на двары яшчэ не запанавала ранішняе сонца над змрокам перадсьвітаньня. Аднак Кастусь ведаў, што чым далей ад дзьвярэй, тым спакайней, бо пазьней могуць насяліць сюды шмат людзей. Ён разаслаў сваё ватняе паліто ўздоўж сьцяны й з задаваленьнем, больш ад сьведамасьці таго, як добра, што здагадаўся ўзяць яго з сабою, выцягнуўся на ўсю сваю даўжыню. Але ці-ж адразу адолее сон пасьля такіх узварушаньняў? Пачаў успамінаць ранейшыя камэры на гэтым паверху. Тады яны былі вялікія, на колькі дзесяткаў людзей. Цяпер перарobленыя на малыя, калі лічыць два ложкі ў кожнай. Але ня думаю, каб такая раскоша трывала доўга й каб толькі дзве асобы былі тут. Гэта можа быць, — думаў Кастусь — толькі на нейкі вельмі кароткі час. Ад бяссоньня ў галаў лезьлі розныя пякельныя ўспаміны. Малюнкі былога, побач з рэальным, пачалі набываць нават чагосьці перабольшана-страшнога. Скрозь трызьненьні пачаў прыгадвацца 1933 год... Тады Кастусь быў маладым, поўным даверу, бязвусым яшчэ юнаком. Уначы першы раз ўвялі яго ў камэру. Бразнулі дзьверы й яго, нібыта ён упіраўся, штурхнулі з усяе сілы ў камэру. Адразу-ж, толькі ступіўшы за парог, ён зачапіўся нагамі за нейкія цёплыя, мяккія рэчы. Па інэрцыі ён перагнуўся ўперад і ўторкнуўся абедзьвумя рукамі ў іншыя, гэткія-ж мяккія й цёплыя, рэчы. Зьбянтэжаны, прыўстаў, узьвёў вочы ўгару й апусьціў долу. Што за ліха? Ці то мне сон сьніцца? Што за фантастычнае відовішча? — ніяк ня мог ён дайсьці да зразуменьня, што гэта перад ім. Пад ледзь прыкметным, як у густым тумане, сьвятлом закуранае й пачарнелае ад выпарваньня лямпачкі пад самай столяй, унізе, на цэмэнтовай падлозе ляжала суцэльная маса скручаных паміж сабою целаў. Яны былі цесна прыціснутыя адно да аднаго й ад нязручнасьці ўвесь час безперастанку паварочваліся, краталіся й рухаліся. Гэтая людзкая маса займала ўсю падлогу камэры аж да самае "парашы" каля дзьвярэй. У сваім сталым руху яна выдалася тады яму за нейкі клубок вялізарных тлустых чарвякоў.

На кароткі момант яго ахапіў жах. Ці ня трапіў ён у камэру больш жахлівую чым сярэднявечна-інквізыцыйная? Можа ГПУ дадумалася да яшчэ больш страшных мэтадаў расправы й катаваньня, вынайшоўшы гэткую камэру, дзе раскормленыя чэрві-вяліканы даканаюць работу, на якую не здатныя нават самыя тэхнічна дасканалыя прылады? І ягонаму ўяўленьню паказаўся малюнак жахлівае сьмерці,. Ад уяўленьня ён нават заплюшчыў вочы, быццам баяўся спаткаць свой жахлівы канец.

Рух цела каля ягоных ног выклікаў новы спалох, і ён як ад чумы ці гада хутчэй адставіў нагу назад і ўпёрся плячыма ў самыя дзьверы. Уцякаць далей ня было куды. Жах і спалох адабралі голас, крычаць ён ня мог, ды й ведаў, што дарэмна — ніхто не пачуе й не адгукнецца нават пачуўшы.

"Вось дзе мне канец прыйшоў", — мільгнула думка ў Кастуся й хутка пагасла.

Халодны пот выступіў на сьпіне й лобе. "Няўжо канец, от так бяз суду й сьледзтва", — падумаў ён. "Здавалася-б, нічога не зрабіў, ніякага злачынства ды папраўдзе кажучы, і жыць яшчэ не пачаў, усё толькі вучыўся, каб здабыць веды й розум прасьвятліць". "Божа, Божа літасьцівы, за што мяне караеш? — быццам хацелі шаптаць Кастусёвы вусны. — За што-ж Ты наслаў на мяне гэткіх нечалавечых катаў, каб яны мяне, вінаватага толькі ў тым, што на Беларусі нарадзіўся, гэтак неміласэрна тут зьелі". Ён расплюшчыў вочы й зноў пачаў углядацца ў гэты клубок жывых істотаў. Вочы яго ўжо больш асвоіліся з недастатковым сьвятлом і ўжо выразьней пачалі вылучаць і адрозьніваць рэчы.

Ён зірнуў сабе пад ногі. Каля іх ляжаў мужчына, сагнуты з падкорчанымі нагамі. Праз сон нешта час ад часу ледзь чутна мармытаў і цяжка соп. Кастусь пільней угледзіўся й распазнаў у ім чалавека гадоў пад сорак, няголенага з астрыжанай галавой.

"О, дык я тут не адзін, маю ўжо сяброў-пакутнікаў. Але як-жа гэта ён сьпіць тут, прыціснуўшыся да гэтага клубка?" — падумаў Кастусь. Перавёў вочы далей і ўбачыў зноў чалавека, далей зноў і зноў... "Дык гэта-ж людзі!" — узрадаваўся сам сабе Кастусь.

У гэты момант пасярэдку адзін з гэтага клубка падняўся й нібыта лунатык, вобмацкам, наўздагад, не расплюшчваючы вочы, пайшоў

паверсе клубка ў бок дзьвярэй і спыніўся каля парашы.

— Так, так, гэта ўсё людзі, — ледзь ня крыкнуў Кастусь. І ён быў гатовы кінуцца на шыю гэтаму чалавеку, абняць яго, цалаваць зь сьлязьмі на вачох. Гэткім дарагім ён выдаўся яму ў гэты момант. Ён — ягоны быццам збаўца ад таго кашмарнага насланьня, у палоне якога ён быў колькі хвілінаў перад гэтым. Такім самым чынам чалавек гэты вярнуўся на сваё мейсца. Чулася толькі, як гучней мармыталі ды рухаліся жывыя істоты, калі той ступаў паверх іх. Як цень, ён зьнік, улучыўшыся ў гэты рухавы клубок.

Па часе другі, трэці ўставалі, адрываліся ад гэтага спрута з людзкіх целаў, крочылі ў тым-жа кірунку да дзьвярэй, а затым вярталіся да гурбы пад гучнейшыя стагнаньні сонных людзей.

Ніхто не зьвярнуў ніякае ўвагі на новапрыбылага. Кожны ў сьляпую добра арыентаваўся йдучы да мейсца адправаў. Выглядала, што людзі былі тут ужо даўно, і гэтая дарога сталася для іх ужо добра абазнанай.

Ці доўга, ці коратка яшчэ падпіраў дзьверы Кастусь, ён ня ведаў, бо змора й сон канчаткова адолелі яго. Ня чуючы ног пад сабою, ён зваліўся на падлогу, на гэтае куртатае як для дарослага чалавека, мейсца, тут-жа каля самых дзьвярэй. Зарухалася жывая маса каля яго, адчуўшы новы націск, на гэты раз — ужо ягонага цела. Ён доўга яшчэ варочаўся з боку на бок, і на кожны ягоны рух яны адказвалі сваімі збольшанымі рухамі. Нарэшце ноч паглынула сьведамасьць, і ўсё зьнікла з памяці.

І цяпер, больш як праз восем гадоў пасьля тых падзеяў, сярод начы яны яшчэ мучылі Кастуся. Няраз сон ніяк ня мог адолець ягонага ўзрушэньня й нэрвовага неспакою. Малюнкі, як жывыя да сёньня стаяць у ваччу Кастуся, і цяпер, у ночнай самоце, ажылі з новай непераадольнай сілай.

Аднак нядоўга давялося яму карыстацца ночным адпачынкам. Праз якую гадзіну дзьверы зноў загрукацелі й у камэру ўкінулі нейкага старога, брухатага, лысага чалавека. Пазьней, у ранішнім сьвятле, выявілася, што гэта колішні, яшчэ да рэвалюцыі, бундавец, цяпер даўно ўжо толькі нейкі працаўнік аднае арцелі. Ён цяпер таксама выдаўся саветам небясьпечным.

Прадбачаньне Кастуся, што нядоўга ім прыдзецца карыстаць камэрную норму плошчы на чалавека, апраўдалася значна хутчэй, чым можна было спадзявацца. Пад раніцу тут было ўжо людна, а ўдзень, у панядзелак 23-га чэрвеня, на другі дзень вайны, новыя нявольнікі запоўнілі камэру да самых дзьвярэй.

Людзі расказвалі пра сябе. Тут былі былыя ўдзельнікі розных партыяў, якія даўно ўжо ня існавалі й людзі пра іх забыліся. Але пра гэта памятала пільнае НКВД. Былі тут простыя абывацелі, якія зь нейкіх прычынаў трапілі ў лік небясьпечных. Некаторых узялі проста з вуліцы або ўстановаў, якія яшчэ ў гэты першы панядзелак працавалі на загад не перапыняць ніякае працы.

Агранома з Народнага Камісарыяту Земляробства ўзялі ў белым летнім палатняным гарнітуры й сандалетах, палетняму без капялюша. Гэткім і ўкінулі ў камэру. Паадлежваў бедалака бакі на цэмэнце падлогі.

Былі тут і жыды — былыя бундаўцы ці ўяўныя трацкісты. Рэдка хто зь іх нават уяўляў, што гэта за трацкісты й чаго яны хочуць.

Кастусь ведаў пра факты антысэміцкіх выступаў у Нямеччыне, аб жыдоўскіх пагромах яшчэ з прэсы 1933-1938 гадоў. Апошнія гады пасьля савецка-нямецкага пагадненьня, гэткія весткі зьніклі з бачынаў газэт, але вусныя ведамкі часта й цяпер пранікалі адтуль і даходзілі да народу. Сам па сабе факт наяўнасьці гэтых людзей у палітычнай турме яшчэ лішні раз даводзіў Кастусю, што сыстэма тэрору кіруецца зусім ня лёгікай, мэтазгоднасьцю й разважлівасьцю. Зусім наадварот, у практыцы — сьляпое выкананьне загаду зьверху й падганяньне жывое лёгікі фактаў пад дырэктыву з гары. Далі загад ізаляваць небясьпечных, а гэтых ужо знойдзецца даволі паводле фармальных адзнакаў, выпадковых колішніх нагавораў, фальшывых даносаў подлае асокі за кожным. Вынікі — напоўненая да адказу турма людзьмі зусім ляяльнымі, мірнымі, часта зусім старымі й бездапаможнымі, што да палітыкі ці ходу вайны мелі ня большае дачыненьне, чым да руху зямлі вакол сонца.

На гэты выпадак некаторыя апартуністыя адносна сыстэмы тэрору мелі гэткую формулу апраўданьня: "Лес сякуць, трэскі ляцяць". Кастусю ўся гэтая сыстэма безчалавечча выдавалася поўнай адсутнасьцяй правоў чалавека ў СССР і поўнай адсутнасьцяй пачуцьця павагі да асобы чалавека з боку ўладароў і ім падуладных установаў. Ён заўсёды ў глыбі душы з павагай думаў пра правы чалавека жыць, як ён жадае, так як гэта наглядаецца ў краінах заходняе Эўропы.

Але-ж ці скажаш каму-небудзь пра гэта? Хіба толькі сам сабе. Самотным быў Кастусь амаль увесь час ягонага савецкага жыцьця. У гэтым няпраўдзівым і хцівым сьвеце хіба льга было быць іншым, каб застацца чалавекам і асобай? Калі зьнішчаюць у жыцьці ўсе сьвятыні ды перасьледуюць высокароднасьць у людзкім сужыцьці, кожны мусіць шукаць іх асобна, сам-на-сам. Кастусь вынайшаў іх у сваёй душы, яны пасьціліся й дасьпявалі ў ягонай самоце, задуменасьці, у шчырых думках і сэрцы. Таму ён, хоць і не выяўляўся, заўсёды выдаваўся зайздроснаму сьвету іншым, адменным, чужым і падазронным. Вось-жа й не абмінуў ён перагасаў лёсу, а цяпер ляжыць на гэтым цэмэнце, невядомы сьвету вязень, зможаны гаркавымі развагамі пра сваё й сьвету заўтра. Мозг сьвідравала нібы вострым шылам адна неадступная турбота —

...Што-ж дзень наступны мне рыхтуе?..

## 7. ПРАЗ ЗАРЫВА ПАЖАРАЎ

Заранак на ўсходзе здавалася абяцаў тому аўторку цудоўны летні дзень. Ён не хаваў ў сабе нічога таямніча-трывожнага й зусім не пасаваў да тых насьцярожана-няпэўных прадчуваньняў, якімі жыло

насельніцтва гэтага, прыбітага навінаю вайны, места. Менск яшчэ спаў цяжкім і ад позьняе стомы непрабудным сном, калі чэрвенскае сонца пачынала паволі ўсё вышэй і вышэй уздымацца над зубчастымі спадамі ўсходніх лясоў і ружовіць шчарбатыя сьцены камяніцаў вясёлым адбіткам сваіх зырка-іскрыстых, гарэзьлівых праменьняў.

Колькі першых тоненькіх праменьчыкаў прабіліся праз вузкую шчыліну камэрнага ваконца й пачалі павольна рухацца па шурпатай, скрозь у дзюрках, бруднай сьцяне пад стольлю. Кастусь прачнуўся першым. Цяжкія павекі нейкі час не слухаліся й доўга заставаліся апушчанымі на змучаныя бяссоньнем вочы. Цяжкі тлум стаяў у галаве. Быццам нейкая сьвінцовая заслона залягла пад чэрапам, сьвідравала мозг і затуляла Божы сьвет. Балела ў патыліцы. Дрыготкавостры нэрв стукаў у скроні. Кастусь намагаўся пераадолець цяжар апушчаных павекаў. Ён павольна расплюшчыў вочы, і адразу ягоны погляд прыцягнула да сябе блакітнае прадоньне неба, якое віднелася праз ваконную фортку ўгары. Ніводная хмарка не зацяняла нябеснае асіні. Яно зырчэла ў далячыні бяздонным пераліваам аднае чыстае фарбы й цешыла зрок спакусамі вечнае прыгажосьці. Палетняму гарачае сонца ўжо надавала яму лёгкае празрыстасьці й рабіла яго радасным у адчуваньнях кожнага сузіральніка, не кранутага людзкою бядою. Блакітнае неба клікала да адвечнае красы й спакою. На момант, здавалася, чалавек тады забываўся аб той скрусе, што ўжо трэці ваенны дзень неадступна скрабла цяжкімі згрызотамі душу чалавека.

Кастусь доўга ляжаў на падсьцеленым пад бок паліто. Ён стомлена глядзеў на асьветленую пасмамі сонца шчарбатасьць сьцяны, на плахтачку сіняга неба, на камэру, на бледныя твары яшчэ сьпячых на доле людзей і думаў аб неспадзяванасьцях людзкога лёсу. На ягоных вачох сонечны прамень на сьцяне значна абнізіўся, пакуль ён павольна ўзважваў перагасы свае горкае долі. Неўзабаве адзін за другім пачалі прачынацца й іншыя небаракі. Незадоўга ў камэры загаманілі. Людзі прыўздымаліся з каменнага долу й ужо седзячы або стоячы даходзілі да зразуменьня свайго становішча. Не хацелася ні аб чым гаварыць. Ня было чым цікавым дзяліцца зь іншымі. Цяжкія думы поўнілі галаў зьняволенага. Кожны толькі тое й рабіў, што акідаў трывожнымі вачыма іншых, пераводзіў пагляд на ваўчок у дзьвярох, затым журботна прыліпаў зрокам да сьвятла блакітнае палонкі ўгары. І толькі там кожны адчуваў нешта сьветлае й ачышчальнае, што лучыць яшчэ душу з жыцьцём і не дае памерці чалавечым спадзяваньням. Кожны верыў, што нешта мусіць здарыцца такое, што зьменіць няпраўду на праўду, прынясе жаданую волю й канец цярпеньням. Толькі там, за вакном, дзе шумеў жыцьцёвы прыбой, бытавала канечнае шчасьце кожнага. Там засталіся пакутваць, можа яшчэ больш, чым тут за кратамі, іхныя родзічы, дзеткі, жонкі, браты ды сёстры. Кожны зьняволены трымаў у сваёй уяве вобраз найдаражэйшых, пакінутых самотнымі на выпрабаваньні до-



лі. Трывога міжвольна выдзялялася вонкі й клала разоры на задумныя твары прыціхлых нявольнікаў.

Кастусю прыгадаліся словы калішняга сябры па няволі з 1933 году. Тады той выказаўся, што каб якая-небудзь сіла раптам вызваліла ўсіх з вязьніцы й дала кожнаму ў рукі зброю, дык зь якім-бы натхненьнем і энтузыязмам кожны змагаўся супраць сваіх панявольнікаў. Цяпер думка гэтая зноў прыйшла ў голаў Кастусю й ужо на гэты раз як ягоная собская, падмацаваная новымі выпрабаваньнямі. “Эх, каб турэмная брама раптам рашчынілася, а народ пачаў разьбіраць зброю з вайсковых складаў — вось тады крышыў-бы гадаўскія чарапы апрычнікавых галоваў. Ні адзін нявольнік зазнаў-бы смаку помсты справядлівага народнага гневу. Дазналіся-б тады каты, чаго яны вартыя. Пайшлі-б полымям і дымам угару ўсе катавальні й шыбеніцы. Дрыжэлі-б усе ахоўнікі інквізыцыйнае машыны”, — лунала ў сьмедамасьці Кастуся.

Не пасьпеў ён закончыць свае думкі, як раптам над местам трывожна й працягла загулі дзесяткі сырэнаў. Супрацьпаветраная абарона азвалася безьліччу фабрычных гудкоў. Яны настырліва раўлі з усіх бакоў і нараджалі дакучлівыя думкі. Папераджаючы аб набліжэньні нямецкіх самалётаў, яны сваім няроўным пранізьлівым выцьцём паглыблялі нядобрыя прадчуваньні й сеялі ў душы чорны сум.

За колькі хвілінаў у блакітнай вышыні нябеснага прадоньня пачалі лунаць бялявенькія, злучаныя ў купкі, самалёты. На вышыні яны выглядалі чарадою асьветленых сонцам птушак, што ўзьняліся ў паднябесьсе, каб там трымацца свае дарогі ў вырай.

“Але чаму-ж яны ня трымаюцца аднаго кірунку, а ўсё зноў і зноў вяртаюцца на свой, ужо пралятаны колькі часінаў таму, шлях, нібы яны лунаюць уздоўж пэўнага кола?” — думаў Кастусь, дзівячыся на іх скрозь вакенную палонку. І якраз у той момант, калі яны зноў пачалі быць бачнымі скрозь гэты адзіны выхад у нябесны сьвет з камэры, колькі самалётаў пачалі адрывацца ад свае чарады й імкліва кідацца ўніз. Пачуўся моцны гул матораў, што жорстка рваў паветра й набліжаўся да зямлі. Затым з агульнае мешаніны гулу выразна вылучыліся тоненькія й даўгія посьвісты паветра. Яны адзін па адным праразалі празрыстую прастору, а за імі неўзабаве калацілася зямля, дрыжэлі камяніцы й паветра поўнілася магутнымі выбухамі.

Пасьля кожнага ўздрыгу зямлі пад нагамі чуліся глухія ўзрывы й вывараты. Дзесьці важка рушыліся камяніцы, а над усім уздымаўся дым, зьмешаны з пылам вапны. Ад здрыгаў закалаціліся таксама турэмныя сьцены, з гары пасыпаўся пясок. Камэрнікі паселі ў кутох і не адрывалі вачэй ад бачанага кавалачка неба.

“Дык дзе-ж тая хваленая супрацьпаветраная абарона, якой пратрубілі вушы? Як прышлося, дык нідзе ніводнага савецкага самалёта й сьледу ня відно. Адны немцы поўныя гаспадары ў небе. Вось яна, праўда, а ні прапагандовая мана!” — думалі ў гэты час зьняволеныя, і ці адны толькі яны. — Хіба аднымі гудкамі й трывогамі выратуешся ад варожае навалы, што несла з гары сьмерць і разбурэньне

няшчаснаму месту."

На блакітнай раўніне па часе зноў паказалася такая-ж чарада бяляненькіх бліскавак. Яны ляцелі проста ў кірунку турмы. За момант яны зьніклі з абмежаванае рамкаю вакна нябеснае прасторы. Толькі гул матораў ставаўся што-раз мацнейшым. Нарэшце гул гэты ўжо вычуваўся проста над галавою. І тут адзін з самалётаў рэзка адарваўся ад іншых і куляю пачаў зьніжацца. Пачуўся кароткі сьвіст, які перапыніўся цяжкай трасянінай і магутным выбухам недзе тут, зусім поблізу ад Кастусёвай камэры. Моцна задрыжэлі й нібыта адразу пайшлі ў лукаткі камэрныя сьцены. Падлога закалыхалася. Са сьценаў і столі пасыпаўся пясок і пыл. У камэры стала душна й туманна. Усе кінуліся на дол, прабуючы ўхапіцца за каменны спод камэры, як за нейкі ратунак.

У першы момант Кастусю здалося, што бомба трапіла проста ў іхны будынак. Пылам пачало затыкаць нос, вочы й вушы. Яго багата насыпалася за каўняры кашуляў, асела на стрыжаных галовах, ён забраўся і ў кішэні ды ў кожную дзірку вопраткі. Колькі часінаў усе ляжалі зьбянтэжаныя, ледзь бачныя адзін другому. Калі па часе сьціх гул самалётных матораў і ў месьце сырэны адгулі адбой, пачалі ўздымацца й гэтыя людзі. Адны, стоячы, атрасаліся ад пылу й пяску, іншыя рабілі гэта на кукішках або падагнуўшы ногі, седзячы на сваім барахле, а хто яго ня меў — проста на цэмэнтным сподзе. Усе маўчалі. Гаварыць ня было патрэбы. Кожны адчуваў тое-самае, што й іншы. Страх мяшаўся з пачуцьцём няўлоўнай радасьці, што на гэты раз ліха праняслося. Знадворная панурасьць прыхоўвала ўдзячнасьць лёсу за тое, што ён пакуль-што зьлітаваўся над імі й не зачапіў іх сваёю сьмяротнаю ліхаманкавасьцяй.

У той дзень было яшчэ колькі варожых налётаў на Менск. Кожны раз усьлед за трывожнымі гудкамі неба блішчэла серабрыстымі птахамі, што пасылалі на зямлю полымя, гул выбухаў і сьмерць. З розных частак вялікага места глуха даносілася водгульле жахлівых насьледкаў бамбардаваньня. У турме праз дзьверы камэраў даходзілі гукі якіхсьці незразумелых рухаў і бясконцыя шорганьні. На час, калі ў месьце ўсё заціхла, выразьней чулася рознагалосая людзкая гаворка, зьбянтэжаны рух канваераў у турэмных калідорах. Выглядала, што адбылося штосьці надзвычайнае. Сваёй невядомасьцю яно выдавалася зьняволеным чымсьці таемным і нязвычным. Нават ваўчок у дзьвярох, які дагэтуль адчыняўся канваерам бадай-што кожную чвэртку гадзіны, цяпер не адчыняўся. Відаць, было ні да гэтага. Рухі за дзьвярыма набывалі характар нейкае суматохі й неразьбярыхі. Чаканага абеду гэтак ніхто й ня прыносіў. Зьдзіўленымі паглядамі ўзіраліся адзін другому ў вочы зьняволеныя, быццам стараючыся прачытаць у іх адказ на пытаньне, што хвалявала й мучыла ўсіх і кожнага паасобку.

Апаўдні зьняволеных апанаваў нясьцерпны неспакой. Дзеля таго, што зірканьне праз ваконца з падлогі не давала значнейшага ўяўленьня, што тварылася вонкі, адважыліся падсадзіць кагось, каб лепш змог пабачыць ход справаў. Кастусю, як маладзейшаму й лягчэйшаму, першаму выпаў чарод на чужых сьпінах прыўзьняцца да самага ваконца. Перад ягонымі вачамі адразу паўстаў нязвычны малюнак: зьлева гарэў будынак былога Вышэйшага Пэдагагічнага Інстытуту, ператворанага перад вайною ў Кіраўніцтва Заходняе Вайсковае Акругі. Відаць, немцы мелі дакладныя весткі аб характары працы ў гэтым будынку, калі ўжо на самым пачатку вайны лучылі запальную бомбу проста ў самы ягоны сяродак. Высокі слуп дыму стаяў над вялікімі языкамі чырвонага полымя, што лізалі яго з усіх бакоў. Вакол віднеліся разьбітыя камяніцы з пабітымі шыбамі.

Малюнак разбурэньняў глыбака ўразіў Кастуся і ўпяршыню даў уяўленьне аб жахах вайны. Пасьля дзівіліся іншыя, і кожны злазіў назад сумны й утрапёны. Падзеі ўва ўсёй сваё жудасьці паўставалі ўва ўяўленьні кожнага. Усе адчулі, што вайна тоіць у сабе непрадбачаныя выпрабаваньні. Панурыя думкі сквавалі ўсіх у бязнадзейнае маўчаньне.

Даўно мінуў поўдзень, а чаканага падмацунку гэтак і ня было. Недзе каля чацьвёртае гадзіны першы раз за дзень, людзей вывелі ў прыбіральню. Смурод і забруджанасьць давалі знаць аб тым, што ў турме не працавала каналізацыя, ня было вады. Звычайна асьветленыя калідоры, на гэты раз былі ў мроку. Турма была адрэзаная ад крыніцы электрычнага сьвятла. Праз вокны з прыбіральні ўсім яшчэ больш выразна паўстаў абраз нанесенага разбурэньня. У дамох чарнелі павыбіваныя шыбы вокан, тырчэлі шкілеты разбураных камяніцаў.

Неўзабаве зноў усе апынуліся ў камэры. Смага змушала марыць аб вадзе. У кожнага перасохла ў роце й на думцы было адно, каб глынуць якое вадзіцы. Гэта параджала абыякавасьць да падзеяў навокал. Цікавасьць да іх толькі крыху ажывіў пад вечар укінуты ў камэру сьвежы чалавек з волі. Яго толькі-што арыштавалі, як колішняга троцкістага. Яшчэ з гадзіну назад ён ішоў вуліцай, на якой жылі бацькі Кастуся. Ад яго Кастусь і даведаўся, што якраз той бок вуліцы, які яго асабліва цікавіў, гарэў. Ад запальных бомбаў, скінутых на вайсковыя кашары ў Чырвоных камяніцах, насупраць Сьцяпанавага саду, загарэўся ўвесь той драўляны раён. Вецер гнаў агонь да Аляксандраўскай і Шырокай. Полымя пасоўвалася і ўздоўж аднаго боку вуліцы й дайшло аж да Сэмінарыі. А там на рагу якраз і жылі ў драўляным дамку ягоныя бацькі. Кастусь заціскаў нявагаю збуджаны боль. Перастаў распытвацца. Адылі чалавек яшчэ доўга апавядаў аб здарэньнях на вуліцах места. Гаварыў аб тым, як маладыя хлопцы ловяць падазроных асобаў і выдаюць іх за шпіёнаў, як асобаўпаўнаважаныя Службы Бясьпекі вядуць іх у завугольле й страляюць бяз суду й разбору. Апавядаў пра выпадак, калі ён сам ратаваў аднаго знаёмага, да якога прычапіўся хлапчук, што той нібы нятутэйшы й выклікае падазрэньне, ці не нямецкі шпіён ён. Толькі ўмяшаньне расказчыка й ягонае сьведчаньне, што ведае гэтага чалавека, як жыхара Менску, выратавала таму жыцьцё. Чалавек быў

яшчэ дужым, з нерастрачанымі ў змаганьні са сьледчымі сіламі. Ягоная гаворка, відаць памагала яму пераадольваць горкую сьвядомасьць свайго становішча. Ён яшчэ доўга стараўся займаць увагу сяброў па камэры апавяданьнямі аб масавых падпалах у месьце, што прыпісваліся нямецкім шпіёнам. Ад сябе ён ціхенька дадаваў, што бачыў адмысловыя камсамольскія й піянэрскія групы, што расплыліся па ўсім месьце з запальнымі матэрыяламі й, на адмысловы загад партыі, запальваюць буйныя дзяржаўныя будынкі. Ён сам бачыў, як хлопец і дзяўчына праз адчыненае вакно аблівалі памешканьне бэнзінаю й кідалі туды запаленыя сярнічкі. У іншым мейсцы школьнікі кідалі ў будынкі абмочаныя ў газе, палымеючыя скруткі бавоўны. І гэта тады, калі яшчэ з раньня меў моц загад усім выходзіць на працу, як звычайна. Ужо пасьля ранішніх і дзённых бамбардаваньняў і паўсюдных пажарах і забурэньнях, установам загадалі апавесьціць усіх службоўцаў, што яны мусяць зараз-жа й неадкладна, не заходзячы да хаты, выходзіць зь места й кіравацца на ўсход па Маскоўска-Смаленскай або Магілёўскай дарогах. Гэтак пачаўся вялікі выхад насельніцтва Менску на ўсход, далей ад небясьпечнага поступу вайны. Чалавек бачыў гэтыя ўцёкі народу скрозь на загрувашчаных дарогах. Яшчэ больш засмылела ў кожнага на сэрцы за лёс сваіх блізкіх у абнятым пажарамі пусьцеючым месьце.

(працяг будзе.)

---

Юрка Кісялеўскі

**РОДНАЙ БЕЛАРУСІ**

Цябе малююць з прагнай асалодай
Такой прыгожай, лялечнай падчас . . .
Табе-ж ня трэба штучнай пазалоты
І грому не патрэбна гучных фраз.

Ты ня дзівосны кут, ты край звычайны,
Твой сьціплы від ня вабіць знатакоў.
Твая гісторыя ня рве і не злучае
Прастор зямель і бурны ход вякоў.

Была ня раз на ратным бездарожжы.
І процьма бед лунала над табой —
Ты заставалася заўжды непераможнай,
Маўклівай, працавітай і жывой.

Такой цябе згадаю я скрозь сьлёзы
Праз безьліч год, зь любой далечыні.
О, Беларусь! Палеткі ды бярозы,
Ды сінь вачэй, ды сонца ў вышыні.



Ант. АДАМОВІЧ (ЗША)

## МАСТАК НЯТУСКНАЕ КРАСЫ

Мэмуарна-камэнтатыўныя ды крытычна-тлумачальныя нататкі пра жыцьцё й паэтычную спадчыну Алеся Салаўя былі паданыя ў зборы тае спадчыны, выданым БІНіМ пад загалоўкам "Нятускная краса" (бб. 281-329). Там-жа было зазначана, што насьвятленьне больш спэцыяльных мамэнтаў і дэтальнейшы агляд некаторых твораў паэтавых падасца асобным артыкулам пад загалоўкам "Мастак нятускнае красы" пазьней — і гэткі артыкул і падаецца ласкавай увазе чытачоў гэттака.

### У заплеччы вялікіх папярэднікаў

Пры аглядзе пачаткаў біяграфіі Алеся Салаўя ў згаданых вышэй нататках пра ягонае жыцьцё й паэтычную спадчыну (на бб. 284-285) ужо было ўстаноўлена, што эмацыянальную й ідэйную дамінанту ягонае паэзіі становіць нацыянальна-патрыятычны эрас — пачуцьцё любосьці да роднага, да бацькаўшчыны. Там-жа была зробленая спасылка на некаторыя матар'ялы ў часапісе "Сакавік", што выходзіў у 1947-48 гг., дзе быў насьветлены абраз таго нацыянальна-патрыятычнага эрасу ў беларускай паэзіі наагул. Але часапіс "Сакавік" стаўся ўжо бібліяграфічнаю рэдкасьцяй, дык ня шкодзіць паўтарыць напісанае там хоць у вагульным, каб выразьней вырысавалася нацыянальная постаць нашага паэты ў заплеччы ягоных вялікіх папярэднікаў.

Першым зь ведамых выражальнікаў нацыянальна-патрыятычнага эрасу ў нас быў, пэўна-ж, Францішак Скарына, які прыгожа сьцьвердзіў той вялікі закон прыроды, што "людзі, ідзе зрадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, к таму месту вялікую ласку і маюць" (а у вабгрунтаваньнях закону гэтага знаходзім у яго, між іншых, "панежа . . . пціцы, лятаюшчыя па воздуху, ведаюць гнезда свая" — пэўна-ж, салаўёў адсюль ня вылучаючы). А Купала, прыраўноўваючыся да "верабейкі" ў вершы "Я ня сокал", на першым месцы ставіў: "Як ён, край шаную родны", і далей: "Як ён сад — я хатку, поле люблю", ды ў іншых вершах тае-ж "Жалейкі", ужо бяз прыраўнаньняў — пра Беларусь: "Дый люблю-ж я яе, шкада хаткі, гумна" (верш "Гэта крык, што жыве Беларусь"), ізноў тое-ж "дый люблю-ж яе" і аж зусім паскарынінску: "Эй, бо дзе воўк урадзіўся, яму куст той міл!" (верш "Зь песьняў аб сваёй старонцы"). Пра Якуба-ж Коласа Максім Багдановіч пісаў: "Ня ў пекнасьці формы, мовы ці малюнку хаваецца цэннасьць яго вершаў, але ў праўдзівай — далёкай ад усякай хвальшы — любові да Бацькаўшчыны". У Алеся Гаруна, паводля Антона Навіны (Луцкевіча), "сіла любові да свайго роднага абвявае ўсё . . . асаблівым чарам", а яшчэ адзін

зь першых Гаруновых крытыкаў, Павал Любецкі (Каравайчык), абагульніў гэтую рысу Гарунову і на ўвесь наш народ: “Аднэю з добрых адзнакаў нашага народнага характару ёсьць яго гарачае каханьне да роднага краю”. І акадэмік Карскі, адзначаючы тое-ж яшчэ ў Францішка Багушэвіча, таксама цьвердзіў: “Любосьць да свае нявыгляднае радзімы — выдатная рыса кожнага Беларуса”. Пра самога-ж Максіма Багдановіча як паэту ў артыкуле “Ля вытокаў нацыянальнага” ў часапісе “Сакавік” (№ 1-2 за 1948 г.) адзначалася, што ён у “сваім ведамым шэдэўры — векапомнай “Пагоні” . . . даў . . . новы мамэнт у разьвіцьці нацыянальнага эрасу ў нашай паэзіі — мамэнт самаахвярнасьці бясконца, да болю закаханага ў родным”.

Калі-ж прыгледзецца бліжэй да закранутых у нататках пра творчую спадчыну Алеся Салаўя — ягоных вершаў “Ты” — “Мая Беларусь”, дык у іх кантакт з Багдановічавай “Пагоняй” зусім відавочны, у вапошнім радку кожнага зь іх яна нат проста цытуецца. І гэтак, нацыянальна-патрыятычны эрас у Салаўёвай паэзіі, тая, як сказана было, ейная эмацыянальная й ідэйная дамінанта паўстае ў ваднэй роўніцы, дый на адным узроўні, на адным узвышшы з нацыянальна-патрыятычным эрасам у Максіма Багдановіча. Але-ж, як паказвалася ўжо ў нататках пра жыцьцё й паэтычную спадчыну паэты, і будзе яшчэ ўдакладняцца ў далейшым, уся паэзія Алеся Салаўя наагул — у найбліжэйшым і найцясьнейшым кантакце якраз з паэзіяй Максіма Багдановіча, як у вагульным, гэтак і ў паасобных, нат дробных канкрэтных мамэнтах — дый кантакт гэты пачаў навязвацца якраз ад тае “Пагоні”.

## Першы літаратурны кантакт.

Аднак, першы ў часе літаратурны кантакт у Алеся Салаўя быў завязаўшыся (праўда, толькі чыста эпізадычна) не з паэзіяй Максіма Багдановіча. Згадваны ў нататках пра жыцьцё й паэтычную спадчыну Алеся Салаўя ягоны першы друкаваны верш, які зьявіўся ў чэрвені 1937 г. у Койданаўскай раённай газэце “Ударнік Дзяжыншчыны” — верш “На сенажаці” — адразу-ж здраджае нат простаму воку цесны кантакт ягонага аўтара з папулярнай тымі часамі паэзіяй Паўлюка Труса.

Кантакту свайго першага друкаванага вершу з паэзіяй Паўлюка Труса, як даведваемся, быў, ці дакладней — стаўся сьведамы й сам Алесь Салавей — удава ягоная падае ў адным із сваіх лістоў (ад 6. 5. 1980 г.): “Наколькі мне памятаецца, нябожчык успамінаў пра гэты верш. Ён не стараўся насьледаваць П Трусу й ня быў пад ягоным уплывам. Верш атрымаўся сам сабою, і толькі тады, калі яму зьвярнулі ўвагу на падабенства, ён сам пабачыў гэта”.

Запраўды, першы друкаваны верш нашага паэты мае ня толькі той самы загаловак — “На сенажаці” — што й адзін з



Трусавых вершаў (гл. П. Трус. Творы. Менск, 1935, б. 91) і дае той самы абразок, але й падае-разгортвае яго паводля тае-ж трыадзінае формулы — прырода, праца, песьня — што была характэрная для раньняга Труса *) Праўда, ужо й тут наш паэта выявіўся верным свайму, з часам гэтак пільна датрымванаму прынцыпу — імкненьню да сьцісласьці (“каб менш словаў”, як сказана ў ягоным “Кароткім жыцьцяпісе”): абраз, паданы ў Труса ў вершы з трох разьдзелаў на 48-х радкох, у нашага паэты сьціснуты ў папраўдзе “вершыку” на 16-х усяго друкарскіх радкох, а фактычна — вершаваных паўрадкох, значыцца, на 8-х усяго вершавых радкох гэткае даўжыні, як у Трусавым вершы. Праўда, страфа, якую твораць гэтыя радкі, як іх ні друкаваць — паўрадкамі (расьцятымі па цэзуры), як у нашага паэты, ці радкамі поўнымі — інакшая, як у Трусавым вершы “На сенажаці”, але тая самая, як страфа іншага ягонага вершу, блізкога загалоўкам і тэмаю — даўжэйшае вершаванае агіткі “Сенажаць, ды не траві яе” (згаданыя вышэй “Творы” П. Труса, б. 71), дакладней — як страфа мэханічна прычэпленага да гэтае агіткі лірычнага ўступу, які пачынаецца “Ой, пайду я лугам, шыр'ю сенажаці” ды ў якім, між іншага, трапляецца, і тое аж два разы, выраз-дубэльт “траву-руту”, які знаходзім і ў передапошнім радку вершу нашага паэты, а больш у каго бадай ці знайсьці (ёсьць толькі ў фальклёры блізкі дубэльт “рута-мята”). У Труса страфа гэтая трапляецца і ў іншых рэчах — ёю напісаны ўступ да паэмы “Дзясяты падмурак”, а таксама адзін з разьдзелаў (IV) другое паэмы “Чырвоныя ружы”, прычым у гэтых двух выпадках страфа тая й выдрукаваная паўрадкамі, як у нашага паэты, а ў першай страфе ўступу да “Дзясятага падмурку” знаходзім і рыфму “росы-косы”, як у ягоным вершы. Усё гэта даволі сьветчыць пра залежнасьць першага друкаванага вершу нашага паэты ад вершаў Паўлюка Труса.

У тым аднак, што той “верш атрымаўся сам сабою”, бязь сьведамага насьледваньня Труса, як піша ўдава паэта, ніякага дзіва няма. У 1937 г., калі верш пісаўся, а аўтар ягоны вучыўся ў 7-й клясе беларускае савецкае школы, паэзія Паўлюка Труса займала, нават у моц абставінаў, вельмі паважнае месца ў, так сказаўшы, дзейнай беларускай літаратуры. Якраз бо ў тым часе, у хвалях “яжоўшчыны” пазьнікалі ды навеччу зьнікалі нават гэткія нядаўна афіцыйна прызнаныя ды ўсяляк фаварызаваныя карыфэі беларускае рэвалюцыйнае, пралетарскае, савецкае, сацрэалістычнае, як-бы яна ні называлася, літаратуры, як Міхась Чарот, а па ім і Андрэй Александровіч, усе-ж іншыя, ня вылучаючы й клясыкаў Купалы й Коласа, маглі зьнікнуць літаральна

*) Гл. Ант. Адамовіч — «Паўлюк Трус» — у часапісе «Узвышша», № 7 за 1929 г., бб. 91-92 (тут, між іншага, цытуецца й той Трусаў верш «На сенажаці»), а таксама б. 101.

штадня ці штачасіны нават, і творы зьніклых трэба было выкідаць адразу-ж з школьных праграмаў і выдзіраць-выразаць з падручнікаў. Трус-жа памёр яшчэ ў 1929 г., перад сьмерцяй за тую згадваную сваю паэму "Дзясяты падмурак" быў узьняты на шчыт найвышэйшымі партыйнымі аўтарытэтамі БССР, і пра магчымасьць нейкае дэградацыі яго цяжка было й падумаць. Дык Трусом, паэтычнаю "трусяцінаю", як тады казалі, вучняў проста абкормлевалі, той "Дзясяты падмурак" даваўся да вывучэньня напамяць, каб "на зубок", дык і ня дзіў, што першая ягоная страфа —

Падаюць сьняжынкі —
дыямэнты-росы,
Падаюць бялюткі
за маім вакном...
Рашчасалі вішні
шоўкавыя косы
І ўранілі долу
сьнегавы вянок —

— гэтак убівалася ў галаву, што залягала трывалка ў слыхавой нат памяці самым сваім, сказаць-бы, рытмічным касьцяком ды ягонымі рыфмавымі канцавінамі, без аўтэнтычнага сэнсавага напаўненьня-"мяса", так што касьцяк гэты проста аўтаматычна ўсплываў-устрыбваў адтуль пры нагодзе, абрастаючы іншым "мясам", і тым лягчэй, калі "мяса" тое было тая-ж "трусяціна". Але-ж, гэта быў якраз, сказаць-бы, "усплыў" з глыбіняў памяці зафарсаванае туды "трусяціны", а ніякі ня "ўплыў" — у тым, што наш паэта "не стараўся насьледаваць П. Трусу й ня быў пад ягоным уплывам", удава ягоная мае поўную рацыю. І апрача першага друкаванага вершу "На сенажаці" няма ў нас сьветчаньня нейкага, хоць найменшага кантакту паэзіі Алеся Салаўя зь вершамі Паўлюка Труса (ня вылучана, праўда, што гэткія кантакты маглі быць у раньніх вершах Альфрэда Радзюка, пісаных і друкаваных па тым першым у трыццатых гадох пад ягоным прозьвішчам — прыкладам, загаловак аднаго з гэткіх вершаў, выдрукаванага ў часапісе "Полымя рэвалюцыі" (№ 2, за 1938 г., б. 117), гучыць вельмі-ж "патрусоўску" — "Вецер, буй вецер", але тэксты гэных вершаў нам тымчасам недаступныя).

### "Уплывы" й кантакты.

Паколькі зачапілася ўжо ў нас гаворка за Паўлюка Труса ды пад кутом "уплыву", мо найлепш будзе пры гэтай нагодзе на гэтым-жа месцы выясьніць пытаньне правамернасьці прыкладаньня таго, сказаць-бы, задвукосьсенага намі тут слоўца "плыў" да Алеся Салаўя наагул. Рэч бо ў тым, што ў колькасна вельмі небагатай крытыцы Салаўёвых твораў слоўца гэтае пракідаецца-прыкладаецца, дый ці раз, найбольш у спалучэньні зь імём Максіма Багдановіча, радзей Уладзімера Жылкі, ато й проста агульна. З часьцейшым ды мацнейшым прыкладаньнем яго можна спаткацца ў абыватальскіх кулюарных выказваньнях-вытаканьнях пра Алеся Салаўя, ня гэтак чытачоў, як некаторых называных "калегаў" ягоных у пясьнярсьцьве. А што да Паўлюка Труса, дык за сваім кароткім жыцьцём, пакуль, па "Дзясятым падмурку" й за яго, пасьмяротна ня быў ён проста кананізаваны ледзь ня ў "клясыках" беларускае савецкае літаратуры (праўда, з часам "кананізацыя" гэтая была ціхама зьнятая) — мусіў ён выслухаць ад крытыкі, прост як ніхто больш у цэлай нашай літаратуры, процьму дакораў-вытыканьняў (прычым, зусім абгрунтаваных) у пераймальнасьці, "нахіле да чужых тэкстаў" (Клейнбарт, расейскі крытык-публіцысты родам зь Беларусі, аўтар крытычнага нарысу пра беларускую літаратуру "Молодая Белоруссия", 1928) аж да вінавачаньняў у плягіяцтве-творакрадзтве (адна з рэцэнзіяў мела загаловак "Брыдкім шляхам"). І ў згаданым вышэй нарысе пра Труса ў часапісе "Узвышша" (№ 7 за 1929 г., б. 94 і далейшыя) давялося пусьціць нат адмысловы тэрмін на абазначэньне прычыны таго "нахілу" ці "брыдкога шляху" — "падуплыўнасьць", прычым там-жа было паказана, што была гэта грунтоўная асаблівасьць самога Трусавага характару, якая нат у паэтавым жыцьці выяўлялася ў тым, "як лёгка мог паддавацца ён розным староньнім уплывам самых розных асоб". Тым-жа часам можна з поўнай адказнасьцяй цьвердзіць, што ў нашага Алеся Салаўя гэткае "падуплыўнасьці" ў гэтым сэньсе ня было й заваду — добра ведама, як не паддаваўся ён "староньнім уплывам розных асобаў", што проста стараліся так ці йнакш уплываць на яго (як, скажам, нябожчык Юрка Віцьбіч, вельмі шанаваны нашым паэтам як пісьменьнік, ды іншыя, жывыя яшчэ, а часам ужо й "жывыя нябожчыкі"...), на эміграцыі не паддаўся пад уплыў аніводнага з эмігранцкіх дзеячоў, застаючыся "недалучаным" у поўным сэньсе (а ня гэтак, як удзельнікі "блёку недалучаных" "трэйцяга сьвету" ў сучаснай міжнароднай палітыцы) да ніводнага зь лягерна-дыпіўскіх і эміграцыйных антаганістычных угрупаваньняў, і нат наадварот, рэдчас і сам рабіў уплыў на іншых (нат на таго-ж Віцьбіча, што за ягоным прыкладам з часам і сам перайшоў на становішча "недалучанага"; а Уладзімер Глыбінны ў лісьце ад 17-20 сьнежня 1979 г. прызнае Салаўёў, як кажа ён, "добры ўплыў" на сябе ў адным важным выпадку нацыянальнасьведамага трыманьня, зазначыўшы пры гэтым: "Дарма, што мой апанэнт быў на 11 гадоў маладзейшы за мяне й ня меў гэткай адукацыі"...). Трусовай "падуплыўнасьці" ў асабістым характары Алеся Салаўя адпавядала зусім адрозная рыса — хай будзе дазволена ізноў назваць яе нязнаным і нязвычным, на гэта адмыслова створаным словам — рыса "лучлівасьці", або

можа лепш — кантактоўнасьці", імкненьня й здольнасьці лучыцца, кантактавацца з рознымі людзьмі, не падпадаючы аднак пад іхны ўплыў. Ды характар нашага Алеся Салаўя ня вызначаўся гэтай адзінай рысай гэтак, як бадай вычэрпваўся Трусоў характар ягонай "падуплыўнасьцяй". Салаўёва "лучлівасьць", перш-наперш, абмежвалася, блякавалася, тармазілася, нат часам проста паслаблялася другой рысай ягонага характару, якую некаторыя, што знаці яго, азначаюць як сарамлівасьць у дачыненьнях зь людзьмі. Памятаецца, што Максім Гарэцкі, нядаўна тады толькі прыбыўшы з Захаду ў Менск ды выступаючы на публічным сходзе-вечары таксама нядаўна паўсталага "Маладняка", гаварыў пра "сацыяльную нясьмеласьць" беларускае моладзі, перадольваць якую мусіць памагаць "Маладняк" — і Салаўёва "сарамлівасьць" фактычна й была выявам гэткае "сацыяльнае нясьмеласьці" ды, як такая, як казалася, тармазіла часам, паслабляла выяўленьне ягонае таксама-ж сацыяльнае, лучлівасьці, кантактоўнасьці. Але меў Алесь Салавей і яшчэ адну рысу ў сваім характары, што магла ўжо, наадварот, спрыяць дзеяньню ягонае кантнктоўнасьці, хоць у дачыненьнях зь людзьмі датклівага характару магла й шкодзіць. Як сьветчыць ягоная ўдава ў лісьце ад 16. I. 1980, "па сваёй натуры ён быў шчырым, бяз хітрасьці, нічога не таіў, казаў, як ёсьць, часам быў падзіцячаму наіўным дайжа ў апошнія гады свайго жыцьця".

А наверх на ўсё гэта — быў Алесь запраўды тым, што завуць "паэтычнай натурай", і тая-ж удава ягоная ў адным із сваіх лістоў адзначае, што "дзіўны ён меў характар. Яго зусім ня цікавіла зямное жыцьцё. Ён жыў далёка ў прасторы, у сузор'ях, разам з сваймі Камэнамі. Мне здаецца, ён так пасапраўднаму ня здолеў апусьціцца на зямлю". Але-ж самое міталягічнае ймя "Камэны" трапіла да яго наймначай як з твораў гэтак блізкога й любага яму Максіма Багдановіча, з Багдановічавага "Ліста да Ластоўскага" хіба — "Табе прывет нясу, ласкавая Камэна"... І як у таго-ж Багдановіча, у тым-жа "Лісьце да Ластоўскага", была і ў Алеся свая ўлюбёная "пісьменьнікаў чарга; зь іх кожны — блізкі друг, хоць і нябачаны увочы"... І вось на гэтых "блізкіх другоў", паэтаў-творцаў "ласкавае Камэны", ейных, сказаць-бы, сьвятараслужэбнікаў зь якімі-ж і жыў наш паэта ў тым сваім "незямным жыцьці", і пашыралася, ды нат мо першым чынам, тая кантактоўнасьць ягонага характару, зь імі ён шукаў кантактаў дый кантактаваўся на найвышэйшым для яго ўзроўні таго "незямнога"... І жыў-жа ён там нат ня гэтак зь імі, як імі, ня былі бо яны нечым вонкахпаложаным для яго, а былі, жылі ў ім самым. І кантактоўнасьць ягоная найбольш тут і магла рэалізавацца, не магла бо абмяжоўваць яе тут ані "сацыяльная нясьмеласьць", ані адштурхоўвальнае рэагаваньне датклівых натураў на шчырасьць — "другі" — пісьменьнікі йснавалі-ж адно фармальна, адно ў сьведамасьці, а не матэр'яльна,



фізычна ў рэальнай запраўднасьці. Дык не пра ўплывы іхныя на паэту трэба гаварыць — "уплыў"-жа гэта тое, што йдзе-"плыве" звонку, ад вонкахпаложанага — а пра кантакты, лучэньні аж да ўлучэньня ў сябе, у сваё нутро *). І пэўна-ж, гэтыя кантакты, лучэньні-ўлучэньні маглі быць толькі з тымі паэтамі, хто быў "да нутра", нутрана-блізкім ды, як кажуць, кангеніяльным Алесю Салаўю. А гэткіх, выяўляецца, ня было гэтак ужо шмат у яго — Максім Багдановіч, Уладзімер Жылка, (якога некалі ў Вільні назвалі былі "новым Багдановічам" **), Вацлаў Ластоўскі, Уладзімер Дубоўка, Масей Сяднёў — зь беларускіх, якраз на лік пальцаў аднае рукі, а зь небеларускіх — бадай ці на пальцы другое стала-б, тымчасам як Паўлюк Трус выявіў "падуплыўнасьць" цэлай грамадзе самых розных паэтаў розных літаратураў — зь беларускае й таму-ж Багдановічу, і Купалу, і Коласу, і Чароту, і Дубоўку, і сваім аднагодкам у паэзіі Лужаніну, Глебку (гл. той нарыс пра Труса ў "Узвышшы", б. 108), а зь іншых літаратураў — і Пушкіну (ад яго цэлая паэма "Цыганка"), і Шаўчэнку (ад яго гэтак шмат радкоў, інкарпараваных проста жыўцом ***), што найбольш і вытыкалася ў абвінавачаньнях у "брыдкім шляху"), і Ясеніну, і яшчэ ці мала каму — проста, можна сказаць, кожнаму паэту, што так ці йнакш даймаў яго першым ужо ўражаньнем, нейкім яскравым запамінальным радком, вобразам, сытуацыяй...

## Структура таленту.

У часапісе "Конадні", № 3 за 1955 г., на бб. 74-80, у артыкуле-рэцэнзіі на выданьня ў тым часе кніжкі трох паэтаў, сучасьнікаў Алеся Салаўя — Міхася Кавыля, Янкі Юхнаўца ды Масея Сяднёва — спрабавалася азначыць "структуры талентаў" аўтараў гэных кніжак. Калі пад кутом дадзеных там азначэньняў глянуць на Алеся Салаўя, дык адразу-ж ствараецца ўражаньне, што структура ягонага таленту ў сваім "выходзішчы", ужываючы тут тэрмін тае рэцэнзіі, вельмі блізкая да структуры таленту Масея Сяднёва: у Алеся Салаўя таксама-ж "рэакцыі нутранога

*) Калі-б у частых дыскусіях пра «ўплывы» іншых літаратураў на беларускіх пісьменьнікаў у менскай газэце «Літаратура й мастацтва» бралася на ўвагу розьніца між «уплывамі» а «кантактамі» — шмат што выглядала-б ясьней ды прасьцей...

**) Язэп Сьветазар. Новы Багдановіч (літаратурны нарыс). «Сялянская ніва», Вільня, нядзеля 17 студзеня 1926 г., б. 3.

***) Дый тая страфа, што перайшла ад Труса ў першы Салаўёў друкаваны верш, да самога Труса трапіла найбарджджэй што ад Шаўчэнкі — гэта адна з шаўчэнкаўскіх «строфаў, абумоўленых дзесяціскладковым радком з цэзураю», як добра азначыў у сваёй грунтоўнай працы «Строфіка», на б. 309, Ігар Качуроўскі.

на вонкавае й праекцыі першага на другое з поўнай раўнаважнасьцяй перамяжаюцца, а нат, бывае, і пераплятаюцца ды аж як ня зьліваюцца" (б. 79). Дык і ня дзіў, што Масей Сяднёў выклікаў гэтулькі кантактаў у ягоных вершах*). Аднак, пры бліжэйшым углядзе выяўляецца, што дачыненьне між нутраным і вонкавым выглядае ў Салаўя інакш, як у Сяднёва, бо й само тое нутраное інакшае, а загэтым і характар таленту ў канцавым выніку выяўляецца інакшым. "Нутраное ў Сяднёва, — як сказана далей у тэй рэцэньзіі (б. 80), —

> гэта свайго роду цьвярдыня паэты, і пры тым цьвярдыня гэтая — у заўсёдным стане аблогі, ды аблогі якраз вонкавым... Таму... ёсьць адно толькі, адзіна адпаведнае такому стану дачыненьне **ваяваньня.** Адылі, ваяваньне гэтае — ня толькі ўклад дачыненьняў між нутраным і вонкавым: участых яно — і стан самога нутранога, або, з другога боку — прыцягальны й адрэагоўваны мамэнт вонкавага. Наагул, усю ськіраванасьць — «даходзішча» дадзенае структуры таленту найлепш і можна азначыць, як гэткае ваяваньне, а самы талент — як талент свайго роду «ваенны». Пры гэтым аднак варта адразу-ж і ўдакладніць, што гэтае ваяваньне й «ваеннасьць» маюць за сабою ня гэтулькі ваяўнічасьць, колькі якраз наадварот — ваяванасьць, калі льга так сказаць, ці бо — той «стан аблогі», пра які кагадзе казалася».

Калі паспрабаваць характарызаваць у адпаведных ужытым тут тэрмінах і вобразах талент Алеся Салаўя, дык найперш трэба будзе прызнаць, што таму "стану аблогі нутранога вонкавым" адпавядае ў яго якраз адваротнае — стан поўнае адкрытасьці нутранога перад вонкавым. Дый інакшага й нельга было-б спадзявацца пры тэй кантактоўнасьці ў Салаўёвым характары, пра якую казалася вышэй. І пры тэй-жа кантактоўнасьці нутраное Салаўя ніяк ня выклікае супастава зь нейкай "свайго роду цьвярдыняй" наагул, хоць-бы сабе й ня "ў стане аблогі". Найбольш адпавядалі-б тут для азначэньня нутранога ў Алеся Салаўя гэткія выразы зь ягоных вершаў, як "мой гасьцінны харам" (у вершы "Разьвітаньне"), "гасьцінны прыпынак" (верш "Прыпынак"), або нядаўна знойдзенае Максімам Лужанінам слова "гасьцёўня", ці нат даўно знойдзенае Вацлавам Ластоўскім слова "вітальня", а найтрапней мо — кінутае калісь Уладзімерам Дубоўкам гэтак загадкавае шмат каму слоўка "трыкліні" ("у песьнях пабудую свой трыкліні" — уступны верш "Сьцежка" ў зборнічку Credo; "Хто дайлідзіць духу трыкліні?" — паэма "Там, дзе кіпарысы") — давялося-ж тады ці аднаму папагаловіцца над гэтаю загадкаю, пакуль не знайшлося ў старой славутай энцыкляпэдыі Бракгаўза тлумачэньне, што гэта — старавечнарымскае triclinium — сталовы пакой з квадратным сталом, з трох бакоў якога ставілася па канапцы-софцы з трыма месцамі на кожнай, з чацьвертага боку столу падаваліся частаваньні — тут старавечныя Рымляне частаваліся — "частавальня", сказаць-бы панашаму, "трыкліні духу" — "частавальня духу".

Выразных кантактаў з паэзіяй Уладзімера Дубоўкі ў Алеся Салаўя як-бы й няшмат, менш, як з паэзіяй Уладзімера Жылкі, ня кажучы ўжо пра Багдановіча, але ляжаць яны ўсе ў роўніцы якраз таго "духу", што займаў найвышэйшае месца ў Дубоўкавай шкале вартасьцяў ды гэткае-ж месца заняў і ў Салаўя. Гэтак, у Салаўёвым вершы "Пачні з Гамэра" цытуецца ведамае Дубоўкава "ў перашкодах дух расьце" (з падрадковым зазначэньнем пра прыналежнасьць гэтых словаў Дубоўку; цытаваньне, як можна было ўжо бачыць з вышэй паданых прыкладаў зь Сяднёвым — адзін із спосабаў кантактаваньня ў Салаўя*). А "сцэніч-

---

*) Гл., прыкладам, верш «Сустрэча» з прысьвятаю «Масею Сяднёву», дзе гэты паэта называецца «сябром», «другам», «родным братам», а апошнім радком вершу — «да нашай явы берагоў» — загалоўлены ўвесь разьдзел Салаўёвае «Сілы гневу», у якім гэты верш зьмешчаны; або верш «Да жыцьця ад пагібелі крочу», эпіграфам да якога ўзятыя радкі М. Сяднёва, крыху парафразавана паўтораныя ў апошніх радкох гэтага вершу; або, асабліва, паэму «Домік у Менску», у якой цытуецца поўнасьцяй, як сказана там, «слова ў слова» — у разьдзеле 6 — верш Сяднёва з гэткім самым загалоўкам.

*) Выпадак цытаваньня зь іншых паэтаў ёсьць і ў Максіма Багдановіча, у вершы 1911 г. «Кінь вечны плач свой аб старонцы», ён адзначаны ў выпушчаным нашым Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва зборніку выбраных Багдановічавых твораў пад загалоўкам «Максім Багдановіч. Вянок паэтычнай спадчыны» (Нью-Ёрк - Мюнхэн, 1960, б. 118), дзе ў апошнім радку другое страфы гэтага вершу ўзятыя ў двукосьсі словы« ачуняе старана», што ў той верш, якім Багдановіч выразна рэагаваў на першы Коласаў зборнік «Песьні жальбы», трапілі ня йначай, як з Коласавага вершу «Не бядуй», што й адзначана ў рэдакцыйнай «Увазе». Той-жа Коласаў верш «Не бядуй» Багдановіч у тым-жа 1911 г. выразна спрабаваў і паралелізаваць у сваёй мініятурцы «Не бядуй, што хмары», апублікаванай упяршыню ў 1957 г. у менскім часапісе «Полымя». Але гэта быў ужо ня першы выпадак паралелізацыі Коласавых радкоў Багдановічам, першы й найбольш яскравы выпадак яе маем яшчэ ў пачаткавых гадох паэтавае творчасьці — гэта ведамы верш ягоны 1909 г. «Краю мой родны», выразна паралелізаваны да ня менш ведамага першага друкаванага Коласавага вершу «Наш родны край». Усе гэтыя выпадкі Багдановічавага рэагаваньня на Коласавы вершы знаходзяцца ў роўніцы агульнага стаўленьня ягонага да свайго крыху старэйшага нашаніўскага калегі, у паэтычным таленьце якога Багдановіч бачыў талент, у асноўным характары сваім супрацьлежны свайму собскаму таленту. Гэтак, у сваім «аглядзе беларускай краснай пісьменнасьці 1910 г.» «Глыбы й слаі» Багдановіч цьвердзіў пра самога сябе, што ён «гэта паэт-маляр. Слабы, як лірык» (да гэтага цьверджаньня нам яшчэ давядзецца зьвярнуцца грунтаўней у асноўным тэксьце далей на сваім месцы), пасьля таго, як пра калегу свайго зазначыў, што «як артыст-маляр Колас не стаіць вельмі высока», а за колькі радкоў ніжэй выказаўся й пра «выключна лірычны талент Коласа» («Нажаль толькі, выключна лірычны талент Коласа рэдка падыймаецца да асаблівай сілы пачуцьця» — гл. том ІІ-гі першага акадэмічнага выданьня Багдановічавых твораў 1928 г.,

ны абраз" Салаўя "Дух праўдны, духу зла непадуладны" збудаваны ў выразным кантакце з Дубоўкавай паэмай-"камбайнам" "І парпуровых ветразяў узьвівы", на ўступе да якой паэта, зусім у роўніцы свайго ранейшага "Хто дайлідзіць духу трыклíні?", абураўся тым, што "дух трымаем на галоднай норме, а дух скарынкай эпігоннай сыты" (падрабязна аб гэтым кантакце будзе далей на сваім месцы). І яшчэ цікава, што ў адным із сваіх санэтаў — "Змагаром народу" — Алесь Салавей, услаўляючы "дух крылаты" гэтых змагароў, даў як-бы свой адказ на Дубоўкава пытаньне "Хто дайлідзіць духу трыклíні?": гэта яны, змагары народу, што "высока ўзьнесьлі духу краю гмахі" — а ў "гмахах" тых, пэўна-ж, і гэныя "трыклíні" паэтаў-песьняроў, ці адзін зь якіх быў у шарох тых змагароў, як Уладзімер Жылка ды скантактаваны зь ім праз эпіграф да вершу "Ўдзячны ўсім" сам Алесь Салавей — гэткі-ж "пясьняр, змагар" ("хоць можа сам ня ўзьнёс вышэйшы гмах", як у звычайнай яму стродкасьці да самога сябе кажа ён у гэтым вершы). І вось у гэтым "узношаньні"-будаваньні, Дубоўкавым "дайліджаньні" "духу краю гмахаў", а ў іх — "трыкліняў"-частавальняў духу — можна бачыць дачыненьне між нутраным і вонкавым у структуры таленту Алеся Салаўя, адпаведнае да "ваяваньня" ў Сяднёва, а на аснове гэтага й азначыць ягоны талент як архітэктурны, адпаведна да азначэньня таленту Сяднёва як "ваеннага". Азначэньне Салаўёвага таленту як архітэктурнага падмацоўваецца яшчэ й асабліваю цягаю паэты да архітэктурных формаў вершу, найперш санэту *) — прыгадайма, што якраз ад санэту "Гайна" датуе паэта пачатак свае "паважнае працы" — дадаўшы пры гэтым, што ў яго, як у нікога больш у беларускай несавецкай паэзіі (за выняткам можа Міхася Кавыля), гэткі вялікі лік вершаў якраз у гэтай архітэктурнай форме (у паданай у нашым выданьні паэтавай спадчыне — 71 санэт, у тым ліку гэткія папраўдзе "санэтагмахі", як паэма "На хуткіх крыльлях вольнага Пэгаса", напісаная санэтавай страфой — 25 санэтаў ды "Вянок першы" — 15 санэтаў; у Міхася Кавыля, у ягоным зборніку "Цяжкія думы", выданьня 1961 г. — 51 санэт, але-ж пасьля яго Кавыль яшчэ пісаў санэты, тым-жа часам у самога Максіма Багдановіча было іх усяго толькі 5, а ў Масея Сяднёва пры ягоным "ваенным" таленьце ўва ўсіх чатырох зборніках не знайсьці аніводнага санэту наагул, ані іншае якое вершаванае архітэктурнае "кананічнае" формы **).

б. 9, пра Багдановіча на наступнай б. 10-й). На гэтыя выпадкі, у крытыцы й літаратуразнаўстве наагул дасюль не закранутыя, была зьвернутая ўвага нашага паэты Алеся Салаўя ў аднэй зь ім гутарцы, так што ён ад пэўнага часу ўжо быў і сьведамым таго, што ў такіх дэталях, як цытаваньне ды паралелізацыя радкоў іншых паэтаў, ён таксама Багдановічаў пасьлядоўнік, у творчасьці ягога адзінкавыя ў Багдановіча выпадкі гэткія сталіся ўжо шырокай практыкай. Дарэчы, і з Багдановічавага радка «Кінь вечны плач свой аб старонцы» ў Салаўя ёсьць цытата ў першым радку вершу 1952 г. «Кітай» — «Далёка жаль і плач твой аб старонцы» (тут толькі дзеля адаптаваньня ў свой верш слова «свой» замяніў наш паэта на «твой»).

*) Расейскі паэта й вершазнавец Іван Рукавішнікаў (між іншага, адзін з настаўнікаў нашага Дубоўкі ў Вышэйшым Літаратурна-Мастацкім Інстытуце Валерыя Брусава) ў артыкуле пра санэт у першай расейскай літаратурнай энцыкляпэдыі выданьня 1925 году выказаў цікавую думку, што санэт «азначыўся як цьвярдая форма ў XIII веку ў Італіі», калі «архітэктура гатычная перамагла раманскую» ды «дакладна й мудра капіюючы архітэктурныя дасягненьні, паэзія адгукнулася санэтам». У схеме санэту, паводля Рукавішнікава, «прастакутнік двух чатырохрадковак (катрэнаў)», ды «дзьве трохрадкоўкі (тэрцэты), што завяршаюць ягонае цела», капіююць асноўную архітэктурную гатыцкую схэму заходняга фасаду — прастакутнік ды на ім па бакох два падоўжаныя прастакутнікі вежаў, завершаныя раўнабочнымі трыкутнікамі шпілёў-дахаў» (гл. Литературная энциклопедия. Словарь литературных терминов в двух томах. Том II. Издательство Л. Д. Френкель. Москва-Ленинград — 1925, стр. 844-845). Прыгадайма, што й наш Максім Багдановіч гаварыў пра «стройны санэтны гмах».

**) Зрэшты, гэта аніякі сьмяротны грэх: паводле Ігара Качуроўскага, гэткі прызнаваны за вялікага, паэта, як Тарас Шаўчэнка «наагул ніколі не зварачаўся да кананізаваных строфаў» («Строфіка» Ігара Качуроўскага, б.146).

## Паэта й публіка.

У сваім "Кароткім жыцьцяпісе" Алесь Салавей гэтак успамінае пра сваё перабываньне на месячнай канфэрэнцыі маладых пісьменьнікаў, скліканай улетку 1938 г. Саюзам савецкіх пісьменьнікаў Беларусі:

> ...На канфэрэнцыі я быў не ў асаблівай пашане сярод сваіх сяброў-курсантаў — маладых пісьменьнікаў і паэтаў. Меў я тады ўсяго 16 год, быў, можна сказаць, падросткам, а амаль усе астатнія курсанты — дарослыя дзяцюкі. Яны не хацелі мець са мной ніякіх справаў, а некаторыя зь іх уважалі за сорам куды-небудзь разам ісьці са мной. Праўда, мае вершы былі ня горшыя іхных, але іх гэта ня цікавіла, іх цікавіў, відаць, знадворны выгляд чалавека, паводля якога яны давалі ацэнку й вершам. Курсанты, калі дзе-небудзь зьбіраліся разам у вольныя часіны, дык заўсёды гутарылі аб дзяўчатах і іншых падобных справах... Я-ж тады яшчэ мала гэтым цікавіўся, не далучаўся да падобных гутарак, а больш чытаў і працаваў над новымі вершамі. Зь мяне сьмяяліся, зазначалі, што я, напэўна, вар'ят або тупіца, калі над кожным вершам сяджу падоўгу; апавядалі, што, маўляў, Пушкім адным махам пісаў свае творы, а таму трэба зь яго браць прыклад. Нават адзін курсант напісаў на мяне наступную эпіграму:
>
> Такое тупіцы,
> Такое дурніцы

Ня бачыла нават і вока...
О, да паэты яму далёка!

Гэтак, пасьля публікацыі ягоных вершаў у друку, што адчыніла нашаму Алесю Салаўю дарогу ў "маладыя пісьменьнікі", на канфэрэнцыі-курсах гэтых пісьменьнікаў упяршыню спаткаўся ён з дачыненьнем публікі да ягоных паэтычных спробаў. Пакуль вершы не публікаваліся, дык, як мы ўжо бачылі на сваім месцы, Алесевай "публікай" былі ягоныя сям'яне, і дачыненьне іхнае да ягоных першых вершаваных спробаў было спачатку дачыненьнем няўвагі, а пасьля абярнулася й пэўным прызнаньнем ды нат ухвалай. Цяпер Алесева публіка, у дачыненьне зь якою ён прыйшоў, была ня гэтак чытацкая — нармальна наказаная для кожнага пісьменьніка публіка — як, казаў той, пісацкая — публіка гэткіх самых, як ён, маладых пачаткоўцаў, асьпірантаў, кандыдатаў на пісьменьнікаў, зьбіраных Саюзам савецкіх пісьменьнікаў, як сказалася, у свае рэзэрвуары, як зьбіраецца ў іх вада для нейкага ўжытку — піцьця, частаваньня, падліваньня ці йшчэ чаго. Гэтых на месячнай канфэрэнцыі-курсах спрабавалі неяк падаграваць ці то й гатаваць-рыхтаваць на паэтаў-пісьменьнікаў. І гэтыя гатаванцы за паэту Алеся ня прызналі. Ды гэтага няпрызнаньня свае першае публікі, як відаць зь ягонага "Кароткага жыцьцяпісу", ня прыняў ён паважна, бачачы добра, як выходзіла яно не з ацэны якасьці ягоных вершаў, ня горшых, як усьведамляў ён, за вершы ацэньвальнікаў, а з уражаньня ад знадворнага выгляду шаснаццацігадовага, недарослага аўтара *), а таксама зь лёгкаважнага настаўленьня на пісаньне вершаў "адным махам" зь неабазнаным у запраўдным стане рэчаў пакліканьнем на "самога Пушкіна" (па шырака адзначаным у 1937 годзе па цэлым Саюзе стагодзьдзі ад ягонае сьмерці гэта мусіў быць найвышэйшы ідэал і для беларускіх савецкіх пісьменьнікаў), рукапісы якога, як ведама, сьпярэшчаньнем вычыркамі, перачыркамі, папраўкамі, варыянтамі сьветчаць пра зусім адваротнае. Але няпрынятае напаважна няпрызнаньне першае публікі пакінула па сабе ўспамін ды ўсплыло пасьля ня толькі ў жыцьцяпісе, але і ў вершах, і якраз у пашпартавым, сказацьбы, вершы "Паэт", датаваным 1. VII. 1943 г., аўтар пра сябе зазначае зусім з Купалаўскаю іроніяй, падшытаю сьціпласьцяй: "І я — хай не паэт, хай толькі той, хто піша так, ня ў толк..."

Тут варта ізноў зьвярнуцца да Купалы, ад якога мы пачыналі нашыя мэмуарна-камэнтатыўныя ды крытычна-тлумачальныя нататкі пра жыцьцё й паэтычную спадчыну Алеся Салаўя. То-ж бо тая Купалава «Жалейка», ад эпіграфу да якое ў нас пачалася гаворка пра жыцьцё й паэтычную спадчыну Алеся Салаўя, адчынялася ведамым вершам «Я не паэта», што фактычна быў іншаю адно варыяцыяй на тую-ж тэму, што й верш «Я ня сокал», над якім мы спыняліся — аўтар адказваў на тое-ж пытаньне «Хто я?» (што й было нат вынесенае ў адзін із спачатных загалоўкаў гэнага вершу), толькі адказваў зусім іншай публіцы. Публіка, да якое кіраваўся верш «Я ня сокал», была тая, якую Купала ўважаў за сваю ды асабліва хацеў мець сваёю (мо адсюль і тая «памылка» паўтарэньня гэтага вершу ў «Жалейцы» аж два разы): гэта быў той «люд», ад якога ад пачатку, адразу-ж хацелася, каб ён песьняроў «песьню запеў і пазнаў, аб чым песьня пяе» (верш «Чаго-б я хацеў» у «Жалейцы», датаваны яшчэ 1905 г.). Гэта ня была нат яшчэ чытацкая публіка. Звычайная пісьменнасьць, ня тое, каб пісьменства, не дайшла яшчэ да яе. Гэта была публіка сьціплая, і прамаўляць да яе трэба было таксама собскай сьціпласьцяй, дый падаванай у даступных і блізкіх ёй, зусім фальклёрных вобразах «верабейкі», «верабейкавага дзіцяткі» ў супаставе з вобразамі «сакала», «арла», «салавейкі». Гэтак найлягчэй было прыцягнуць да сябе, рашчуліўшы, той «люд», што зналася добра, «сэрца мае, бо па сьвінцы нават плача» (верш «Хоць ты, сэрца, лопні, трэсьні» ў «Жалейцы»). І сьціпласьць, калі й была тут чым «падшытая», кажучы кінутым ужо слоўцам, дык толькі некаторай сантымэнтальнасьцяй, а ніяк ня іроніяй.

працяг будзе

*) Паэтава ўдава ў адным зь лістоў падала й пра адну дэталь гэтага знадворнага выгляду, пра якую ў «Кароткім жыцьцяпісе» ня згадваецца: «Зьявіўся ён на курсы ў бацькавым касьцюме, хоць ён і быў ужо высокі, але худы, і вопратка на ім вісела, як на коліку. Ён пачуваў сябе няёмка, пры тым у рухах сваіх ён павольны».

---

Язэп ПУШЧА

## ПЕСЬНЯ ВАЙНЫ
(1914 - 1915)

### 1

Сагнаны пад зброю мільёны
маўклівых, кастлявых людзей;
імчацца на фронт эшалёны,
імчацца і ўночы й удзень.

У чорную нетру грукочуць
адзін за ідным наўздагон;
пылаюць агністыя вочы
у неба шыбае агонь.

Узбурана мора людзкое,
разгневаным штормам гудзе...
Па рэйках адляскваюць колы,
утома ў чыгуннай хадзе.

Закураны дымам вагоны
і пылам дарожным густым;
ў імкліва-шалёным разгоне
вахтуюць, мінаюць масты.

У прасторы яны прашумелі,
бы ветры зь віхрамі ў жыцьці.
На захад, на фронт ачумелы
вайна эшалёны імчыць.

Плятформы, гарматныя жэрлы,
салдаты, запасу байцы...
У сэрцы ўліваюцца церні,
ўцехі ў жыцьці не знайсьці.

Залюднены залы вакзалаў
і станцыі воўчых сьцяжын.
Натоўпы ахоплены жалем
і гора за імі бяжыць.

Усё ў зроку віецца вужамі;
сланяюцца людзі, бы цьмы, —
прыйшлі разьвітацца з мужамі,
з бацькамі, з братамі, зь дзяцьмі.

Сьлязамі ўмываюцца шчокі,
а вусны цалаюць чало...
Ад роспачы нехта зашчоўкаў,
галошаньне сэрца ўшчало.

Яно у вялікім уроне:
забралі уцеху і сум.
званок за званком на пэроне:
душу у трупярню нясуць.

— Ня трэба яе чалавеку,
павінен увесь азьвярэць.
У закасаных кверху павеках
пановаму будзе зарэць.

І будуць на выкаце бельмы
глытаць кананады агонь.
У разьюшанай злосьці дабела
распыліцца чуласьць яго.

Пайшлі ўжо на прыступ калёны, —
жыцьцё выдзіраюць з грудзей...
Імчацца на фронт эшалёны,
імчацца, і ўночы, і ўдзень.

2.

Акцызьнікі павесілі насы,
аперліся раскіслыя на шпагі.
Ня будзе іх арлом былой красы,
ня будзе ім самым былой павагі.



Аддадзен імпэратарскі загад:
імпэрыю павінны ацьвярозіць!
Пад паліцэйскі аддаю нагляд
Расеі буйнай п'яны розум.

У рэкі з бровараў — гарэлку, сьпірт,
і вымыць варам ўсе рэзэрвуары! —
Які шалёны і дзікунскі спрыт,
у гэтай сіняй і зялёнай гары!

Адкручаны у чанах краны ўсе,
адведзен у раку латак з сукамі.
Гарэлка хваляй-грываю трасе
і вадаспадам падае на камень.

Туман зялёны ўзьвіўся над ракой,
імгліцца сумятня у сіні п'янай.
Вады хтось зачарпнуў аднэй рукой
і неяк зьдзіўлена навокал глянуў.

Была яна адменнаю зусім:
нутро шчыпала і п'яніла галаў;
той чалавек піў за здароўе ўсіх,
пакуль не распластаўся крыжам доле.

Дачуўся дзіву гэтаму народ, —
на жвірны бераг зьбегся на бяседу.
Тут можна перайсьці было у брод
і хутка, зручна ўсё разьведаць.

Хоць раз, хоць раз адзін на ўсім вяку
сяляне могуць выпіць юбілейна.
Дзівіўся месяц з высі на раку
і пучыў над далінай сваё бельма.

Па коньску ухмыляўся на стагі
і піў ваду з расьсеяным запоем.
Жывёлу гналі з поля пастухі
і к звыкламу зьвярнулі вадапою.

Яна сьпілася ад вады уздрыг
і ўлакаткі пайшла лугі трыножыць.
Сабака костку пры дарозе грыз,
і ўгору раптам выць пачаў трывожна.

Усплыла з затонаў рыба на відно:
бясьсільна плюхае між хваль хвастамі,
луской адсьвечвае глыбіняў дно
і плаўнікамі нават ня хістае.

Лаві і не ўцякае ані-ні, —
такіх часін ня ведала ніколі.
Прыйшлі вясёлага пахмельля дні,
а сэрца надрываецца ад болю.

Вялікая сям'я, сям'я сялян
адтопвае на поплаве гулянку.
Усюды, толькі вокам дзе ні глянь,
заядла чокаюць збаны і шклянкі.

Навылет ноч усю і дзень увесь
сяляне сум і гора запівалі.
Шумеў лісьцём асеньня-жоўклы лес
і разьмятаў яго па п'яных далях.

Казёнка з бровараў сплыла з вадой,
падохла рыба ў беларускіх рэках.
Ішло дахаты шляхам шмат удоў,
і кожная з журбою на павеках.

### 3.

Гарматны гром кругом,
дрыжыць душа зямлі;
гранатны бой-агонь
акопнікі ўзьнялі.

Калёны йдуць, ідуць...
Куды й што сустрэць?
З гарматаў залпы б'юць,
нясуць салдатам сьмерць.

Гарачаю крывёй
заліт абшар зямлі.
Пуцінаю крывой
сюды на сьмерць прыйшлі.

Сягоньня на палёх
расстрэл рыхтуюць ёй;
з гарматных горнаў-лёх
агонь зіхціць зьмяёй.

У зарыве прастор,
плянэта ўся гарыць.
Ідзе за строем строй
адхонамі гары.

Са шчэбеня на дол
зара свой сьвет ня льле;
скрыгоча гнеўны боль
у разьюшанай імгле.



Людзкое тут жыцьцё
цаны ня мае звань,
бо восеньню лісьцё
утоптанае ў твань.

Чыйго юнацтва цьвет
ня скошан і ня зьвяў?
Здаецца, увесь сусьвет
да помсты кліч узьняў.

Вунь чорны слуп-маяк,
там тысячы сыноў,
там тысячы ваяк
заснулі вечным сном.

Здалёк, бы здань, відзён...
Вітайце, сьмерці шлюб!
То помнік чорных дзён,
жалобны дух-салют.

### 4.

У хмарах зьвіліся маланкі намітусь,
яснасьцю дзікай асьвечаны дні.
Бура-навала над возерам Сьвіцязь —
хвалі глытаюць маланак агні,
хвалі змываюць пакорнасьць і літасьць.

Выюць вятры на пагібель людзкую,
рэхам скуголіць суцемень дуброў.
Выйшаў з дубровы ў пору такую
полк азіяцкі ў атаку, у бой...
Пояць крывёю зямельку сырую.

Грозныя сілы — дзьве дзікіх стыхіі
крышаць, руйнуюць жыцьця цытадэль.
Мчацца кур'ерам ваякі ліхія:
падаюць галовы іх на адмель,
рукі прасьцерла ім сьмерці багіня.

Восеньню золкаю сівер заўзяты
справіць гульбішча на іхных касьцях.
Гордай дубровы дубовыя шаты
водбліскам вогненным зьзяюць, шасьцяць;
у суме самотным сялянскія хаты.

Словы ратунку й сьлёзы нядолі
ловіць у невад пакуты рыбак.
Рвецца на часткі сэрца ад болю:
гоняць сялян, як бяздомных сабак,
гоняць у бежанцы ў чыстае поле.

Стрэхі іх пушчаны з полымем, дымам.
Зь імі йдзе постаць чумазай чумы;
сьлёзы крывавыя льюцца пад тынам,
вечар жалобны ў кожнай сям'і,
сьлёзы крывавыя падаюць, стынуць.

Зоры ня сьвецяць, а ў роспачы ныюць.
Дзеці губляюць матуляў сваіх.
Людзі на ўзрэччы нябожчыкаў мыюць.
Робяць падушкі зь лістоў ім сухіх.
Голасам немым сабакі ў сінь выюць.

Жаліць жах вусны вужакай кусьлівай;
валяцца, падаюць цені людзей.
Поўзаюць сьцежкамі гадзіны, сьліўні;
ў чорнай сутане сланяецца дзень;
дух чалавечы змарыўся, бясьсільны.

Грае музыка, зайходзяцца гусьлі,
плачуць акорды парванай струны;
нехта лісты па дарозе цярусіць,
нехта галосіць ля чорнай труны —
гэта сыны ўдавы Беларусі.

Ночка ў полі іх крэпам прыкрые;
з чыстай крыніцы нап'юцца вады.
Сьцежкі жыццё за курганамі крывіць —
той-жа над імі ўдушлівы дым.
Плача на сьвежым кургане Марыя.

5

Мая прыгожая! Ня ведаю адкуль ты й хто такая:
у першы раз красуню дзіўную такую спатыкаю.

У тваіх вачох затоена трагэдыя людзкога гора;
здаецца мне, што з хвалямі валос тваіх вятры
гавораць.

Табе паэта юны на прадвесьні зложыць песьню
песень,
акорды-сокалы ўзьвіюцца аж да зораў паднябесься.

Музыкі ўчуюць іх, і смутак струн уцехаю зальецца;
і славіць будуць ўсе імя тваё праз цэлыя сталецьці.

Паэты, ліры гучныя свае на новы лад настройце!
Усе славіць будзем існасьць, толькі ў вобразе ня
тройцы...

Ідзе нявеста з поля ў места, хцівым бляскам скрозь
заліта,



ідзе ў зморы, спачывае ў ночы на каменных плітах.

Ідзе адна пуцінай зьбітай, торнай да сьвятла, да
шчасьця;
яна ў росьцьвіце красы, у росьцьвіце свайго
юнацтва.

Вятры ўзьняліся йзноў, і хіляцца дубы старыя...
Я першы слаўлю імя й называю вам яго — Марыя.

6.

Нядоля ўсім галовы гне,
нядоля вандруе па краі.
Зьвярына разьяраны гнеў
людзкую душу разьдзірае.

У цемень працятай імглы
ўглядаецца зморана горад;
на твары маршчыны ляглі,
у маршчынах зьнябытае гора.

Праходзяць туды й сюды
натоўпы направа, налева.
Казармы, астрогі, суды —
а вецер загады расклеіў.

— Змагацца, змагацца за трон,
ўсім слухацца высшай каманды, —
паэты, музыкі на фронт,
у акопы пад марш кананады.

Атрушчыны белага дня
аплёвала ноч на бульвары.
У ліхтарнях усхліпы агня,
і недзе мэлёдыі арый.

Бэтоннай панэлі далонь
сабакі галодныя ліжуць,
і выюць на чорны балькон —
вэранду шантану «Парыжу».

Сабачае сэрца шчыміць;
праходзяць са шпорамі орды, —
сьвяцейшай нагарады чыны
у чадзе разьятраных оргій.

Жаночыя грудзі грызуць
з аскомай на дзяснах асьлюзлых.
З шантану садомская жудзь
у бардачныя сочыцца шлюзы.

Героі сусьветнай вайны
узьнімаюць атрутную чару;
на вуснах усьмех сатаны, —
дзень штурму, дзень сьмерці страчаюць.

Іх сэрцы крывёй ацяклі;
гатовы на прыступ адважны.
Крывавы ўзьнімаюць кіліх
і п'юць за сьвяцейшую княжну.

У змроку імчыцца машына
да штабу заходняга фронту.
Пакетаў вялізазны стос
прыслалі з пазыцыі ротным.

«Разьбіты... нагалоў... зусім...
ня маем ніводнай калёны...
Зусім засталіся бяз сіл,
рэзэрвы пяхоты ў палоне...

А мы адыходзім на ўсход,
ахоплены страхам панічным.
Нямецкі жалезны паход
дывізыі цэлыя нішчыць.

Знарадамі б'юць і ірвуць,
і труцяць удушлівым газам.
Якая страшэнная жудзь!
У сінь узьлятаюць лабазы.

Далёка, далёка у тыл
лятуць на зары эрапляны;
узьнімаюць там бомбамі пыл
і ўсе перахоплююць пляны.

Сакрэтныя справы складаць,
трывожныя ночы насталі!»
Бязногіх, бязрукіх салдат
развозяць двуколкі ў шпіталі.

Цярпеньні, пакуты й боль,
у канвульсыі сын чалавечы.
«Бязьлітасны, жудасны бой...
За грэх за які я скалечаны?

Сьціскае халодная сьмерць,
уздых аддаю разьвітальны.
У братняй магіле мне тлець
на плошчы пад звон катэдральны».

Па вуліцах цёмных, глухіх
ідуць бязпрытульныя цені;



цяплом не сагрэюць тут іх
цагляныя зябкія сьцены.

Сягоньня ў рыштках, каля крам
пасьцеле ім ночка пасьцелі.
Парваны радняны лахман
прыкрые сьсінелыя целы.

Назаўтра ўстануць чуць сьвет
і рукі працягнуць за хлебам.
На памяць пакінуць свой сьлед
унукам пад небам ганебным.

Душу прабірае мароз,
і сэрца азябіць, застудзіць.
Радзіма, усюды й скрозь
вандруюць панурыя людзі.

Краіна — матуля мая!...
У бяспамяцьці нехта ўзывае, —
у сэрца ўпілася зьмяя,
высмоктвае сокі дазваньня.

Пакутна й цяжка цярпець,
баляць незагойныя раны.
Дакуль-жа суставам рыпець?
дакуль-жа быць краем забраным?

Сырэны трывожна гудуць;
на бруку асколкі шкляныя —
ускорылі людзі хаду,
між імі, між імі Марыя.

## 7.

Жалобныя росы апаўшы ліст росяць;
ажоўклая восень, плаксівая восень.

Журботныя ветры сьпяваюць журліва;
начуе ў даліне палёт жураўліны.

Худыя таполі маячаць у змроку;
на вуліцы люднай таемныя крокі.

Дакорныя вочы ў пакутных абрысах,
на твары смуглявым гаротныя рысы.

Марыя, Марыя на жорсткай панэлі;
нямеюць суставы, і млеюць калені.

Сэрцам Марыі ніяк не сагрэцца —
з роднымі хоча й ня можа сустрэцца.

Ніхто не атуліць матулінай ласкай;
ўсьміхнуцца часамі асеньнія краскі:

Бялюткія астры, чырвоныя ружы,
якіх не асілелі золкія сьцюжы.

І сёньня вось выйшла з асеньнім букетам,
ёй шлях асьвятляюць успыхі ракетаў.

Радзеюць натоўпы на вуліцы золкай.
Вязуць ізноў раненых сьпешна ў двуколках.

«Як многа, як многа! Якая іх веліч!»
Букет свой Марыя сьціскае аберуч.

Ляжаў у апошняй двуколачнай скрыні
у грудзі паранены Юры Іскрыніч.

Здалася яму яго ранаю ружа, —
ён вочы зажмурыў, слабы й нядужы.

Балючая слодыч душу ап'яніла,
рука ў бясьсільлі павісла на біла.

## 8.

І год пятнаццаты вайны ня спыніць.
Далей ужо раскажа вам Іскрыніч.

Шпіталь, санітары і сёстры,
зь лянцэтамі доктар-хірург.
Асколкаў шмат дробных і вострых
дасталі з патрушчаных рук.

Глядзяць, разглядаюць уважна.
Ківаюць галовамі ў такт;
асколкі рукамі ўсё важаць
і робяць спагадлівы знак.

Ідуць да мяне ўсім скопам
і рану ўскрываюць маю;
тут я ўспамінаю акопы
і голаў на грудзі хілю.

Як дзіка ў гэтай палаце:
цярпеньні, пакуты людзей.
Душу маю чым мне залатаць
у гэты скрываўлены дзень?

Здаецца, і сонца патухла
і дзень ледзяніцца ў імгле.
Салдаты бяз хлеба апухлі,
народ абяднеў, агалеў.



Пайшоў жабракамі па сьвеце,
магілы жабрачыя скрозь.
І ў ночы нам зоры ня сьвецяць,
і сыплюцца сьлёзы зь бяроз.

Сырыя акопы, байніцы,
на тысячу крокаў прыцэл...
Я стрэльбу у час навальніцы
сьціскаў шчэ мацней у руцэ.

Услухоўваўся ў шорах трывожны,
к зямлі прыціскаўся, бы крот,
і нюхаў, як вострыя ножны
калючы раскусваюць дрот.

Мне дрыж адбірала суставы,
і жылы нямелі усе.
Стральбу адкрывалі заставы, —
гусьцеў кулямётны расьсеў.

Я вынес цяжкія настроі
з крывавых акопных далін.
Скалечылі, вывелі з строю,
Жыцьцё ні за што аддалі.

Сышліся народы імпэр'яў
у сваёй прадсьмяротнай вясьне.
Як цяжка ня верыць і верыць,
што сонца засьвеціць ясьней.

Мне сорамна неяк сягоньня
і горка, пакутна ў душы;
пакорна ішоў у агонь я,
і брата за горла душыў.

Як стацца магло так са мною?
Ня ведаю нават і сам.
Ня ўзяў-жа усіх нас маною
сьвяты імпэратарскі сан.

Змагаўся за трон я Расеі,
імпэрыі воінам стаў,
хоць помніў, што колісь над сынам
матуля схіляла свой стан.

Матуля, мая ты Матуля,
страшною ты стала якой!
Якою ты стала сутулай,
згубіўшы шляхі у вякох!

Злажу я паэму аб гэтым
і буду чытаць на зары.
Зьбяруцца другія паэты,
заплачам мы ўсе наўздрыг.

У часы, калі зьвякае зброя,
у часы гістарычных падзей;
народы ўсе маюць гэрояў,
выдатных, славутых людзей.

Паэты іх песьнямі славяць,
імя іх на вуснах ўва ўсіх.
Заўсёды народная памяць
за іх узьнімае кіліх.

Шчасьліўцы, шчасьліўцы народы,
плянэта для іх для адных.
У краіне, зь якой-жа я родам,
заўсёды жалобныя дні.

Я сёньня ўглядаўся у цемру, —
гэрояў пабачыць хацеў.
Пабачыў-жа вострыя церні
і чорны зьнявечаны цень.

Па сьцежцы ступаў ён трусьліва
і нюхаў украдкам зару.
Праз зубы цадзілася сьліна
і пляміла сочную рунь.

Ня мужная постаць гэроя,
а дрыжыкі ў страсе труса.
Як глянеш — нікчэмнае гора,
ня верыш, ня верыш нат сам...

Ня буду я песьняю славіць
прыблудны і чорны той цень,
хоць знаю, што хочацца славы
у гэты засмучаны дзень.

Імкліва глядзела вачыма,
на сэрцы, у душы неспакой...
Што гэта была за дзяўчына?
Прыгожай ня бачыў такой.

На твары гаротныя рысы,
шчэ больш адцянялі красу.
О, зорка мая, усьміхніся!
Разьвееш салдацкі мой сум.

(далей будзе)



## СЁЕ - ТОЕ... і яшчэ НЕШТА...

Ён стаяў на скрыжаваньні дабра й зла: адна дарога вяла дамоў, другая — у забягайлаўку.

**Зуб мудрасьці ёсьць у кожнага, але ня кожны мае мудрасьць.**

Я магу секануць праўду ў вочы каму хочаш: мне ўсё роўна, што арэшына, што дуб, — хвалілася сякера.

**Розум — ня зуб, яго не ўставіш.**

Курынаму хору й салавей не дапаможа.

**Крапіву лепш за ўсё рваць чужымі рукамі.**

У душу ўваходзяць бяз стуку...

**Спадзяваўся йграць першую скрыпку, а давялося скакаць пад чужую дудку.**

Ён ня мог быць вучоным па стане здароўя: у яго не варыла галава.

**Падстаўляючы чалавеку плячо, глядзі, каб ён на галаву ня сеў.**

Ворагаў яшчэ не набыў. Толькі пасварыўся зь сябрамі.

**Толькі цяжар славы ніхто ня хоча перакінуць на чужыя плечы.**

Ува мне захавана мудрасьць вякоў, — сказаў пень і ў доказ пакazаў лысіну.

**Тры пальцы могуць трымаць алавік і... таксама зрабіць дулю...**

— І галава вялікая, а дурань! Уздумаў на плот лезьці, — папікнуў бурак гарбуза.

**Любую лужыну сьвіньня лічыць сваёй уласнай.**

Калі любіш толькі сябе — можаш не жаніцца: дваіх любіць нельга.

Яго музыку ніхто ня чуў: ён граў на нэрвах.

**Калі жанчына страляе вачама навокал, гінуць толькі мужчыны.**

Мільён людзей — мільён меркаваньняў, мільён аслоў — адно меркаваньне.

## САМ САБЕ...

### Гумарэска

Вось усе гавораць і пішуць — п'янству бой! Правільна, з п'яніцамі інакш нельга зь імі змагацца трэба! Нездарма кажуць, што ў іх увесь інтарэс жыцьця на дне бутэлькі схаваны.

Я вам з гэтай нагоды раскажу невялічкую гісторыйку, што са мною адбылася.

Сам я — чалавек непітушчы. Трываць не магу гэтае д'ябальскае вадкасьці. Але вось нядаўна сутыкнуўся зь ёю, каб яе пярун спаліў...

Дык, значыцца, так было. Застудзіўся я. У грудзёх сьціснула, насмарк і ўсё такое іншае. Сабраўся да лекара ісьці. А тут мой сусед Антон увальваецца. Паслухаў пра маю біду й кажа:

— Глупства гэтая твая прастуда. Ніхто й ніколі зь ёю да лекараў не хадзіў. Народная мэдыцына сілу мае. Вазьмі гарэлкі, зрабі цёплы кампрэс на грудзі, а што застанецца ў бутэльцы — усярэдзіну прымі. Зь перцам. Як рукою здыме...

І мая Каця пагадзілася з такім рэцэптам. Пабегла ў магазін, прынесла паўлітроўку, кампрэс мне на грудзі прыклала. Потым наліла шклянку гарэлкі, лыжку чорнага перцу туды кінула, разьмяшала й прымусіла мяне выпіць гэтую брыдоту.

Выпіў. Прылёг на канапу й чакаю выздараўленьня.

Ляжаў, ляжаў — надакучыла. Зірнуў я адным вокам з-пад коўдры — няма маёй Каці, няйначай на працу пайшла. А тым часам у маёй галаве музыка зайграла. Здалося, што і ў грудзёх ціснуць перастала. Мне зрабілася дужа весела. Я падняўся з канапы й пачаў бадзёра хадзіць па пакоі. Нават нешта сьпяваць намагаўся.

Раптам чую — нехта ключамі бразгае, дзьверы адмыкае. Ну, вядома — жонка вярнулася. Я хуценька кульнуўся на канапу й прыкрыўся коўдрай. А жонка ціхенька падыйходзіць да мяне ды кажа:

— Васілёк, я з працы адпрасілася, каб цябе яшчэ падлячыць.

Толькі гэтага яшчэ не хапала! Учапіўся я ў коўдру й ляжу, не абзываюся.

— Васілька, што з табою? — тузае мяне жонка за нагу.

Во прычапілася! Я трохі прыўзьнімаюся й кажу:

— Палягчэла крыху. А ты йдзі на працу, я сам далячуся, вунь у бутэльцы яшчэ засталося крыху «міксутуры».

Жонка, праўда, на працу не пайшла, а выйшла на кухню па сваіх гаспадарчых справах. А я хуценька падняўся, дапіў, што ў бутэльцы заставалася...

Неўзабаве ў галаве яшчэ больш зайграла. Так мне весела зрабілася, што я пастанавіў пайсьці на кухню й пацалаваць ад радасьці сваю Кацярыну.

Да кухні, праўда, я не дайшоў. На дарозе мне сустрэліся... дзьверы. Замест Кацярыны «пацалаваўся» зь імі.

Назаўтра раніцай я за галаву хапіўся: верхняя губа расьсечаная, на лобе — гузак. Цяпер ужо, пэўна, трэба да лекара йсьці. Да лекара то нічога, а вось як з такім тварам на працу паказацца? Але што тут будзеш рабіць: схадзіў да лекара, а потым на працу пайшоў. Начальнік зьдзівіўся:

— Што гэта з табою, Васіль? Хто гэта цябе так адмалацаваў?

Тут першы раз на жыцьці зманіць давялося.

— Дровы, — кажу, — калоў, вось палена.. гэтае самае...

А начальнік ціха ўсьміхаецца:

— У вас-жа газавае ацяпленьне...

Во, як я сам сябе асарамаціў. І ўсё яна вінавата, гэтая праклятушчая гарэлка, каб яе пярун спаліў...

Т. К.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК





— Тата смажыў мне яечню...



— Запамятай раз і назаўсёды! Калі я гавару „мілы мой“, я маю на ўвазе толькі яго!..



— Хоць бы ветрык які! Нешта яблычка захацелася...





